ЛіМ

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

26 ЛІПЕНЯ 2002г. № 29/4163 КОШТ 310 РУБ.

## ВЫЙСЦЕ АДНО — АРГАНІЗАЦЫЙНЫ З'ЕЗД САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

***Мікола МЯТЛІЦКІ: "Мы павінны застацца ў поўным сэнсе слова грамадскай прафесійна-кваліфікаванай арганізацыяй, паяднаўшы свае мэты з дзяржаўнымі інтарэсамі ў клопаце пра сталяванне духоўнасці, будаўніцтва моцнай і квітнеючай Беларусі, умацаванне суверэннага дома, які мае свой гістарычна-трывалы падмурак, з вокнаў якога шырока бачыцца свет"***

**4**

## ТВОРЧЫ САЮЗ — АДЗІН ЧАЛАВЕК?

***Гутарка Алеся МАРЦІНОВІЧА з выконваючым абавязкі дырэктара Беллітфонда на грамадскіх пачатках і дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіславам МАЧУЛЬСКІМ***

**4**

## ЗАХАВАНЫ ВОБРАЗ ЧАСУ

***Людміла ЖЫЛЬЦОВА: "Калі галерэя "Жыльбела" захавае для Беларусі мастацтва, якое па нейкіх прычынах не трапіла ў дзяржаўныя зборы, мы будзем лічыць, што зрабілі сваю справу, выканалі сваю місію"***

**5**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

***Таісы БОНДАР і Анатоля МАЙСЕЕНКІ***

**8,12**

**БУДЗЬМА РАЗАМ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 2002 ГОДА!**

*Шаноўныя чытачы!*
*Падпіска на "ЛіМ" працягваецца.*
*Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1 950 рублёў, на тры — 5 850 рублёў.*
**Індывідуальны індэкс — 63856.**
*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 3 500 рублёў, на тры — 10 500 рублёў.*
**Ведамасны індэкс — 63857.**



*Мастакі Тамара і Уладзімір Васюкі* *Фота К. ДРОБАВА*

***22 ліпеня 2002 г. г. Мінск***

***Выконваючаму абавязкі галоўнага***

***рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва"***

***Шніпу В. А.***

***Шаноўны Віктар Анатольевіч!***

***19 ліпеня гг. у газеце "Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул В. Праўдзіна "Тупік створаны! Дзе выйсце?", у якім утрымліваюцца звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці і якія ганьбяць маё імя як кіраўніка творчай арганізацыі Рэспублікі Беларусь.***

***Прашу Вас тэрмінова надрукаваць мой артыкул "Пытанні без адказаў", у якім я абвяргаю гэтыя матэрыялы. У выпадку Вашай адмовы я пакідаю за сабой права звярнуцца ў судовыя інстанцыі з іскам да газеты і аўтара артыкула "Тупік створаны! Дзе выйсце?" В. А. Праўдзіна.***

**Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**

**В. М. ІПАТАВА**

# Пытанні без адказаў

## АЛЬБО ВОДГУК НА ПУБЛІКАЦЫІ Ў "ЛІМЕ" АД 19 ЛІПЕНЯ 2002 Г.

Пасля мінулай Рады сёй-той з пісьменнікаў папракнуў мяне: маўляў, на цябе "чорны клубок "кляпаў, што хацеў, а ты іх не абвяргала — ні Чарказяна, які абвінаваціў у тым, што загадзя спланавала разваліць Саюз беларускіх пісьменнікаў, ні Мачульскага, ні Праўдзіна, якія таксама шчыравалі на паклёпніцкай ніве так, як не шчыруюць і вясковыя цёткі на сваіх гародах.

Тлумачылася гэта многімі прычынамі, і адна з іх тая, што мне было агідна да спазмаў слухаць усё тое, а яшчэ больш агідна — абвяргаць. Ну няўжо трэба тлумачыць Радзе, што ніколі не казала я Праўдзіну, што збіраюся эміграваць за мяжу. Што мімаходзь кінуты сказ "Хлопцы, вы ж дапамагайце мне больш актыўна, а то збягу ад вас за мяжу, як Някляеў" былы міліцыянер ператворыць у мову судовага пратакола:" 11 лютага яна заявіла..." І помніць жа, што менавіта 11 лютага — запісваў ён за мной, ці што?

Але сітуацыя з ужо надрукаваным у газеце "Літаратура і мастацтва" ад 19 ліпеня ягоным абвінавачваннем у наўмысных дзеяннях, што прывялі да сённяшняй сітуацыі ( па якому можна хоць заўтра расстрэльваць без суда і следства) занадта сур"ёзная, каб можна было проста перамаўчаць. І таму я вымушаная адказваць, не па парадку гэтых абвінавачванняў — яны ўсе дастаткова сумбурныя, а па канкрэтных эпізодах.

Пачнём з першага —майго рэагавання на званкі намеснікаў аб нефінансаванні: "Пачуўшы пра спыненне фінансавання, В.М. абурана заявіла: і з-за гэтай дробязі вы мяне турбуеце?"

Хлусня тут у многім, але найперш у тым, што я ўжо в е д а л а пра спыненне фінансавання, (бо яно пачалося з 17 ліпеня), і ў свой адпачынак у верасні пайшла без аплаты. У Міністэрстве фінансаў тады першы раз адказалі, што гэтае спыненне часовае, што ўсё будзе ў парадку. Калі Гальпяровіч патэлефанаваў мне на вясковую пошту і паведаміў, што фінансавання так і няма( дарэчы, на магнітафоннай плёнцы зафіксаваныя словы Праўдзіна на Радзе 19 сакавіка, дзе ён расказвае, што я н е п р ы й ш л а на пошту, каб з імі пагаварыць), ужо быў канец чацвярга, і я адказала, што заўтра, у пятніцу, ехаць не варта. Я прыеду у панядзелак, бо якраз у панядзелак заканчваецца мой адпачынак, і займуся высвятленнем сітуацыі. Дык калі я сама ўвесь адпачынак сядзела без грошай — магу я казаць пра гэта як пра дробязі?

Дарэчы, сітуацыю верасня 2001 года, калі я была ў адпачынку і ў "Адміністрацыю проста не пайшла", каб забраць будынак Дома літаратара, таму што "сам Прэзідэнт асабіста не папрасіў аб гэтым", трэба каментаваць асобна.

А дзе ж быў тады выконваючы абавязкі Старшыні СБП Віктар Праўдзін (так ліха падпісваўся ён тады гэтым — в.а.), які паўнамоцны быў рашаць усе пытанні жыцця саюза? Дзе былі астатнія два намеснікі? Яны чаму не пайшлі ў Адміністрацыю вяртаць будынак?

Сутнасць тут у тым, што , калі б сапраўды хацелі аддаць Дом, то знайшлі б мяне не толькі ў глыбоцкай вёсцы, але і на дне марскім!

І так у любым абзацы ягонага так званага артыкула-абвінавачвання — факты перакручаныя, яны супярэчаць адзін аднаму. Возьмем яшчэ адзін пасаж. Пра паездку ў Карэлію " з прадстаўнікамі міністэрства", пасля якой грошы нам дадуць.

Хіба Віктар Аляксандравіч не ведае, што Міністэрства культуры грашыма для Саюза пісьменнікаў не распараджаецца? Міністру культуры самому б неяк выбіць грошы для свайго міністэрства, чым пад канец года апантана займаюцца ўсе міністры, і нікому з іх не да нас. А вось даць ганаровы Знак міністр сапраўды можа. Магчыма, я, як першы рэдактар газеты "Культура", якой летась споўнілася 10 гадоў, і не заслужыла гэты знак, але думаецца, што таго заслужылі мае артыкулы аб праблемах культуры, якіх за маё жыццё сабралася каля тысячы. Што ж — аспрэчце і іх, і мае кнігі, і ўсё, што зроблена мною ў літаратуры і культуры. Гэта — Вашае права, права чалавека, які, відаць, думае, што якраз ён варты большага, чым сёння мае. Нездарма ж на мае горкія словы "Віктар Аляксандравіч, я ж для Вас выбівала стыпендыю Міністэрства культуры, а Вы мне не хочаце дапамагчы нават пры складанні праекта!", ён адказаў, выпрастаўшыся і высока ўзняўшы галаву:" Падумаеш, нейкія 60 тысяч! Мне дзяржава павінна мільён у месяц плаціць!"

Паездкай на Дні беларускай культуры ў Карэлію мяне папракаюць тыя, хто, відаць, не разумее, што ў прамыя абавязкі Старшыні Саюза пісьменнікаў уваходзіць наладжванне кантактаў з замежнымі літаратурамі. А за гэтыя гады ўдалося дабіцца хаця і няшмат, але ўсё ж зрушыць шматгадовае маўчанне, і нядаўна, выступаючы ў Доме літаратара падчас Міжнароднага сімпозіума, Старшыня Саюза пісьменнікаў Літвы В. Свянціцкас гаварыў аб хуткім выхадзе кнігі беларускай паэзіі, якую мы з гэтым творчым саюзам робім сумесна. Няўжо Праўдзін не ведаў і гэтага?

Яшчэ пасаж — з артыкула вынікае, што, калі сакратарыят стаў рыхтаваць сустрэчу з прэзідэнтам, я сарвала яе, бо "паўгода маўчання і абыякавасці да спраў Саюза (напэўна, набіралася моцы) ператварыліся ў сапраўдны віхор, шквал артыкулаў і заяў", і, выходзіць, з-за маіх артыкулаў у "ЛіМе" сустрэча тая так і не адбылася, бо "сабатаж пісьменніцкіх пытанняў у 2001 годзе быў спланаваны".

Моцна ляпнута, нічога не скажаш! А хто спланаваў нефінансаванне гэтага паўгоддзя? Няўжо таксама я? Няўжо Міністэрства фінансаў згаварылася са мной разбурыць Саюз беларускіх пісьменнікаў?

І яшчэ я задаю пытанне былому першаму намесніку — а за гэтыя паўгода маёй нібыта бяздзейснасці што рабілі Вы? Вы здабылі для саюза хаця пачак паперы ? Чым запраўляліся кампутары, на якіх нібыта пісаліся Вашыя лісты? Гэта здабывала я адна, бо Вы былі абсалютна бездапаможны, і нават калі я даручала Вам напісаць які ліст ( а іх і сёння трэба пісаць процьму — аднаму даведку, другому просьбу, трэцяму скаргу) , Вы клікалі Каршукова, Каршукоў клікаў Качаткову, тая друкавала на кампутары, а пасля па ланцужку ўсё вярталася да мяне, я правіла тэксты— і ланцуг зноў грымеў у пустой, нядзейснай мітусні. Як ні дзіўна, але цяпер мне нашмат лягчэй : я раблю любы ліст замест трох-чатырох дзён за 10 хвілін ды тут жа яго і адпраўляю, не трацячы час на тлумачэнні загадчыку канцэлярыі....

Ды і з усіх 26 лістоў, адпраўленых СБП у розныя інстанцыі, Вашыя толькі тры. Любая літаратурная экспертыза адразу вылучыць іх сярод астатніх — бо нават напісаны Вамі асабіста слёзны ліст да прэзідэнта быў такі рыхлы і бездапаможны, што члены Рады змушаныя былі самі працаваць над ім.

... Што з таго выйшла — усім вядома. Але адкуль В. Праўдзіну ведаць, што менавіта мае публікацыі, мой "шквал артыкулаў і заяў" пашкодзілі так чаканаму ім ўзаемаразуменню з уладай і прэзідэнтам? Што менавіта з-за іх ужо запланаваная сустрэча не адбылася? Што мой грандыёзны план — раз"яднаць пісьменнікаў і прэзідэнта — удаўся? Калі яму гэта паведамілі афіцыйна — хай назаве крыніцу. Калі гэта проста бурлівая фантазія дэтэктывіста — то даруйце, яе ж таксама трэба неяк рэгуляваць!

Дарэчы, а адкуль яму, тады сціпламу адказнаму сакратару "Нёмана", ведаць і пра так маляўніча апісаны ім мой нібыта "гандаль" з Замяталіным, які, выходзіць, таксама "паляцеў"з крэсла з-за мяне? З якіх такіх крыніц і навошта дадзеныя яму гэтыя хлуслівыя "звесткі"? Дальбог, чытаючы гэтыя радкі, я проста ганарылася сабою. Мата Хары дый годзе! Адно незразумела — Замяталіна знялі недзе ў верасні, а фінансаванне СБП чаму перапынілі ў ліпені, практычна адразу пасля з'езда? А можа, якраз з-за таго, што з'езд прайшоў не гэтак, як чакалі?

Не ведаю, з -за чаго здымалі Замяталіна, але толькі не з-за майго членства ў Пэн-клубе, бо і папярэдні старшыня СБП таксама быў членам гэтай жа арганізацыі. Так што, як кажуць, не трэба гарод гарадзіць. Ды і крыўдзіць В. Праўдзін былога намесніка адміністрацыі прэзідэнта — што ён нібыта даведаўся пра маё членства ў гэтай Міжнароднай пісьменніцкай арганізацыі толькі пасля майскіх выбараў, хаця прынятая я была туды ў студзені 2001 года. Яшчэ Вячаслаў Дашкевіч у серыі сваіх артыкулаў "Бесы над Белой Русью" вунь яшчэ калі прыпісваў мне тое членства як прыкмету служэння іншаземным разведкам. Слушна зрабіў Адам Мальдзіс, даўшы ў "Звяздзе" падрабязнае апісанне дзейнасці гэтай арганізацыі па абароне правоў пісьменніка і тым зняўшы з яе злавесны покрыў таямнічасці, нейкага ледзь не масонства.

Яшчэ адзін, вельмі важны момант, закрануты В. Праўдзіным:" Вольга Іпатава без рашэння з'езда "Беллітфонда" аб"явіла сябе старшынёй і гэтай арганізацыі і адразу заявіла, што "Іслач" трэба найхутчэй прадаваць, бо няма прыбытку".

Вялікія, ох якія вялікія вушы тырчаць з-пад гэтага пасажу! За імі — поўная драматызму мая барацьба за нашу маёмасць, за ёю — подласць, сфабрыкаваныя пратаколы, зніклыя касеты ХШ з'езда, інсінуацыі ў прэсе... Барацьба гэтая ўзнавілася пасля майго абрання старшынёй, асабліва ж абвострылася ў апошнія месяцы, калі стала яснай поўная няміласць улады і тое, што менавіта зараз можна зрабіць з нашай маёмасцю ўсё што заўгодна.

Дом творчасці — гэта адзінае, што можа даваць пісьменнікам і адпачынак, і магчымасць творча папрацаваць. Вось чаму я і сёння б"юся за іх.

У будучым любое праўдзівае ( не праўдзінскае) расследаванне высветліць усё, што там тварылася ( на гэты конт ёсць сведчанні былых супрацоўнікаў нашага санаторыя, іхнія дакладныя, у тым ліку і лісты ў прэзідэнцкую адміністрацыю). І засведчыць, што мне туды ходу не было — сабатаж абслугі быў поўны, а пасады дырэктараў займалі сябры Ул. Мачульскага.

Не, не сама я аб"явіла сябе Старшынёй Беллітфонда — за сумяшчэнне гэтых пасад прагаласаваў пісьменніцкі з'езд і праўленне Літфонда. Другая справа, што У. Мачульскі, не жадаючы здаваць сваіх паўнамоцтваў і поўнага, з асобнай бухгалтэрыяй валодання "Іслаччу", знайшоў пункт Статута Беллітфонда аб абранні Старшыні Праўлення толькі на агульным сходзе. Пачні ён судовую цяганіну — я прайграла б, хаця сам ён у свой час не пратэставаў, калі адно толькі праўленне Літфонда, без аніякага з'езда, прызначыла яго Старшынёй праўлення толькі па рэкамендацыі Ул. Някляева. Зняў ён свае фальшывае старшынства толькі пасля расследавання В. Стомы, але гэта не асабліва штосьці памяняла. Здаваць свае паўнаўладныя правы ён не збіраўся, хаця кляўся , што толькі гэтага і прагне.

Калі ішоў з'езд і трэба было праводзіць агульны сход Літфонда, на якім можна было зацвердзіць рашэнне пісьменніцкага з'езда, У. Мачульскі раптам знік. Дарэчы, Старшыні Рэвізійнай камісіі, у чые функцыі не ўваходзіць скліканне нечарговай Рады, а ўваходзяць якраз кампетэнцыі праверкі фінансавых і іншых парушэнняў, даўно трэба задаць і У. Мачульскаму, і Я. Каршукову простае пытанне: чаму не выкананае рашэнне Праўлення Беллітфонда ад 19.04.2001 г. №2 аб правядзенні з'езда Беллітфонда ў дзень правядзення з'езда пісьменнікаў?

Я не здымаю і з сябе віны за тое нібыта ўпушчэнне (вось там дык і сапраўды было падобна да добра спланаванай акцыі). Але ўсе памятаюць, які быў той з'езд. Мне трэба было праводзіць менавіта яго. Я. Каршукоў, а таксама члены праўлення былі проста абавязаныя сачыць за выкананнем уласных рашэнняў!

Чаму я ўсё ж рэкамендавала У. Мачульскага на месца свайго намесніка? Таму што спадзявалася, што цяпер, пасля рашэння з'езда, трымаючы яго ў намесніках, з дапамогай другога юрыста В. Праўдзіна змагу прakантраляваць усе ягоныя дзеянні па "Іслачы." Грошай на аўдыт не было — а паспрабуй я толькі адпусці У. Мачульскага з намеснікаў, як ён стане паўнаўладным валадаром Літфонда, дзе ніхто не аказвае яму супраціўлення. Пасля акажацца, што "Іслач " даўно прададзеная, а Рада яму не ўказчык. І ўсё ж ён стараўся абысці канфлікты з тым, каб я не ўлазіла ў справы "Іслачы".

Сведчаннем таго, што ён даваў мне ўсе магчымыя абяцанні і гарантыі таго, што возьмецца за працу, засталася вось гэтая папера. Прыводжу яе са скарачэннямі ( яна ясна паказвае, што ў работу Беллітфонда трэба было тэрмінова ўмешвацца):

" Асноўныя патрабаванні па працы Ул. Мачульскаму:

1. Прысутнічаць на працы штодзень не меней 3-х гадзін (з 14.да17.00)

3. Штотыдзень праводзіць агульныя з СБП лятучкі ( з удзелам дырэктара "Іслачы" і сяброў Літфонда.

4. Узгадняць усе фінансавыя расходы і рабіць "празрыстай" работу Літфонда і выдавецтва.

У выпадку невыканання названых пунктаў будзе звольнены без узгаднення з Радай."

Ганебны гэты для кожнага нармальнага працаўніка дакумент сведчыць аб цяжкасці змагання з былым ваенным пракурорам і аб тым, што я замест вынясення ўсіх гэтых падрабязнасцей да пісьменнікаў і стварэння "звадак" (ён сказаў тое, я гэтае...), увесь час шукала магчымасць вырашыць канфлікт, як кажуць, мірнай працай дырэктара, тым больш што ні В. Праўдзін, ні Н.Гальпяровіч на гэтую барацьбу не асмеліліся. Гаспадарка Дома творчасці — рэч надта цяжкая. Каб у яе ўнікнуць па —сапраўднаму, патрэбныя вялікія намаганні, на якія здольныя далёка не ўсе — ездзіць правяраць "Іслач" за ўласны кошт не надта хочуць...У пачатку гэтага года абодва намеснікі адкрыта сталі на бок Мачульскага, рэзонна разважыўшы, хто мацнейшы ў гэтай сітуацыі: апальная старшыня ці гэты лоўкі ( каб не сказаць большага) чалавеча, чыя сапраўдная сутнасць выяўлялася з жахлівай быстрынёй па меры таго як рабілася відавочным — саюз уладай ужо прыгавораны.

Адтуль ідуць і вядомая усёй краіне правакацыя аб нібыта звальнненні ўсіх намеснікаў, якую зноў нястомна, нягледзячы на тое, што яна з трэскам правалілася на Радзе, Праўдзін паўтарае і ў гэтым артыкуле. І я ўжо не задаю сабе пытанне — чаму ім так трэба заблытаць мяне ў чорную павуціну, у якой пісьменнікі не хутка разбяруцца? Адказ мой агучаны на Радзе 19 сакавіка, дзе я выказала нарэшце У. Мачульскаму недавер, дзе Праўдзін абвінаваціў мяне ў тым, што я "гвалтам цягну саюз у палітыку". Пераплялася і палітыка, і эканоміка, і кожны з іх меў свае мэты, а разам яны старанна стваралі гвалт і неразбярыху, ад чаго іншыя пісьменнікі, не разумеючы ўсіх акалічнасцей, задавалі сабе пытанне — што яны там хочуць адзін ад аднаго?

Хай і кожны пісьменнік задасць сабе простае пытанне: чаму У. Мачульскі, атрымаўшы пасаду дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура", так імкнецца застацца і дырэктарам "Іслачы"? Чалавек, якога трэба было абавязваць да працы распіскай, раптам так страсна жадае бясплатна працаваць на пісьменнікаў у платнай установе? Да таго ж як юрыст ён не можа не ведаць пра артыкул у Законе РБ, якім прама забараняецца сумяшчаць дзве кіруючыя пасады. Міністр інфармацыі М. Падгайны на мой тэлефонны званок недзе ў пачатку ліпеня коратка кінуў "Вырашым праблему." Але і намесніку міністра С. Нічыпаровічу 18 ліпеня давялося здзіўляцца,што дырэктар выдавецтва і не думае пакідаць пасаду дырэктара Літфонда. Больш таго — быў званок нібыта з пракуратуры Партызанскага раёна: "Чаму не аддаяце Мачульскаму працоўную кніжку?" "Хай здасць спачатку Дом творчасці." — адказала я. На мяне спрабавалі націснуць. Я прапанавала: "Тады дайце прадпісанне аб звароце працоўнай кніжкі, якое я на з'ездзе пакажу пісьменнікам замест іхняга Дома". Паабяцалі "лепей вывучыць пытанне", пазваніць. Ды вось чамусьці няма ніякага званка...

Чаму В. Праўдзін робіць выгляд, што ён не ведае пра рашэнні з'езда аб сумяшчэнні пасад Старшынь Літфонда і Саюза пісьменнікаў? Пра тое, што ў мяне няма ні пячаткі, ні права подпісу ў Літфондзе і я не магу прымаць ніводнага фінансавага рашэння — у адрозненне ад У. Мачульскага?

Чаму Г. Чарказян увесь свой пафас скіроўвае не на парушэнні ў "Іслачы" і Беллітфондзе ( іх зафіксавалі пратаколы і скаргі пісьменнікаў ), а на маіх міфічных парушэннях палажэння Статута? Адкуль ён узяў, што " ў сувязі з адсутнасцю выканаўцаў не атрыманы сродкі на пададзеныя праекты", аб чым піша ў сваёй Заяве? Хай дакладна і ясна адкажа на гэтае пытанне, тым болей, што пра гэтыя праекты ён і прачытаў у тым жа "ЛіМе". І дзе тыя восем мільёнаў на правядзенне нечарговага з'езда, якія гэтым хлопцам нібыта далі невядомыя спонсары і словы пра якія таксама зафіксаваныя ў час аўдыязапісу?

Хай без недагаворак і ўвільванняў адкажа В. Праўдзін, чаму ж ён не правёў так жаданага, так агалошанага ім з'езда, чаму тады за 10 дзён да прызначанага тэрміну самі далі яму "адбой" усе ягоныя шчыроўцы? Ніхто ж ім не перашкаджаў — праводзьце, рыхтуйце даклад, як абяцалі.

Я таксама рыхтавала свой даклад. Раілася з палітыкамі. Са знанымі дзеячамі культуры, пісьменнікамі. Усе яны, за выключэннем вельмі нямногіх—і А. Трусаў, і А. Марачкін, і М. Купава, і асабліва калегі з абласцей казалі: гэта будзе апошні з'езд Саюза пісьменнікаў, бо надта ж падазрона, што грошы на яго правядзенне даюць нейкія невядомыя спонсары.

У тым, што я паступіла правільна, не згадзіўшыся за 10 дзён адной рыхтаваць з'езд па-новаму пасля адмовы "праўдзінцаў", канчаткова пераканала мяне размова з Васілём Быкавым, якая адбылася 21 мая ў прысутнасці А. Мальдзіса і Р. Барадуліна, які на той момант таксама пагадзіўся, што з'езд зараз небяспечна праводзіць (пасля ён заявіў, што пасля размовы з Г. Бураўкіным яго думкі перамяніліся). Дарэчы, на развітанне Васіль Уладзіміравіч сказаў канчатковае: "які б ні быў саюз, разбураць яго зараз нельга."

Тым, дарэчы, я і кіруюся і сёння, і ўсе гэтыя месяцы. Тыя, хто маглі б "цягнуць" наш СБП зусім без грошай, з даўгамі, хай кінуць у мяне камнем. І вось жа кідаюць — асабліва балюча атрымліваць гэта ад тых, хто сам быў у сітуацыі кіраўнікоў і павінен быў бы дапамагаць. Прыходзіць, раіць... Сам жа саюз не можа ўжо быць нянькай, як некалі. Сёння ўжо яго трэба трымаць — не дзеля нас, а дзеля маладых, якія, нягледзячы ні на што, стаяць у чарзе па членства ў саюзе пісьменнікаў. Дзеля тых, хто любіць літаратуру і да саюза ідзе раіцца, шукаць падтрымкі, знаходзіць адказы...

*(Заканчэнне на стар. 13)*

# Выйсце адно — арганізацыйны з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў



Віншуючы на XIII з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгу Іпатаву з перамогай на выбарах на пасаду старшыні, як яе апанент я шчыра і зычліва жадаў, каб мы сустрэліся ў будучым на чарговым, а не пазачарговым з'ездзе.

Думалася, што, цягавіта ўсклаўшы на жаночыя плечы нялёгкую ношу адказнасці за справы творчага саюза, Вольга Міхайлаўна мудра скіруе дзейнасць на карысць усёй творчай арганізацыі; што як і належыць будуць стваральна працаваць кіруючыя органы СБП — рада, сакратарыят, творчыя секцыі, камісіі; што ўсе разам, калектыўна выпрацуем патрэбныя дакументы і з іх пакетам дагрукаемся ў многія дзверы, каб перш-наперш вярнуць павагу да беларускай літаратуры дзяржаўных чыноўнікаў, а ўслед за імі — і згаслую зацікаўленасць да яе ўсяго нашага грамадства.

Першая пасляз'ездаўская рада цёпла прывітала прапанаваных старшынёй саюза намеснікаў: В. Праўдзіна, Н. Гальпяровіча і У. Мачульскага. Жыла надзея: падбіраецца сапраўдная каманда дзеяздольных прафесіяналаў (у гэтым не расчараваўся і дасюль). Адно, аб чым тады прасіў настойліва: аддаць прыёмную камісію Г. Далідовічу, хто, з'яўляючыся галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", як ніхто іншы ведаў узровень творчасці прэтэндэнтаў на ўступленне ў СБП.

Аднак, на жаль, В. Іпатавай рабілася ўсё дзеля таго, каб саюзам кіраваць адзінаўладна: "Я — старшыня!", упадабаўшы толькі прадстаўнічыя функцыі гэтай пасады. І — як вынік — неўзабаве цалкам заглух сакратарыят, а рады (іх пасяджэнні) ператварыліся ў красамоўныя пустапарожнія спектаклі.

Сягоння з горыччу даводзіцца канстатаваць, што старшыня саюза з ускладзенымі на яе абавязкамі не справілася, а творчы саюз толькі страціў час, такі неабходны для арганізацыі яго статутнай дзейнасці. Яшчэ больш змізэрнеў аўтарытэт Саюза беларускіх пісьменнікаў. Наступ чыноўнікаў ад Міністэрства інфармацыі на нашу літаратуру ўзмацніўся: амаль перастала выходзіць у свет беларуская арыгінальная кніга. Службовыя людзі па-свойму разумеюць дзяржаўны заказ на яе, які зусім не забяспечаны тыражом. 80 працэнтаў і нават больш таго друкаванай прадукцыі на кніжным рынку Беларусі — імпарт. Ён паступова запаўняе, падагрэты хціўным камерцыйным разлікам, нашу інфармацыйную прастору. А пра тое, каб увесці хаця б 5-працэнтны падатак на гэты імпартны вал і накіраваць атрыманыя сродкі на падтрымку і развіццё айчыннай літаратуры, у міністэрстве і слухаць не хочуць.

Не жадаюць чуць пра тое, што нацыянальная кніга, створаная таленавітымі майстрамі слова, мае не толькі таварную вартасць, але і вартасць духоўную. І дзяржава, калі хоча заставацца духоўна багатай, не тануць у каламуці пошасці, што сягоння захлёствае больш і больш наша жыццё, пагражаючы духоўным заняпадам новым пакаленням, павінна аказаць шляхам датацый сваю дапамогу беларускай кнізе.

Не маем мы права маўчаць — аб гэтым мы абавязаны гаварыць ва ўвесь голас. Бо хто, як не мы, "інжынеры чалавечых душ", засцеражэ ад духоўнага разбурэння і апусташэння нашага сучасніка, спакушанага таннымі звабамі амаральна-хлёсткай электроннай сусветнай інфармацыйнай прасторы?

Даўно настаў час вырашэння і ўнутраных праблем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Трэба адказаць на галоўнае пытанне: ці жадаем мы, пісьменнікі Беларусі, застацца творчым саюзам? А гэта значыць, ці хочам таго, каб у ліку годных прафесій была і такая: прафесійны літаратар. Ідэі пра самароспуск творчай арганізацыі спароджаны тымі, хто пажынае "зялёную падкормку" з Захаду. Яны цынічна падбухтороўваюць нас на крок самаліквідацыі. Пэўна, празамежнікам не хочацца, каб у народа былі тыя, чые думкі, выкладзеныя ў мастацкай форме, вучылі чалавечнасці, любіць сваю зямлю і быць на ёй гаспадарамі.

Ліквідаваць творчы саюз — значыць адабраць у літаратуры права быць маральным і духоўным арыенцірам грамадскага жыцця. Няўжо, заплаціўшы такую ахвярную цану за сваё станаўленне, літаратура сёння саступіць націску меркантыльных інтарэсаў дзялкоў-падзёншчыкаў, якія, страціўшы чалавечую годнасць, спарадзілі канвеер бульваршчыны і легкадумнага чціва?!

Перакананы, што наспела патрэба правядзення чарговага з'езда беларускіх пісьменнікаў, каб вырашыць галоўнае пытанне аб нашай творчай арганізацыі з улікам сучасных эканамічных варункаў. Мы павінны застацца ў поўным сэнсе слова грамадскай прафесійна-кваліфікаванай арганізацыяй, паяднаўшы свае мэты з дзяржаўнымі інтарэсамі ў клопаце пра сталяванне духоўнасці, будаўніцтва моцнай і квітнеючай Беларусі, умацаванне суверэннага дома, які мае свой гістарычна-трывалы падмурак, з вокнаў якога шырока бачыцца свет.

Цвёрда веру, калегі па пяру, у нас стане таленту і мужнасці, каб зрабіць дзеяздольным наш творчы саюз. І ў наш час — час пераацэнкі чалавечых каштоўнасцей — даказаць грамадству, што без судакранання з мастацкім словам згубна мізэрнее сама чалавечая сутнасць.

**Мікола МЯТЛІЦКІ,**
**сакратар Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Творчы саюз — адзін чалавек?

***Страсці ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў апошнім часам, бадай, накаліліся, як ніколі. І хоць не праводзяцца розныя пасяджэнні і сходы, амаль не збіраюцца секцыі — прычына, як вядома, не толькі ў тым, што лета — час адпускоў, дый, што ўвогуле, многія лічаць за лепшае знаходзіцца ў гэты час на дачы, чым у тлумным горадзе. Творчая суполка, як быццам ёсць і зноў жа, як быццам, яе няма. А ў незалежным друку, па радыё "Свабода" з'яўляюцца абвінавачванні адзін аднаго ў грахах існуючых і неіснуючых і, што самае цікавае, кожны, хто вырашыў выказацца, абавязкова папракае іншых у слабай нацыянальнай свядомасці, у нежаданні любіць Беларусь, выстаўляючы сябе, як самага-самага... Тое ж самае, як не так даўно: не прытрымліваецца лініі партыі, не павышае свой ідэйны ўзровень. У позу гэткага мэтра, які вучыць усіх і кожнага, усё часцей становіцца старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, якая, як паслухаеш, толькі адна па-сапраўднаму заклапочана будучыняй пісьменніцкай арганізацыі, думае пра яе, а іншыя толькі тым і займаюцца, што гатовы ставіць палкі ў колы. У тым ліку і кіраўніцтва СБП. Але ж, калі разабрацца, па сутнасці саюза даўно няма. Не спрацавалася Вольга Міхайлаўна ні са сваімі намеснікамі, ні з сакратарыятам. Дый і з Радай у яе паразуменне даўно няма. Рада яшчэ 19 сакавіка сёлетняга года прыняла рашэнне аб скліканні пісьменніцкага з'езда, а старшыні саюза, як высвятляецца, ён не патрэбны. Апошняя навіна — не патрэбны ёй і Літфонд, а калі канкрэтней — дырэктар Літфонда Уладзіслаў МАЧУЛЬСКІ. Пра тое, што адбылося, наш карэспандэнт і вырашыў высветліць ва Уладзіслава Антонавіча, які з 2 ліпеня 2002 г. выконвае абавязкі дырэктара Беллітфонда на грамадскіх пачатках, у сувязі з прызначэннем яго на пасаду дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура".***

— Пачалося ўсё не сёння і не ўчора, а з таго моманту, як Вольга Міхайлаўна стала старшынёй Саюза пісьменнікаў. Яна з першых жа крокаў сваёй дзейнасці пачала да ўсяго ставіцца так, што СП — гэта Я. Ні да чыйго голасу не прыслухоўвалася, ні з кім не раілася. Выключэннем для Вольгі Міхайлаўны быў дый па сённяшні дзень застаецца Ягор Ягоравіч Фядзюшын, які, як вядома, з'яўляецца мужам Іпатавай. Дайшло да таго, што цяпер ён амаль штодня бярэ ключы ад пакояў СП у вахцёра і праводзіць свайго роду рэвізію папераў і дакументаў. А я, для прыкладу, не магу трапіць у кабінет, бо Вольга Міхайлаўна дала ўказанне тым жа вахцёрам — не пушчаць.

**— А чаму не пушчаць?**

— Такое яе распараджэнне з'явілася 25 чэрвеня, пасля таго, як я папрасіў выдаць маю працоўную кніжку, паколькі збіраўся ўладкоўвацца на новае месца работы. У адказ пачуў, што кніжка будзе выдадзена толькі ў тым выпадку, калі пайду з пасады дырэктара Літфонда.

**— Але, якое дачыненне мае Іпатава да Літфонда? Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беллітфонд дзве самастойныя арганізацыі.**

— Для іншых самастойныя, але не для Іпатавай. Каб атрымаць на рукі працоўную кніжку, мне давялося звяртацца з афіцыйнай заявай у Рэвізійную камісію Саюза пісьменнікаў, а таксама ў пракуратуру Партызанскага раёна Мінска, паколькі было відавочнае парушэнне заканадаўства.

**— Але ж гэтыя прэтэнзіі старшыні Саюза пісьменнікаў на Літфонд, відаць, з'явіліся не самі па сабе?**

— У свой час былі рэкамендацыі творчага саюза аб тым, каб кіраўніцтва і самім саюзам і Літфондам ажыццяўляў адзін і той жа чалавек — старшыня СБП. Але пры гэтым забыліся, што тым самым парушыцца Статут Літфонда, паводле якога старшыня яго выбіраецца на з'ездзе Літфонда. Вольга Міхайлаўна пачала ставіць мне ў віну, тое, што я ў якасці старшыні Літфонда не выбіраўся. Гэта сапраўды так і вынік упушчэння ранейшага кіраўніцтва творчага саюза. Пасля майго выбрання ў чэрвені 1998 года намеснікам старшыні СБП тагачасны старшыня саюза Уладзімір Някляеў прапанаваў мне ўзначаліць і Літфонд. На праўленні Літфонда я быў назначаны на пасаду дырэктара і на грамадскіх пачатках пачаў выконваць абавязкі старшыні праўлення Ліфтонда. Ва ўсіх афіцыйных дакументах — у банкі, у натарыяльныя канторы і г.д. — ставіліся мае подпісы як дырэктара. Але Іпатава вырашыла сама стаць старшыней праўлення Літфонда. У мяне ёсць напісаны яе рукою загад ад 18 студзеня 2002 года аб тым, што Вольга Міхайлаўна пазбаўляе мяне права подпісу.



**— І як пасля гэтага разгортваліся падзеі?**

— Як вядома, ёсць выдавецтва "Беллітфонд", дык Іпатава толькі і пачала тым займацца, каб хутчэй выдаць сваю кнігу ў серыі "Беларускі гістарычны раман". Дамагалася праз кіраўніцтва нядаўняга Дзяржаўнага камітэта па друку датацыі на выпуск сваёй кнігі, і кожная планёрка ў Літфондзе па сутнасці зводзілася толькі да таго, каб высветліць, як рухаецца справа з выданнем. А яшчэ Вольга Міхайлаўна загарэлася жаданнем прадаць санаторый-прафілакторый "Іслач".

**— А можа і сапраўды яго прадаць, калі ў Саюза пісьменнікаў і Літфондзе няма сродкаў на ўтрыманне? Можна выручыць немалыя грошы, якія пойдуць у якасці дапамогі пісьменнікам, у першую чаргу састарэлым...**

— Паводле Статута такое пераразмеркаванне грашовых сродкаў немагчыма. Так што, калі, не дай Бог, Дом будзе прададзены, усе літаратары застануцца ля разбітага карыта. Зразумела, Іпатава пасля ўсяго змагла б прафінансаваць выданне сваёй кнігі. Хачу яшчэ раз падкрэсліць: Вольга Міхайлаўна дбае толькі пра ўласныя інтарэсы. Прывяду такі прыклад: падчас мінулагодняга Дня беларускага пісьменства, што праходзіў у Мсціславе, яна магла дамовіцца з Прэзідэнтам аб сустрэчы, каб вырашыць неадкладныя пытанні, у тым ліку звязаныя з фінансаваннем СБП, бо Аляксандр Рыгоравіч размаўляў з ёй. Але ж у Вольгі Міхайлаўны сваё стаўленне да ўсяго. Не толькі я, а і яшчэ некалькі чалавек неўзабаве сталі сведкамі таго, што на словы Фядзюшына: "Прыехалі літаратары", яна адказала: "Патрэбны яны мне!" Што можна пасля гэтага гаварыць? Чалавек дбае толькі пра сябе, пра ўласныя інтарэсы, а пры гэтым дэмагагічна прыкрываецца развагамі аб захаванні Саюза пісьменнікаў. З'езд абавязкова павінен адбыцца. І ён адбудзецца. Такое рашэнне прыняла Рада СБП.

Я, як вядома, сябрам творачага саюза не з'яўляюся, але клопаты пісьменніцкай арганізацыі, Літфонда — успрымаю вельмі блізка. А ці працаваць мне далей на пасадзе дырэктара Літфонда, можа вырашыць толькі яго з'езд і яго праўленне.

У сённяшняй сітуацыі мне менш за ўсё хацелася б гаварыць аб справах у СБП, а больш засяродзіць увагу чытацкай аўдыторыі да спраў выдавецкіх. А гэта падрыхтаваныя да друку першы том васьмітомніка твораў Васіля Быкава, які пабачыць свет у 2002 годзе, чацвёрты том збору твораў Рыгора Барадуліна, кніга Алены Васілевіч і іншых пісьменнікаў розных пакаленняў.

На гэтай пасадзе — дырэктара выдавецтва, я адчуў клопат дзяржавы пра сапраўдных талентаў і трэба, каб гэты клопат адчуў кожны пісьменнік."

**Гутарыў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*P.S. Рыхтуецца да друку інтэрв'ю з Уладзіславам Мачульскім як з дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура".*

***Побач з Траецкай гарой, якую мы болей ведаем як плошчу Парыжскай Камуны, ёсць Траецкае прадмесце. Сюды водзяць турыстаў, каб паказаць, якім быў Мінск, пакуль з яго не пачалі рабіць сталіцу, прасякаючы праз жывую тканіну горада шырачэзныя вуліцы. У Траецкім прадмесці ёсць "Дом прыроды", а ў гэтым доме месціцца галерэя (мастацкі цэнтр) "Жыльбел". Дасведчаныя людзі называюць галерэю Музеем сучаснага беларускага мастацтва. І гэта блізка да ісціны. Бо жывапіс апошняга дзесяцігоддзя (за выняткам некаторых імёнаў) прадстаўлены ў калекцыі "Жыльбела" лепей чым у некаторых дзяржаўных зборах. Прынамсі, больш поўна і разнастайна. Сярод мастакоў выставіцца ў галерэі "Жыльбела" лічыцца вельмі прэстыжным. Вернісажы "Жыльбел" збіраюць культурніцкую эліту Мінска.***

***Фактычны кіраўнік галерэі — Людміла Жыльцова. Па просьбе нашага карэспандэнта яна дзеліцца з чытачамі сваімі развагамі пра мастацтва і жыццё, пра дзесяць гадоў галерэі "Жыльбел".***

# Захаваны вобраз часу

## ГАЛЕРЭІ "ЖЫЛЬБЕЛ" — 10 год

**— Людміла Іванаўна, не памылюся, калі скажу, што галерэя "Жыльбел" — гэта адна з культурных славутасцяў Мінска. Ваша калекцыя дае даволі поўнае ўяўленне пра выяўленчае мастацтва Беларусі апошняга дзесяцігоддзя. А як вы пачыналі, што было штуршком да стварэння галерэі?**

— Першая выстава, што паклала пачатак калекцыі, адбылася ў 1992 годзе. Так што сёлета ў нас юбілей. Дзесяць год. Вы, мабыць, памятаеце, што напрыканцы 80-х — пачатку 90-х Беларусь перажыла галерэйны бум. Галерэі адкрываліся пры творчых саюзах, камерцыйных структурах, навуковых і навучальных установах. Маштабы былі, праўда, не тыя, што ў суседніх Польшчы, Балтыі ці Маскве, але мастацкае жыццё ажывілася надзвычайна.

Для нас тады было прыемным адкрыццём, што акрамя афіцыйнага мастацтва існуе яшчэ мастацтва нефармальнае, свабоднае ад ідэалагічных стэрэатыпаў — так званы "андэграўнд". Прычым гэтае мастацтва "канвертуемае". Я мяркую, што беларускія мастакі маглі тады і могуць зараз стварыць сур'ёзную канкурэнцыю сваім калегам на Усходзе і Захадзе.

На хвалі агульнай цікаўнасці да нефармальнага мастацтва і з'явілася галерэя "Жыльбел". Сваю ролю адыграла і тое, што Валерый Жыльцоў, кіраўнік прадпрыемства, што дало імя галерэі, і сам чалавек неабыякавы да мастацтва. Па адукацыі ён архітэктар. Сярод яго сяброў заўжды было шмат мастакоў. Галерэя стала рэалізацыяй ягонай даўняй мары.

**— У той самай першай выставе бралі ўдзел Казакоў, Шапялевіч, Скрыпнічэнка, Савіч, Паўлавец, Баранаў. Яны вельмі розныя па творчасці ды і па характары. Першая выстава для галерэі — гэта свайго роду дэкларацыя намераў, прынцыпаў, канцэптуальная заяўка. З названых вышэй імёнаў канцэпцыя неяк не складваецца...**

— Каб зразумець канцэпцыю, трэба было глядзець саму выставу, а не чытаць спіс яе ўдзельнікаў. Сама ж выстава ўспрымалася цэльнай, лагічна пабудаванай.

Мы не ставілі тады і не ставім зараз мэтаю " заняць сваю нішу", зрабіць нешта такое, да чаго іншыя не дадумаліся. Мы прыслухоўваемся да меркаванняў экспертаў-спецыялістаў па выяўленчым мастацтве, але найперш давяраем уласнай інтуіцыі; зыходзім з уласных уяўленняў аб значнасці той ці іншай творчай асобы. Мы імкнемся асэнсаваць культурніцкі працэс.

Ужо па першай выставе было зразумела, што для нас не мае значэння, да якога пакалення належыць мастак. Нас не цікавіць ягоны сацыяльны статус, званні, узнагароды. Мы не арыентуемся на нейкі канкрэтны стыль альбо напрамак выяўленчага мастацтва. У нас можа выставіцца і ўчарашні выпускнік Акадэміі мастацтваў (ці нават сённяшні студэнт), і народны мастак, традыцыяналіст і авангардыст, прыхільнік рэалістычнай школы і той, хто прынцыпова ігнаруе фігуратыўны жывапіс.

Галоўнае, мастак мусіць быць творцам, якому ёсць што сказаць гледачу.

**— Многія галерэі, што стварыліся на мяжы 80—90 гадоў, зніклі, калі пайшла на спад цікаўнасць да "андэграўнду", і галоўнае — калі змянілася эканамічная сітуацыя. Сёння больш-менш жыццяздольныя тыя ўстановы культуры, якія падтрымлівае дзяржава. Галерэя "Жыльбел" — шчаслівае выключэнне з гэтага правіла. Як гэта ў вас атрымліваецца?**

— Змены ў эканамічнай сітуацыі і зніжэнне (у параўнанні з канцом 80-х гадоў) цікаўнасці да выяўленчага мастацтва сярод масавага гледача датычыла найперш камерцыйных галерэй. А паколькі ў нас ад пачатку не было ўстаноўкі на прыбытак, дык гэта не магло сур'ёзна ўплываць на нашу дзейнасць. Мы збіраем калекцыю беларускага мастацтва, кіруючыся ўласным густам, уласнай шкалою каштоўнасцяў. Дапамагаем мастакам, асабліва маладым. Мы пэўным чынам уплываем на культурніцкую сітуацыю ў краіне.

Калекцыяніраванне — гэта таксама свайго роду творчасць. Акрамя часу і грошай, гэты занятак вымагае ўпэўненасці, што гэта патрэбна не толькі табе, але таксама іншым людзям, грамадству. Калекцыя мусіць застацца, калі цябе ўжо не будзе. Ды і пішуцца карціны не дзеля таго, каб стаяць у куце. Іх павінны бачыць людзі. Дарэчы, дзяржаўныя мастацкія зборы, якімі сёння ганарыцца Расія, маюць у аснове прыватныя калекцыі. Славу Расіі як вялікай культурнай дзяржавы стварылі не толькі вялікія мастакі, але і вялікія мецэнаты — Траццякоў, Мамантаў, Марозаў...

Калі галерэя "Жыльбел" захавае для Беларусі мастацтва, якое па нейкіх прычынах не трапіла ў дзяржаўныя зборы, мы будзем лічыць, што зрабілі сваю справу, выканалі сваю місію.

**— Я прагледзеў спіс выстаў, арганізаваных галерэяй за дзесяцігоддзе, і звярнуў увагу на тое, што некаторыя мастакі нават не маюць членства ў творчым саюзе. А звычайна без гэтай фармальнасці цяжка прэтэндаваць на прэстыжныя залы. Мабыць, каб не было галерэі "Жыльбел", іх шлях да прызнання быў бы даўжэйшым.**

— Сапраўдны талент рана ці позна праб'ецца. Ды лепей рана, чым позна. І мы рады, калі можам паспрыяць ранняму раскрыццю таленту. Прынамсі, такую мэту мела выстава "...ад Святога Валянціна" 1997 года. У ёй бралі ўдзел тагачасныя студэнты Беларускай Акадэміі мастацтваў.

**— Я памятаю тую выставу. Памятаю, што дэклараваўся намер зрабіць яе штогадовай. Але наступная выстава студэнтаў Акадэміі мастацтваў да дня Святога Валянціна адбылася толькі сёлета...**

— Не ўсё залежыць ад нас. Былі праблемы арганізацыйнага характару. Да таго ж перш чым выдаткаваць грошы на дабрачынную акцыю, іх трэба зарабіць. Галерэя "Жыльбел" існуе за кошт прадпрыемства "Жыльбел". Магчымасці галерэі наўпрост залежаць ад прыбыткаў прадпрыемства.

**— Ці ёсць у галерэі вопыт супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі?**

— Фактычна наша прыватная галерэя і дзяржаўныя музеі робяць адну справу. Толькі робім па-рознаму. Нацыянальны мастацкі музей альбо Музей сучаснага мастацтва, набываючы карціну, павінны браць да ўвагі афіцыйны статус мастака. І гэта, трэба сказаць, правільна. Мы ж можам дазволіць сабе не звяртаць на гэта ўвагі. Таму наша версія сучаснага беларускага мастацтва непазбежна будзе адрозніваецца ад афіцыйнай. І гэта таксама правільна. Бо чым болей меркаванняў, тым бліжэй да ісціны.

Галерэя "Жыльбел" адкрытая і для прыватных ініцыятыў і для супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі. Мы праводзілі выставу работ Першага Міжнароднага пленэра па выяўленчым мастацтве імя Марка Шагала. Мастацкі цэнтр "Жыльбел" аказаў фінансавую падтрымку Другому Шагалаўскаму пленэру.

Экспазіцыйныя магчымасці "Дома прыроды", дзе размешчаны наш мастацкі цэнтр,не дазваляюць развярнуць вялікую



выставу — толькі камернага характару. Так што калі ўзнікае патрэба зрабіць нешта "з размахам", мы арэндуем іншыя залы. Так, вялікую выставу В. Захарынскага мы праводзілі ў Палацы мастацтваў. А сумесную з Інстытутам Гётэ выставу "Тэксты" — у музеі Беларускай Акадэміі мастацтваў. Былі нашы выставы ў Міністэрстве замежных спраў, у Міністэрстве унутраных спраў.

Ды і прыгаданыя вышэй выставы да Дня Святога Валянціна былі сумеснымі акцыямі галерэі "Жыльбел" і Беларускай акадэміі мастацтваў.

Мы думаем і надалей пашыраць такое супрацоўніцтва. Бо яно карыснае для ўсіх.

**— Якім чынам папаўняецца калекцыя галерэі?**

— Калекцыя папаўняецца з кожнай выставы. Як вы разумееце, выставачная зала, прэзентацыя, выданне каталога каштуюць нямалых грошай. Лічыцца, што перадаючы пасля выставы адну ці некалькі работ галерэі, мастак у нейкай ступені кампенсуе нашы выдаткі. Гэта агульнапрынятая практыка і ў нас і за мяжою.

**— Ці ўсё задуманае, запланаванае вамі здзейсняецца? З якімі цяжкасцямі вы сутыкаецеся пры рэалізацыі вашых задум?**

— Атрымліваецца далёка не ўсё. Так, мы пакуль не здолелі выставіць нашу калекцыю за мяжою. Бывае, што выстава зрываецца альбо пераносіцца на больш позні тэрмін з-за таго, што мастак насуперак папярэдняй дамоўленасці аказваецца да яе не гатовым. Мы ставімся да гэтага з разуменнем: творчая праца, як правіла, несумяшчальная з жорсткім "вытворчым" графікам.

**— Напрыканцы 90-х гадоў рэзка паменшылася колькасць выстаў, арганізаваных мастацкім цэнтрам "Жыльбел". Здавалася, што вы "скарачаеце вытворчасць"...**

— У гэтым выпадку колькасны паказчык не галоўны. Хай выстаў будзе меней, але кожная стане падзеяй. Мы ведаем, што зараз нашы гледачы чакаюць ад кожнага вернісажу ў "Жыльбела" чагосьці незвычайнага, як ад тэатральнай прэм'еры. І гэтыя спадзяванні мы імкнёмся задаволіць. Тэатралізаваная дзея на вернісажах заўжды ладзіцца, так бы мовіць, паводле твораў экспазіцыі. І ставімся мы да яе не менш сур'ёзна, чым да самой экспазіцыі.

**— Дык што для вас важнейшае: папоўніць калекцыю альбо наладзіць запамінальную мастацкую акцыю?**

— І тое, і другое ў роўнай ступені. Карціна патрабуе гледача. Твор, які стаіць у куце майстэрні альбо ў музейным сховішчы ды яго ніхто не бачыць, ніхто пра яго не ведае — у пэўным сэнсе не існуе. Для нас прынцыпова важна, каб у наш збор траплялі карціны, якія ўжо маюць свайго гледача. Таму перш чым трапіць у нашу калекцыю, твор мусіць прайсці праз нашу выставу.

**— Будучыня галерэі вам уяўляецца светлай ці не надта?**

— Мастацтва па вялікім рахунку — раскоша. Перш чым на сцяну карціну павесіць, трэба напачатку каб была тая сцяна, быў той дом.

Ад людзей, якія ўпершыню бачаць нашу калекцыю, звычайна напачатку чуеш словы здзіўлення, што такое ўвогуле можа быць, а потым — спачуванне, што "Жыльбел" займаецца культурніцкай дзейнасцю не ў самы зручны для культуры час. Але гэты час — наш, другога ў нас няма. Рэалізацыя нашых планаў, нашых ідэй залежыць не толькі ад нас, але і ад вонкавых абставін. Што будзе з краінаю, тое будзе і з беларускім мастацтвам — адпаведна, і з нашай мастацкаю галерэяй. Я ў роўнай ступені гатовая як да пазітыўнага, так і да негатыўнага развіцця падзей. Зразумела, хацелася б, каб галерэя і яе калекцыя захаваліся. І захаваліся для Беларусі. Гэта як мінімум.

**— А па максімуме?**

— Не хацелася б канкрэтызаваць. Каб не сурочыць. Але калі атрымаецца па мінімуме, дык астатняе прыкладзецца. Калі б мы не верылі ў поспех, дык не браліся б за гэту справу дзесяць гадоў назад.

**— Людміла Іванаўна, вы маеце выгляд чалавека, уладкаванага ў жыцці і задаволенага сваім лёсам. Навошта вам лішнія клопаты — галерэя і ўсё, што з ёю звязана?**

— Іншы раз я і сама пра гэта думаю. За дзесяць год, здавалася б, можна было знайсці адказ на гэтае пытанне. Але я не ведаю адказу. Відаць, калі нейкія рэчы становяцца часткаю тваёго жыцця, іх проста прымаеш як рэчаіснасць, як дадзенасць. У гэтых клопатах я знаходжу душэўны спакой і ўсведамленне паўнаты жыцця. Да таго ж я ўпэўнена, што ўсё гэта не мне адной трэба.

**Гутарыў В. БОГУШ**

*НА ЗДЫМКАХ: Людміла ЖЫЛЬЦОВА. Выставачная зала "Жыльбел"*

*Фота К. ДРОБАВА*



## Песняру прысвячаецца

"Ён сэрца і словы аддаў Беларусі" — так называецца выстава, арганізаваная ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і прымеркаваная да 120-годдзя Янкі Купалы.

У асноўным экспазіцыя складаецца з творчай спадчыны юбіляра.

Адкрываецца выстава радкамі з купалаўскага верша "Мая малітва":

*...Малюся я небу, зямлі і прастору,*
*Магутнаму Богу — усясвету малюся.*
*Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору*
*За родны загон Беларусі.*

Мы бачым фотаздымак хаты ў Вязынцы, дзе нарадзіўся будучы пясняр, выявы бацькоў, самога Янука Луцэвіча, адзін з ранніх яго вершаў пад назваю "Касцу".

Раздзел "У Вільні" распавядае пра знаходжанне паэта ў гэтым горадзе з 1908 па 1909 і з 1912 па 1915 гады. Купала ўладкоўваецца ў прыватную бібліятэку "Веды" Б. Даніловіча (пасля цяжкой, нуднай працы на вінакурных заводах — гэта сапраўды рай), супрацоўнічае ў рэдакцыі газеты "Наша ніва". Тут, у Вільні, атрымлівае радасную вестку — у Пецярбургу ў выдавецтве "Загляне сонца і ў наша ваконца" выходзіць першая кніга паэта — вершаваны зборнік "Жалейка" (1908), які быў з цікавасцю сустрэты дэмакратычнай грамадскасцю, але ўладам не спадабаўся — двойчы канфіскоўвалі. На выставе прадстаўлены арыгінальнае выданне гэтага зборніка, а таксама рэцэнзія Уладака з Казіміраўкі (Уладзіміра Самойлы) "Жалейка", песні Янука Купалы", надрукаваная ў "Нашай ніве" за 1908 год.

Увосень 1912 года Я. Купала вяртаецца ў Вільню. Працягвае працу ў "Нашай ніве", у 1914 годзе становіцца яе рэдактарам замест А. Уласава.

У экспазіцыі — вершы паэта гэтага перыяду, надрукаваныя ў газеце "Наша ніва". Разам з літаратурнымі творамі можна ўбачыць фатаграфічныя і іншыя матэрыялы, звязаныя з Вільняй.

Раздзел "У Пецярбургу" прадстаўлены творамі Янкі Купалы, што выйшлі ў Пецярбургу на працягу 1910—1913 гг. Гэта другі зборнік вершаў "Гусляр", паэма "Адвечная песня", верш "А хто там ідзе?", пакладзены на музыку Л. Рагоўскім, п'еса "Паўлінка" (на жаль, у бібліятэцы няма першага выдання, экспануецца другое, 1927 года), трэці зборнік твораў "Шляхам жыцця", а таксама асобныя вершы гэтага перыяду, надрукаваныя ў газеце "Наша ніва". Пэўную цікавасць выклікаюць запісы народных песень, зробленыя А. Грыневічам і А. Астрамовічам з рэдактарскімі заўвагамі Янкі Купалы.

Далейшыя вехі жыцця і творчасці Янкі Купалы звязаны з Арлом, Масквой, дзе паэт некаторы час вучыўся ў Народным універсітэце імя А. Шаняўскага (1916), Мінскам, Полацкам, Смаленскам, дзе ён праходзіў службу ў дарожна-будаўнічым атрадзе. Дэманструюцца творы гэтага перыяду: драма "Раскіданае гняздо" (1919), асобныя вершы ў перыядычным друку.

Творчасць Янкі Купалы 20-х гадоў прадстаўлена зборнікамі "Спадчына", "Безназоўнае", "Апавяданні вершам"...

У экспазіцыі сярод кніг 30-х гадоў — зборнікі "Над ракою Арэсай", "За што", "Адцвітанне" і іншыя. Творчасць 40-х гадоў прадстаўлена ў асноўным творамі ваеннага часу,у прыватнасці, вершам "Беларускім партызанам", надрукаваным у газеце "Раздавім фашысцкую гадзіну", а таксама зборнікі "Выбраныя творы", "Паэмы".

Марына ЛІС,
навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі

## "Роднае слова", № 6

В. Ляшук расказвае пра У. Калесніка ("Краязнаўца і гісторык літаратуры Берасцейшчыны"). Змешчаны артыкулы В. Буто "Селянін у аповесці Васіля Быкава "Аблава", Ц. Ліякумовіча "З ветрам шчыра абдымуся..." (вобраз-матыў ветру ў лірыцы Я. Купалы), І. Запрудскага "Творчасць Янкі Лучыны і феномен "задоўжанага" рамантызму на Беларусі", Н. Супей "Варыянты мастацкай рэчаіснасці" (пераклады верша П. Верлена "Захад сонца" на беларускую мову), Н. Ламекі "Эстэтыка Барока і паэма Джона Мілтана "Страчаны рай", Н. Бунько "Шпаркі, лёгкі сінякрылы матылёк" (назвы матылька ў беларускіх гаворках), В. Рагойшы "Матэматыка літаратуры", Л. Баршчэўскага "Пра скандынаўскія багоў і герояў", А. Векі "Летапісны і быліны вобраз Усяслава Полацкага", Ф. Ваданосавай "Янка Купала і Барысаўшчына", Г. Вітушкі "На добры ўспамін..." (пра дарчыя надпісы Я. Купалы на кнігах), Г. Зайцавай "Мінскі — гэта сімвал творчага духу беларускага народа..." (сталічныя адрасы песняра) і іншыя.

ВІНШУЕМ!

# Паэт, філосаф і пчаляр

ЛЕАНІДУ ЯЎМЕНАВУ — 70

Маем на ўвазе не тры асобы, а адну, але шматгранную, у якой гэткім шчаслівым чынам спалучыліся тры, як калісьці казалі, «угодия», тры таленты: паэт, філосаф і пчаляр. Гаворка ідзе пра Леаніда Яўменава, які 22 ліпеня адзначыў сваё 70-годдзе. Так-так, час няўмольны і работу сваю робіць спраўна, ні на што не зважаючы. Зрэшты, 70 гадоў — узрост паважаны і, дарэчы, не з самых дрэнных. Гэта — росквіт, мудрасць, сямідзесяцігадоваму відаць ва ўсе бакі. Тым больш такому чалавеку, як Л. Яўменаў, чый жыццёвы вопыт — агромністы, шматбаковы і па-сапраўднаму філасофскі, што пэўным чынам адлюстравалася і ў яго вершах, у іх тэматыцы, вобразах, настроях.

Паэзія Л. Яўменава дае ўяўленне аб свеце, у якім мы жывём, і аб самім аўтары, яго малой радзіме, чалавечых сімпатыях, аснова для біяграфіі духоўнай, якая ўжо непасрэдна адлюстроўваецца ў паэзіі. І не толькі ў паэзіі. Здарылася так, што, апроч паэзіі, недзе яшчэ ў 50-я гады, яго паманіла да сябе (і ў чымсьці, мусіць, пераманіла) філасофія — у Белдзяржуніверсітэце ён вучыўся менавіта на філасофскім аддзяленні. Вынікам філасофскіх студыяў з'явіліся навуковыя ступені, шэраг публікацый у друку, у тым ліку манаграфічных прац, прысвечаных праблемам марксісцкай дыялектыкі і, у апошні час, пытанням праваўнаўства і правоў чалавека. Да гэтага часу шкадуе, што не давялося, як след, у поўнай меры, даследаваць праблему адчужэння пры сацыялізме. Не дазволілі. Філосафам было цяжка: крок улева, крок управа — нельга.

Яўменаў-філосаф шмат намагання́ў аддаў барацьбе з некаторымі так званымі буржуазнымі плынямі ў філасофіі, асабліва Леанід Яўменаў, сцвярджаючы прысутнасць беларусаў і беларускага характару ў сучасным свеце, набіраючы ведаў і вопыту. За мяжой ён знаходзіўся доўга, некалькі гадоў, на розных дыпламатычных пасадах. На 43-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека (1987) абраны старшынёй — гэта вяршыня яго дыпламатычнай кар'еры. Будучы пры пасадах, знаходзіў час для паездак і вандровак. Ён шмат пабачыў, што адлюстравалася ў вершах "далёкіх дарог і вяртанняў", як іх назваў сам паэт, аб'ядноўшы ў канадскі і французскі "сшыткі". На чым жа спыніўся там, за мяжой, пагляд паэта? На розным. З Канады ён прывёз цудоўны верш "Індзейскае лета". Хто не ведае пра гэтае дзіва прыроды — "Індзейскае лета", якому у нас адпавядае "бабіна" Беларускі паэт дае яму сваё асэнсаванне, сваё бачанне: надзеях, схільнасцях. Запомніліся надрукаваныя ім калісьці радкі пра вясковых дзядзькоў і цётак — землякоў паэта:

*Паліны, Алесі, Алёны*
*Ад поля, ад лесу, ад лёну —*
*Як чутна, не з мудрых*
*Імёны.*
*Твары, як бачна,*
*Не ў пудрах.*
*Кватэры, вядома,*
*Не люксы*
*У каменіцах шыкозных,*
*З аблокаў і шкла сатканых, —*
*Простыя хаты*
*Драўляныя...*

Ужо тады, на самым пачатку, мяне здзівіла майстэрства паэта: беларуская мова гучала ў вершы як французская — з парыжскім пранонсам, выяўляючы свой еўрапейска-хоцімскі "шарм". Так, гэта — мова Хоцімшчыны, якую ён лічыць сваёй малой радзімай, дзе цячэ ўслаўленая Аркадзем Куляшовым Бесядзь, дзе, згадвае Л. Яўменаў, "у далёкія часы пасяліліся радзімічы і смаленскія крывічы". Тут, на Хоцімшчыне, у такой жа простай драўлянай хаце нарадзіўся і сам паэт. Здарылася гэта 22 ліпеня 1932 г., бацькі Леаніда Яўменава — сельскія настаўнікі. Вось адкуль пачынаецца яго жыццёвая сцяжынка, — вытокамі сваімі ён даражыць і сёння. Сёння ён марыць з'ездзіць на сваю радзіму, на Хоцімшчыну, "пажыць сярод нармальных, незакамплексаваных гонарам і пыхаю людзей". Хай мары спраўджваюцца! Едзь!

Шмат пражыта і перажыта. Скончыўшы вясковую школу, ён паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Пасля заканчэння універсітэта працаваў у камсамоле, вучыўся ў аспірантуры, выкладаў у ВНУ, на пачатку 70-х — лектар ЦК КПБ. Затым знаходзіўся за мяжой, у Сакратарыяце ЮНЕСКА ў Парыжы. Вярнуўшыся, займаўся навуковай працай, у тым ліку палітыкаправымі праблемамі. З 1982 г. па нядаўні час загадваў Аддзелам навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

Што тычыцца вершаў, дык пісаць іх пачаў з 11 гадоў і не спыняе гэтага занятку (з некаторымі перапынкамі) на працягу ўсяго жыцця.

У дзяцінстве чалавек пазнае свет у непасрэдных сваіх сувязях з ім. Ён уражлівы, значна бліжэй да прыроды, вастрэй яе адчувае, чым дарослы, абцяжараны прывычкамі і клопатамі. У дзяцінстве ўсё здаецца значным і важным і запамінаецца на ўсё жыццё. Гэтак было і ў Л. Яўменава.

*Дыхае ноч*
*Верасамі і рутаю.*
*Ціша наўсцяж ля ракі.*
*Коні ў мораку*
*Бразгаюць путамі.*
*Гаснуць сяла аганькі...*
*("Дыхае ноч")*

Такое няйначай запомнілася з далёкага дзяцінства.

Друкуецца паэт з 1949 года, выдаў зборнікі вершаў і перакладаў "Чужая планета" (1980), "Блізкія далі" (1983), "Існасць" (1997). Напагатове новыя вершы.

Жыццёвая, падзейная біяграфія — з Сартрам, які стаў, можна сказаць, яго асабістым праціўнікам, таму што абвясціў жыццё абсурдным, а Яўменаў (філосаф і паэт) ні за што не мог гэтага прыняць.

Філасофія — паняцце шматстайнае, з аднаго боку, гэта мысленне пра свет у цэлым, аб'ектыўнае спасціжэнне заканамернасцей грамадскага развіцця, а з другога — гэта асабісты вопыт, прыватныя веды, індывідуальнае засваенне набыткаў быцця. Там, дзе філасофія пазначана рысамі асабістага, прыватнага, індывідуальнага, яна хінецца да паэзіі, якая супрацьстаіць рацыяналізму з яго логацэнтрызмам, падаўленнем суб'ектыўнага пачатку. Вершы Яўменава — своеасаблівая форма "паэтычнай філасафічнасці" (выраз Арыстоцеля), якая мае істотныя перавагі над сухім тэарэтычным мысленнем. Яўменаў-паэт пра гэта ведае. Навуку, нават гуманітарную, не надта цікавіць індывідуальнае, чалавечае жыццё самога вучонага, а паэзію, асабліва лірычную, наадварот: прыватнае жыццё паэта тут у цэнтры ўвагі, і яно ўзнімаецца да значных абагульненняў, становіцца агульнацікавым.

Філасофія, відаць, не заўсёды давала яму магчымасць адчуць уласную прысутнасць у свеце, а паэзія — дае! Папулярны даследчык паэзіі М. Гаспараў наступным чынам вызначае, што такое верш: "Стих — это текст, ощущаемый как речь повышенной важности, рассчитанный на запоминание и повторение». Гэта вызначэнне пасуе да паэзіі Л. Яўменава, у якога звычайнае, прыватнае часцей за ўсё і выступае як агульназначнае і вельмі істотнае.

*Ў цемры горла дзяруць драчы,*
*Ў лузе фыркаюць сонныя коні —*
*Я накрыюся небам начы,*
*Уладкую пад голаў поўню.*

*Буду слухаць аер ля ракі*
*І дзівіцца, як жмурацца зоркі,*
*Як шапочуць з дубровай вякі*
*На сівым урасслым золку...*

Верш мае назву "Нараджэнне паэта" і, здаецца, цалкам яе апраўдвае, адкрываючы незвычайнае, паэтычнае ў звычайным, навакольным. Такіх вершаў у яго шмат: "Мара", "Сірацінка", "Плач у ліпеньскую ноч", "Сумуе зязюля", "Прадвесце" і інш. Паэзія Л. Яўменава мае шчыры, дакументальна-праўдзівы ці, як цяпер кажуць, аўтэнтычны характар — паэт піша пра тое, што бачыў сам, што асабіста зведаў на сваім вяку. Шмат вершаў было напісана ў 60-я гады — перыяд "адлігі". Пасля гэтага на нейкі час змоўк.

У П. Броўкі ёсць верш "Сцяжынка пад Нью-Йоркам", напісаны ім у свой час у Амерыцы, на дачы савецкай калоніі пад Нью-Йоркам. Шпацыруючы там па сцяжынцы, паэт успомніў тую далёкую сцяжынку, па якой "матуля ў першы раз у свет вяла з хаціны".

*Ды свет канчаўся мой, аднак,*
*Непадалёк задужа.*
*Хто мог бы думаць, што яна*
*Вакол зямлі абкружыць?*

Гэтай вось сцяжынкай пратупаў і

*Відаць мне*
*Праз падзей пажар,*
*Праз тоўшчу год*
*Бяздушнасць свету:*
*Тут кожны ліст —*
*Індзейца твар,*
*Дакор жыццю,*
*Хаўтуры лета...*

*Гарась*
*Кляновыя гаі*
*На радасць*
*І на смутак свету —*
*На паняволенай зямлі*
*Бушуе ў сэрцах*
*Продкаў лета...*

Ж.Сартр лічыў, што "пісьменнікам варта лічыць не таго, хто вырашыў расказаць штосьці, а таго, хто вырашыў расказаць гэтае штосьці адметным чынам". У сваіх філасофскіх манаграфіях Л. Яўменаў, як ужо згадвалася, не надта з Сартрам ладзіць, але ў дадзеным выпадку напэўна мог бы з ім згадзіцца. Прынамсі, пра індзейскае лета ён расказваў па-свойму, "адметным чынам". Пры гэтым ён заўсёды застаецца паэтам, лірыкам: раскрываючы аб'ектыўную шматграннасць падзей, ён падносіць усё гэта як асабіста перажытае, частку ўласнай душы. Думка — перажыванне знаходзіць сваё выяўленне і ўвасабленне і ў прамых выказваннях, і ў канкрэтных праяўленнях, учынках, дзеяннях, пошуках выбару і рашэння.

Далёка ад радзімы паэт шукае роднае, блізкае, сваё:

*У Нармандыі сенам пахне,*
*У Нармандыі сенакос,*
*А па Міншчыне сэрца чахне,*
*Сумна гэтак*
*І скрушна да слёз.*
*("Зялёны сум").*

У савецкай паэзіі была даўняя традыцыя, запачаткаваная яшчэ Ясеніным і Маякоўскім, — прывозіць з-за мяжы так званыя замежныя цыклы вершаў. Часцей за ўсё яны былі скіраваныя супраць капіталістычнай рэчаіснасці, якая падавалася ў знарочыста змрочных фарбах. У пэўнай меры даніну гэтай традыцыі аддаў і Л. Яўменаў:

*Равуць маторы,*
*Не чутна голасу людскога,*
*Працяты нафтавым смуродам —*
*Нам паху кветак не чуваць —*
*Парыж...*

*Тут глухнуць людзі*
*І юныя чарсцвеюць душы,*
*Гюго каменныя й Бальзакі*
*У закутках цяснуцца глухіх —*
*Парыж...*

Прачытаўшы такія радкі, міжвольна хочацца паспачуваць небараку, які трапіў у такое сутарэнне. Аднак гэта — выдаткі. У замежных вершах Л. Яўменава шмат шчырага, свежага і сапраўды паэтычнага. Аўтар не баіцца такіх слоў, як каханне, пяшчота, захапленне. У паэзіі ён як бы адпачывае ад філасофіі, ад службовага тлуму. Адзін з лепшых вершаў у зборніку "Чужая планета" прысвяціў жонцы — Зоі Фёдараўне. Гэта — верш-пасланне,

пасланне здалёк, з-за акіяна. Верш мае назву "Пенелопа мая" і апраўдвае такую назву. Ён вельмі шчыры і пяшчотны, багаты на адмысловыя эстэтычныя сродкі.

*Ты жывеш адзінокая,*
*Як у полі вярба,*
*За далёкімі далямі,*
*Пенелопа мая*

*Там усе твае радасці:*
*І каханне у снах,*
*І усмешкі дачушчыны,*
*І чаканне ліста.*

*Ледзьве цягнуцца месяцы,*
*За арбу не хутчэй, —*
*Па чужыне туляецца*
*Твой дзівак Адзісей.*

*Ты бядуеш, пакутная, —*
*Удава — не ўдава:*
*Стынуць губы пяшчотныя,*
*Слоў забытых жарства.*

*Я вярнуся з вандроўніцтва,*
*Толькі добра чакай,*
*Нескароная, верная.*
*Пенелопа мая.*

*Без радзімы блакітнае,*
*Без цябе мне няма*
*Ні кахання,ні радасці —*
*Разумееш сама.*

Сімпатычны верш — ён мне вельмі спадабаўся.

Паэт шукае вакол сябе рэчаў трывалых і пастаянных. Адказ на многія пытанні дала перабудова 80-х гадоў, якая заспела Л. Яўменава ў самым росквіце творчых сіл, пайшла яму на карысць. Ён успрыняў яе вельмі асабіста, у адным з інтэрв'ю, азіраючыся назад, прызнаваўся: "недзенекалі не хапіла ўнутранай сілы супрацьстаяць злу, няпраўдзе, недзе недаадчуў, а недзе пераацаніў значнасць уласнай асобы, недзе некаму не дадаў увагі і павагі, не адказаў дабром на дабро, не дадаў цеплыні і клопату блізкім, праігнараваў законы роднасці і крыві, недзе не пачуў голасу і не ўважыў святасці кахання, парушыў святы запавет прашчураў "любі бліжняга, як самога сябе" і г. д.

За ўсе перабудовачныя і пасляперабудовачныя гады Л. Яўменаў перажыў сапраўдане духоўнае абуджэнне, многае, хоць і запозна, адкрыў для сябе нанова, ад чагосьці адрокся ўвогуле, па-новаму зразумеў багацце дыялектыкі. Паступова паэт парывае з ідэалогіяй ці, дакладней сказаць, заідэалагізаванасцю і аддае перавагу анталогіі, засяроджваючыся на чалавечым быцці. Пра такі паварот сведчыць кніга вершаў "Існасць" (1997). У гэтай кнізе вечныя пытанні пра сэнс жыцця і смерці, пра ўзаемасувязь паміж светам рэчаў і светам чалавечых пачуццяў, паміж мысленнем і быццём пераплятаюцца з праблемамі дня сённяшняга, з пытаннямі спалучэння рацыянальнага і эмацыянальнага ў сучасным свеце, з асэнсаваннем новых аспектаў чалавека і прыроды, імкненнем асэнсаваць яшчэ нікім не асэнсаванае, у тым ліку перспектывы нацыянальнага адраджэння. У "Існасці" цесна спалучаюцца свядомае і бессвядомае, інтуітыўнае і накопленае вопытам пакаленняў, што жыве ў памяці і ў рэальнасці, выпадковае і лагічна непазбежнае, сённяшняе і даўно мінулае, біялагічнае і грамадскае ў чалавеку, таямнічае і загадкавае ў будзённым, блізкім, звычайным. Усе гэтыя супрацьлегласці ўтрымліваюцца не толькі ў той рэчаіснасці, да якой звяртаецца паэт, іх адзінства пранізвае і ўсю мастацкую тканіну вершаў, іх вобразную сістэму, прыёмы мастацкага ўвасаблення думкі ("Ці туды, мая маці, брыдзеш?..", "Пралетарскі чырвоны", "На Дзяды", "На новым вечы...", "Дзе ж паратунак, Божа?..", "Замаркоціўся дзень", "Уваскрэснем" і інш.).

Л. Яўменаў, як ужо гаварылася, не надта давярае сартраўскім "мухам", затое вялікі ўплыў аказала на яго скарынаўская пчала. Гэта адбілася ў вершах і ў перакладах (з французскай і англійскай моў), але не толькі. Справа дайшла да таго, што ён сам стаў заўзятым пчаляром. Хто каштаваў яўменаўскі мёд, хваляць: "Смачны!" Пра праполіс кажуць: "Карысны, дапамагае ад хваробаў". Такое чуць, думаю, прыемна. Пчалярства — занятак і філасофскі, і паэтычны адначасова.

Дзе ні сустрэнеш Яўменава — на абліччы яго заўсёды заўважыш лёгкую ўсмешку. Відаць менавіта так пазіраюць на свет паэт, філасоф і пчаляр, асабліва калі яны месяцца ў адной асобе. Пажадаем яму гэтай усмешкі і пасля 70-ці.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# Бяссонніца душы

## Сяргею ДАВІДОВІЧУ — 60



Назвы кніг прыходзяць па-рознаму. Адны з іх нараджаюцца падчас пакутлівага аўтарскага роздуму. Іншыя з'яўляюцца неяк нечакана, але гэта ніколькі не значыць, што яны выпадковыя, узніклі самі па сабе. Часам могуць вельмі шмат сказаць і выказаць. Аднак ёсць і такія, пра паходжанне якіх надта не задумваешся, бо не да гэтага. Назва літаральна прыкоўвае да сябе ўвагу, асабліва калі ведаеш самога пісьменніка. Здавалася б, толькі некалькі слоў у загалоўку, а за імі ж яскрава паўстае сам аўтар. І не толькі як літаратар, а і як чалавек, а калі глядзець шырэй — грамадзянін, сын сваёй краіны, свайго народа.

А менавіта падобную асацыяцыю выклікае ў мяне кніга Сяргея Давідовіча "Душы маёй бяссонніца", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1999 годзе. Душы бяссонніца — гэта і стан самога Сяргея Фёдаравіча, якога я ведаю... Прабачце, дакладна сказаць не магу, бо, здаецца, ведаю вельмі і вельмі даўно. Спачатку гэта было яшчэ да асабістага знаёмства. І нават не столькі праз яго паэтычныя творы, што ўразілі, і не столькі праз жывапісныя палотны, якія таксама ўсхвалявалі. Запомніліся яркія, надзіва клопатныя выступленні С. Давідовіча, калі ён з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання, узначальваў Камісію Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.

Тое, пра што гаварыў падчас чарговых сесій, на пасяджэннях Камісіі, што даводзіў, выступаючы ў перыядычным друку, па радыё, тэлебачанню, якраз і падпадала пад вызначэнне "бяссонніца душы". Адчувалася (дый сёння адчуваецца) непахісная ўпэўненасць С. Давідовіча, што толькі сумеснымі намаганнямі мы зможам паспяхова збудаваць наш агульны дом, назва якому — Беларусь. Вернасць і адданасць ідэалам незалежнасці, нацыянальнага Адраджэння — адзіны і самы перспектыўны шлях, па якім і мусіць ісці сёння кожны, для каго паняцце Беларусь — самае святое і самае чыстае. А С. Давідовіч гэтай дарогай ідзе даўно. Іншая рэч, што паэны час было не да таго, каб адкрыта выказваць гэта. Але не з-за адной атмасферы, якая, як вядома, панавала ў грамадстве. На тое існавала іншая, прычым істотная прычына.

Сяргей Фёдаравіч, як вядома, не належыць да прадстаўнікоў так званага філалагічнага пакалення. Пасля заканчэння сярэдняй школы быў рабочым у саўгасе, загадваў вясковым клубам, а пасля арміі працаваў шафёрам у Мінску. А затым служыў у міліцыі, у якой прайшоў шлях ад сяржанта да палкоўніка. Але ў сэрцы нязменна жыла прага беларускасці. А таму і жыла, што С. Давідовічу пашчасціла нарадзіцца ў знакамітай Карпілаўцы, што на Лагойшчыне, звязанай з імем і жыццём выдатнага беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. Непадалёку ж знаходзіліся Купалавы Акопы. А яшчэ ў сям'і Давідовічаў панавала пасапраўднаму беларуская атмасфера. Інакш і быць не магло. Бацькі С. Давідовіча, працуючы на роднай зямлі, захавалі назаўсёды любоў да яе, як тое неацэннае багацце, якое нельга не перадаць у спадчыну. А яшчэ выхоўвалі ў дзяцей сваіх такія важныя рысы, як сціпласць, сумленнасць, працавітасць. А перад усім — чалавечнасць.

Вяртаючыся ў прамінулае і перажытае, С. Давідовіч вяртаецца па сутнасці і да вытокаў народнай памяці. І што важна, не збіраецца станавіцца ў позу гэткага выкрывальніка, якога ўсё не задавальняе ў мінулым. Да таго, што адбывалася раней, стараецца падыходзіць як мага больш аб'ектыўна:

*Ад успамінаў*
*не абароніць*
*Ні доўгі век,*
*ні хуткі час...*
*Няхай былое*
*душу бяссоніць,*
*Хай ачышчае*
*і лечыць нас.*

*Хваліць ці ганьбіць*
*усё агулам*
*Лягчэй, чым "важыць"*
*за крокам крок.*
*Шмат і памылак —*
*там, у мінулым,*
*Ёсць і высновa —*
*жыцця вытак.*

Гэтай аб'ектыўнасцю прасякнуты і паэмы С. Давідовіча, якія адносяцца да ліра-эпічнага накірунку. Менавіта апошняя акалічнасць і дазволіла яму праўдзіва адлюстраваць жыццё на розных гістарычных прамежках часу, зазірнуць у саму душу беларусаў, спасцігнуўшы іх памкненні да лепшай долі, да шчаслівага, заможнага жыцця, а разам з тым і ўсвядоміць сябе народам — вялікім народам, вартым тых, хто некалі будаваў магутнае Вялікае княства Літоўскае. Пра што б ні пісаў С. Давідовіч — пра суровыя ваенныя выпрабаванні ці пра страшныя чарнобыльскія наступствы, пра гады калектывізацыі ці працэсы дэмакратызацыі ў сённяшнім грамадстве, ён нязменна да тых ці іншых падзей падыходзіць па-грамадзянску адказна, а глядзіць на ўсё вачыма самога народа.

Але паэзія С. Давідовіча — гэта і шчырая, пранікнёная лірыка, а што многія яго вершы надзіва мілагучныя, бадай, першымі заўважылі беларускія кампазітары, таму і паклалі многія творы на музыку. А першая песня, напісаная С. Давідовічам сумесна з Эдуардам Зарыцкім, была прысвечана маці і пачынаецца словамі: "Ты ў свеце самая прыгожая..." І іншыя песні — таксама пра прыгажосць. Пра тое душэўнае хараство, якое нязменна з'яўляецца там, дзе чысціня памкненняў, пачуццяў, учынкаў.

Кожны юбілей чалавека — гэта падсумаванне набыткаў у розных галінах дзейнасці. А прыхільнікі таленту С. Давідовіча добра ведаюць яго і як таленавітага мастака, лепшыя жывапісныя палотны якога зноў жа напоўнены тым багатым зместам, за якім абавязкова прысутнічаюць матывы беларускасці ў самых розных іх праявах. Дый калі паспрабаваў сябе ў якасці кінасцэнарыста, не зважаючы на спецыфічнасць матэрыялу, пакладзенага ў аснову, таксама, вобразна кажучы, пісаў Беларусь, пісаў беларусаў.

Адна з празаічных замалёвак С. Давідовіча заканчваецца такімі словамі: "Гэта ж так проста і лёгка — заставацца самім сабой". Ён і застаецца самім сабой: у літаратуры, у мастацтве, у жыцці. Таму і застаецца АСОБАЙ, трапіўшы ў сілавое прыцягненне якой, і сам становішся ў многім дабрэйшым і шчадрэйшым.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



*"Залатое Вяселле"* — *Фота К. ДРОБАВА*

# ЗАКАЦІ, ЗАКАЦІ...

Васіль ГІГЕВІЧ



АПАВЯДАННЕ

Пазваніў сябрук і болей загадаў, чым папрасіў:

—Мая бабуля памёрла. У суботу пахаванне. Падкінуць трэба.

—Далёка?

— А за сотню кіламетраў. Карацей, у мяне, на радзіме.

Ад сябрука ніколі нічога пэўнага нельга было дазнацца. І яшчэ падумалася Лашкевічу, што з гадамі пачуццём абавязку аблытваешся гэтак, што самому сабе і вольнай хвіліны не застаецца, як казаў знаёмы— не ты камандуеш у старасці, а табою…

У суботу раніцаю выехалі з горада, пакінуўшы гул машын, людскую мітрэнгу, магазінныя чэргі па тое гатовае і ўпакаванае, што, здаецца, само па сабе паяўляецца ў вітрынах і на прылаўках, работу штодзённую і вядомую, адну і тую ж, адну і тую ж, без якой перад пенсіяй чалавек адчувае сябе беспрытульна, і яшчэ тое многае, гарадское, да чаго прызвычайваешся надта ўжо хутка: ванны з гарачай і халоднай вадою, цёплыя кватэры, якія не трэба абаграваць, безработныя пустыя вечары, каляровыя грымучыя тэлевізары, адкуль спланавана-прыдуманае некім жыццё напітвае душу то радасцю, то сумам і без якога няўтульна і пуста ў свеце.

Зіма была дзіўная. У Афрыцы і Егіпце, як цуда якое, выпадаў снег, Еўропу то залівала дажджамі, паводкамі, то засыпала снягамі, на пачатку студзеня ў горадзе ля тратуараў глыбіліся скамянелыя чорныя ад бруду снягі, якіх машыны не паспявалі вывозіць за горад, а зараз, на пачатку лютага, пасля грымотлівых, са споладахамі ў небе, завірух пайшло цяпло, снягі на палях пазлізвала дажджамі і яны то чарнелі, то зеленелі азімінаю.

—Мароз ціскане і – парве азіміну. Вясною перасяваць давядзецца. Дзе тое зерне ўзяць?—не то ў сябе, не то ў Лашкевіча дапытваўся сябрук, глядзячы цераз шкло машыны на поле, дзе зеляненла азіміна, схаваная ў лагчынах чорнымі лужынамі, а на ўзгорках— бліскучымі дажджавымі кроплямі. Такім ён удаўся – да ўсяго меў справу…

Лашкевіч быў фізік, — праводзячы ў лабараторыі рабочыя дні, яшчэ са студэнцтва прызвычаіўся ацэньваць усё ў свеце мераю рэальнага і нерэальнага, магчымага і немагчымага, ведаў пра імклівае змяшчэнне магнітных палюсоў Зямлі, ведаў, што гэткае ж змяшчэнне адбываецца ў апошні час і на іншых планетах, так што, магчыма, усе кліматычныя беды не ў глабальным пацяпленні, а ў чарговай перапалюсоўцы, якая ўжо была на Зямлі і, калі гэта так, то для людзей сусветны патоп хутка дзіцячай забаўкаю акажацца.

Пра ўсё гэта Лашкевіч і выказаўся. Сябрук скасавурыўся і тут жа сваё выдаў:

— А яны пра ўсё гэта яшчэ раней, да тваіх адкрыццяў, уведалі. Таму і паперлі сюды, каб месца заняць.

—Хто?

—Хто-хто... Вечна цябе вучыць трэба... Чорныя і ўся набрыдзь сусветная.

Сябрук спалучаў тое, што Лашкевіч ніяк не мог спалучыць. У свае пяцьдзесят з гакам сябрук так і не набыў таго пэўнага, прыстойнага, чым звычайна ганарацца людзі: ні пасады грашовай, ні звання ганаровага,— хаўрусаваў з безграшовымі мастакамі, з гісторыкамі, час ад часу матляўся за мяжу, палітыкаваў, збіраючы вакол сябе нейкія групоўкі, многія салідныя пасадныя людзі шарахаліся ад яго, не аднойчы і Лашкевіч спрачаўся з ім, ды разысціся назусім не мог, штосьці яднала іх, мо – гады студэнцтва, тыя паўгалодныя часы, калі яны, вясковыя хлопцы, дзяліліся ў інтэрнаце рэдкімі пасылкамі з дому.

Каб не маўчаць, пачалі гаворку, — пра знаёмых спачатку, потым пераскочылі на палітыку і палітыкаў нягеглых, пра жанчын бесталковых, — гаварылі калі ўсур'ёз, а калі жартам, з падкавыркаю адно аднаго, быццам ехалі не на пахаванне, а на ўрачыстасць ці гулянку, хоць, па- праўдзе, гараваць надта і не варта было: бабуля пражыла за дзевяноста гадоў, яшчэ гэтай восенню работу рабіла.

Усё далей, далей аддаляліся яны ад горада і ўсё ніжэй апускалася да зямлі шэрае захмаранае неба, усё шчыльней абступалі іх палі, пералескі, лугі, вадою залітыя, і штосьці новае, хвараватае, праразалася ў настроі Лашкевіча, чаго не мог адагнаць ні жартамі, ні лагічнымі развагамі

Не раз ён бываў на пахаваннях і цяпер зноўку давядзецца сутыкацца з тым, з чым не хочацца сутыкацца: бачыць бела-мармуровы закамянелы твар, адчуваць непрыемны саладкавата-прытарны пах...

Навошта яму ўсё гэта, навошта?

— Мы па дарозе ў раённы музей заскочым. Там у мяне дзялы да загадчыцы ёсць,— гаварыў тым часам сябрук.—А тады ўжо і далей пакоцім. Ненадоўга. Паспеем...

Лашкевіч згоднаківаў галавою і пытаўся: "Налева? Направа?"

Даўно сотня кіламетраў на спідометры адматалася. Нарэшце ў райцэнтры ля драўлянай будыніны спыніліся.

—Зойдзеш у музей, ці – тут пасядзіш? – спытаў сябрук, вылазячы з машыны.

У музеі яшчэ ля парога іх перастрэла загадчыца – мілавідная чырванашчокая прыгажуня з жывымі бліскучымі вачыма, радасна войкнула, угледзеўшы сябрука, і тут жа павяла яго ў кабінет, шчоўкнуўшы за сабою дзвярным замком.

Памалу Лашкевіч пасунуўся па пустых тэматычных залах, прыглядаючыся да здымкаў, да выразак газетных, да стэлажоў, на якіх ляжалі медалі, пісталеты іржавыя, сярпы. Болей за ўсё ён прастаяў перад стэлажамі, дзе на паліцах ляжалі стрэлы,— і невялікія, з белым легкім апярэннем на канцы, і большыя, з цяжкім вінтавым, мабыць з костак вытачаным, апярэннем. Там жа, на стэлажах, цямнела шэра-цёмная кальчуга, іржавы наканечнік кап'я, дугою выгнутыя лук і драўляны арбалет, — верагодней за ўсё вялікія стрэлы і былі прызначаны для арбалета. І яшчэ за шклом меўся макет пасялення: замак на гары, сцяна каменная, роў і – маленечкія, бы мурашы, людзі на лесвіцах, ля сцяны каменнай...

Гледзячы на ўсё гэта, Лашкевіч хацеў спасцігнуць нешта ім да канца не асэнсаванае. Ужо не раз , як і ўсе людзі, ён думаў пра тое найгалоўнейшае, што правіла яго жыццём, пра усё тое – ён фізічна адчуваў гэта, – што кіравала лёсамі іншых людзей, але што гэта было – не ведаў, і гэтае няведанне было— як калецтва, з якім ён змушаны быў жыць. Хоць, як і ўсякі калека, ён прызвычаіўся да сваёй бяды, ды толькі час ад часу, на пахаваннях, ці як сёння ў музеі, ён вострa адчуваў сваё няведанне і таму з нейкай надзеяю, як на збавенне, глядзеў на стэлажы і ў каторы раз задаваў сабе адно і тое ж: навошта, навошта паяўляецца ў свеце гэтае кволае і хісткае, слязьмі і крывёю прапітанае, што тут жа знікае навечна, што ў чарнечы бяздонный — як той піск камарыны?.

Некалі ён прачытаў пра такое параўнанне і яно чамусьці запомнілася...

—Ну, паехалі,— сябрук нечакана паявіўся побач.—Чырванашчокі, распараны, як пасля лазні. Побач з ім чырванела полымем загадчыца, сарамліва апусціўшы вочы, падала руку:

— Антаніна Міхайлаўна.

Пальцы яе, як і ўся далонь, былі гарачыя і мяккія, бы пуховыя.

І зноў была дарога, зноў сябрук камандаваў: "Налева. Направа."

І яшчэ ён казаў, рукою ў шкло торкаючы:"Вунь там, за ракою, некалі, да вайны яшчэ, бабуля казала, манахі жылі. На танцы ў вёску прыходзілі. О-о, то яны перцу давалі! А вунь і царква наша. У ёй да нядаўняга бацюшка служыў. Але яго ўбралі — да кабет быў ласы. Вунь будыніна адмысловая, бачыш? Яе мой дзядзька будаваў, хоць ніякай адукацыі не меў. Ён і ў самаахове, і ў партызанах – дзе толькі ні пабываў...

—Ты, мабыць, па ім урадзіўся? — пытаў Лашкевіч.

На што сябрук толькі галавою хітаў:

— Не-е, мне далёка да ягонай хваткі. Ён сапраўдны адчаюга быў.

Укацілі ў вуліцу – побач, уздоўж хат, цякла рака, цяпер разлітая, вада з аднаго боку падступала да самай дарогі. У адным двары вароты былі расчынены, ля двара стаялі цугам легкавікі, ля іх тоўпіліся мужчыны.

Прыехалі.

Да сябрука падыходзілі людзі, торкалі руку, загаворвалі.

Шэры дзень прапітала сырасць, якой цягнула як з нізкага неба, так і ад блізкай сцюдзёнай вады. За шырокай палосаю вады, на залітым лузе, тырчалі з вады голыя кусты, а далей яшчэ, мяжуючы з шэрым небам, сінеў вузенькаю, у палец, палоскаю лес. І ўсюды, куды ні кінь вокам, як падалося Лашкевічу, была разліта туга, мо таму ў вочы кідаліся хлеўчукі з чорнымі кучамі гною, калодзежы з жураўлямі, складні дроў, пустыя гароды з рэдкімі яблынямі і кустамі.

Як толькі Лашкевіч выйшаў з машыны, адчуў, што азяб, мо – ад сырасці, а мо – пачынала разбіраць хвароба, і таму, як гэта часта бывае на пачатку хваробы, ўсё здавалася нясакладным, няправільным, чужым нейкім. І тут жа згадалася: адвык ад вёскі і ўсяго вясковага, сярод чаго вырас, таму так сцюдзёна пад сырым ветрам, таму так востра смярдзіць гной ля хлеўчука, таму гэтак ліпне на імпартовыя бліскучыя чаравікі гразь, таму вялікай і няўтульнай здаецца хата, куды зайшоў следам за сябруком: з пабеленай плітою, з чорнай нямоднай шафаю ля сцяны, з танненькімі шпалерамі, дзе-нідзе абадранымі.

У хаце тоўпіліся людзі, у асноўным жанчыны,— як і звычайна, хата дзялілася на дзве палавіны, у другой, у зале, стаяла труна і ў ёй, галавою на покут, ляжала нябожчыца. Ад дзвярэй залы ён бачыў маленечкі, з кулачок, бледны тварык з прыадкрытым без зубоў ротам, з сіня-чорнымі глыбока запалымі заплюшчанымі вачыма.

Сябрук панес да труны кветкі, а Лашкевіч, пастаяўшы пэўны час, адчуўшы знаёмы саладкавата-прытарны пах, выйшаў на свежае паветра.

Людзі чакалі бацюшку. Ён тут жа і паявіўся – падкаціў у імпартовым легкавіку. Разам з ім з машыны выбраліся чатыры бабулькі, мадоднай было гадоў шэсцьдзесят.

—Пеўчыя прыехалі,— шаляснула сярод мужчын.

Мажны, метры пад два, добра ўкормлены, як і многія святары, бацюшка, апрануты ва ўсё чорнае, у чорную, да пят сутану, у гэткай жа чорнай круглай шапцы на галаве, бы гусак гусей, павёў бабулек у хату.

Мужчыны падаліся следам.

Цяпер ужо ўся хата была запоўнена людзьмі. На імгненне ўсё заціхла, а потым пачуўся глухаваты бас бацюшкі,— роўным голасам, то хутчэй, то павольней, расцягваючы словы, бацюшка пачаў малітву:

— Благословен Бог... Трысвятое... І на Отчэ нас есць Царство..

Пазней у малітву пачалі ўкліньвацца галасы бабулек:

— Госпадзі, памілуй...

Лашкевіч прыслухоўваўся да пеўчых і не мог разабраць іх слоў, пазней трохі здагадаўся, што пеўчыя словы малітвы перакладаюць на звыклую беларускую гаворку.

Бас бацюшкі праразаўся ўсё радзей і радзей, а хор пеўчых гучаў усё вышэй і званчэй, старэчыя галасы былі розныя, але пеўчыя неяк удала дапаўнялі адна адну, стоячы за спінамі Лашкевіч выхопліваў адно і тое ж:

—Госпадзі, памілуй...

З паўгадзіны адпявалі бабулю, а потым пачаўся вынас цела – да грузавой машыны з адкінутымі бартамі. Спераду кузава, ля кабіны, былі прывязаны дзве елачкі.

Так яны і рушылі: наперадзе, з крыжам у руках, абвітым ручніком, ішоў стары, за ім жанчыны з кветкамі, тады грузавая машына сунулася з нябожчыцай, а за ёю табуніліся людзі.

Бацюшка не ішоў разам з людзьмі – паехаў да могілак на легкавіку.

Працэсія рухалася да ускраіны вёскі, дзе сярод кустоў блішчэлі бетонныя стандартныя слупкі, абгароджаныя загародкамі. Перад могілкамі машына спынілася.

І зноў, цяпер ужо ля выкапанай магілы, дзе на жвірыстым грудзе зямлі ляжала труна з маленькім усохлым целам, пачуўся бас бацюшкі, і зноў, як і нядаўна, бабулькі слабымі старэчымі галасамі ўкліньваліся ў малітву:

—Госпадзі, памілуй, Госпадзі...

Лашкевіч ніколі не бачыў жывой гэтай бабулькі і мо таму ніякага жалю да яе ў яго не паяўлялася. Усё было, як і не раз дагэтуль, але ж ён, фізік, ведаў, што за ўсім гэтым павінен быць сэнс найвышэйшы і, калі б ён мог паверыць у гэтае "Госпадзі памілуй", то, можа, ён бы і знайшоў сёння нейкае супакаенне, суладдзе з гэтымі людзьмі, а так штосьці як бы калола яго.

Адпяванне закончылася.

—Родныя і блізкія могуць развітацца,— дазволіў бацюшка. Трымаючы перад сабою на поўным жываце бліскучы ў пазалоце крыж, ён пільна глядзеў на тварык бабулі.

Па адным да труны пацягнуліся блізкія: нахіляліся да счэпленых на жываце рук, да ілба, прыкрытага белай паперчынай, на якой было штосьці напісана.

— Ты ж там перадай усім нашым прывітанне. І Надзечцы, і ўсім,— казала пажылая жанчына, нахіліўшыся над тварам нябожчыцы – быццам тая магла пачуць.

Адна ўсплакнула— мабыць, то была дачка.

Туды ж падаўся і сябрук, і ён таксама нахіляўся да рук, да белай паперчыны, што хавала лоб.

– А цяпер кветкі ўбірайце. Ногі, ногі развяжыце. І рукі трэба каб былі адкрытымі, — падказваў бацюшка тым, хто былі апошнімі ля труны.

Затым века труны, збітае з сасновых габляваных дошак, лягло зверху, навек схаваўшы белы, з кулачок, тварык. Мужчыны пачалі заганяць у дрэва цвікі.

— Да канца ў труну не трэба забіваць цвікі,— казаў нехта з мужчын. І сапраўды, да канца цвікі ў труну не забівалі – чаму?

На белых вяроўках асцярожна апусцілі труну ў яму.

—Родныя і блізкія могуць кінуць зямлю,— зноў дазволіў бацюшка, і людзі паслухмяна кідалі зямлю на века труны. Чулася глухое бомканне.

Затым мужчыны рыдлёўкамі кідалі жвірыстую зямлю ў яму.

Схаваўшы ў дыпламат бліскучы крыж, бацюшка пайшоў ад магілы да легкавіка. Па дарозе яго дагнаў мужчына і штосьці торкаў яму ў рукі, гаварыў нешта, ківаючы галавою.

Было холадна Лашкевічу і зябка. Усё тая ж шэрасць была разліта над роўным краем: і над кустамі, што тырчалі з вады, і над шэрай роўнай зямлёю, і над роўнай вадою, дзе, як мужчыны казалі, ужо ва ўсю гулялі ля берагоў шчупакі, аж вар'яцелі...

У хаце ўжо стаялі сталы, застаўленыя талеркамі з ядою.

– Праходзьце, садзіцеся,— гучаў голас гаспадара– ружовашчокага мацака з жывымі бойкімі вачыма. То быў сын нябожчыцы. Было яму, як сябрук казаў, семдзесят пяць, працаваў на трох работах і жаніўся нядаўна.

Так атрымалася, што на покуце, пад абразамі, селі пеўчыя, а ўзбоч іх і астатнія.

І зноў пеўчыя заспявалі, на свой лад перакладаючы рускія словы, і зноў Лашкевіч выхопліваў адно і тое ж, за што яму варта было ўхапіцца і ў чым, можа, і было б ягонае супакаенне:

—Госпадзі, памілуй, Госпадзі...

Але збавенне не паяўлялася і таму, як ніколі дагэтуль, Лашкевіча ўсё раздражняла, ён ніяк не мог спалучыць у адно цэлае ўсё сённяшняе: і гэты белы, з кулачок, нежывы тварык, прытарна-саладкаваты пах, які нядаўна быў у хаце, спевы пеўчых, стравы на стале: з таго цяля, што нядаўна бегала па лузе, з таго свінчаці вісклівага, што рохкала ў хляве, і рыба, і грыбы, і бульба, і ўсё іншае, што бесперастанку падносілі жанчыны на сталы,што дымілася цёплай параю і пахла, і поўныя чаркі гарэлкі, і пачырванелыя раздабрэлыя твары, і жывая гаворка пра тое, як доўга яна жыла, як увогуле доўга жывуць у гэтым краі , і па сто гадоў жывуць. " А некаторыя, можа, і болей пражывуць, паглядзім яшчэ,"—мармытнуў сябрук, абгрызаючы костку крэпкімі белымі зубамі.

І яшчэ заспявалі пеўчыя,— невядомую песню пра нейкага Лазара, які блудным сынам блэндаўся па свеце, гора спазнаючы...

Сутоньвацца пачало. Лашкевіч паклікаў сябрука:

*(Заканчэнне на стар. 12)*

## Купалаўскі шукае "Мужа для паэтэсы"

**Сёлетні, незвычайна доўгі тэатральны сезон сталічны Купалаўскі тэатр вырашыў завяршыць прэм'ерай. Першы паказ спектакля "Муж для паэтэсы" адбыўся на Малой сцэне тэатра 18 ліпеня.**

**У літаратурную аснову гэтага "жаночага" па**



**сваёй тэме спектакля легла праца трох жанчын. П'есу напісала вядомы драматург Алена Папова, пераклала яе на беларускую мову загадчыца літаратурнай часткі Купалаўскага Марына Бартніцкая, а лірычныя вершы Раісы Баравіковай прамаўляе галоўная гераіня спектакля, Паэтэса. "Разбавіў" жаночую кампанію рэжысёр-пастаноўшчык Уладзімір Савіцкі, які не дазволіў спектаклю ператварыцца ў звычайную меладраму, а задаў яму жорсткі рытм і прыўнёс у яго элементы музычнай імправізацыі.Так у "камедыі-імправізацыі" апроч галоўных герояў з'явіліся яшчэ і "маскі", якіх іграе тэатральная моладзь: Андрэй Гладкі, Юлія Міхневіч, Раман Падаляка, Аляксандр Паўлаў, Ігар Пятроў, Сяргей Чуб, Кацярына Яворская. "Маскі", якія існуюць з героямі нібы ў розных вымярэннях, мітусяцца ў джазавым шаленстве, спяваюць, забаўляюцца ліхтарыкамі — увогуле, ствараюць настрой і трымаюць тэмп. Галоўную гераіню спектакля сыграла Вольга Няфёдава. Яна па-майстэрску здолела паказаць духоўную прыгажосць сваёй таўстушкі ў вялікіх акулярах, паказаць яе безабароннасць і тугу па роднаснай душы. На пошукі гэтай "душы" ў рэальным мужчыне яе падштурхоўвае дзейная і таксама нешчаслівая, але па-свойму, Сяброўка. Яе ў розных саставах іграюць Яўгенія Кульбачная і Галіна Фёдарава (першая, дарэчы, займалася яшчэ і пластыкай для спектакля). Тройцу кандыдатаў у мужы для Паэтэсы прадстаўляюць Алег Гарбуз, Аляксандр Лабуш і народны артыст Беларусі Арнольд Памазан. Пасрэдны фізік, музыкант-таксіст, гаспадар піцэрыі — каго ж абярэ ўзвышаная Паэтэса? І ці патрэбна ёй з Паэтэсы ператварацца ў звычайную жонку, змучаную побытам і сямейнымі сваркамі? Пытанне гэтае стваральнікі спектакля пакінулі без адказу...**

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

## Нацыянальны мастацкі музей паведамляе

●

**Да 2 верасня ў малой зале Нацыянальнага мастацкага музея працуе выстава пейзажаў Марка Шагала. На выставе ўпершыню прадстаўлены арыгіналы твораў мастака. Уваход каштуе 1500 рублёў.**

●

**9 жніўня ў галерэі Нацыянальнага мастацкага музея адкрываецца выстава беларускага жывапісу 1980-1990-х гадоў з фондаў музея.**

●

**У філіяле Нацыянальнага мастацкага музея ў Музеі З. Азгура працуе выстава, прысвечаная вобразам Я.Купалы і Я.Коласа ў беларускай скульптуры на працягу другой паловы XX стагоддзя. Прадстаўлены творы З.Азгура, А.Бембеля, А.Селіханава, А.Шатэрніка і іншых.**

●

**У Віцебскім мастацкім музеі працуе выстава жывапісу В.К.Бялыніцкага-Бірулі, прысвечаная 130-годдзю з дня яго нараджэння. Выставу з 58 твораў прадставіў Віцебску Нацыянальны мастацкі музей са сваіх фондаў. Творы мастака паказваюць творчы шлях знакамітага пейзажыста з 1910 па 1950-я гады.**

●

**У Магілёве ў музеі В.К.Бялыніцкага-Бірулі працуе выстава з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея "Паэзія Я.Купалы ў творчасці беларускіх мастакоў". На ёй прадстаўлены 40 графічных аркушаў васьмі беларускіх мастакоў (В.Шаранговіч, Б.Забораў, Г.Паплаўскі, В.Александровіч і інш.), якія ілюструюць паэмы Я. Купалы дарэвалюцыйнага часу.**

**Н.К.**

ТВОРЧАСЦЬ

# Поруч у жыцці і творчасці

Удалай мастакоўскай сям'ёй называюць сябры Тамару і Уладзіміра Васюкоў. Яны спраўдзіліся як цікавыя творцы: Тамара — як кераміст, Уладзімір — як графік. Яны не толькі муж і жонка, але ў мастакоўскай справе сапраўдныя паплечнікі. Разам скончылі ў 1972 годзе Мінскую мастацкую вучэльню, потым Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (Тамара ў 1977г., Уладзімір у 1978г.). Маюць адну майстэрню на дваіх. Абодва выкладаюць, Уладзімір — у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Тамара — у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры. Абодва з'яўляюцца актыўнымі сябрамі мастацкай суполкі "Пагоня", шмат удзельнічаюць у калектыўных экспазіцыях, неаднаразова паказвалі і сумесныя сямейныя выставы. Нават юбілеі адзначаюць у ліпені. Зрэшты, і родам яны абое з Гомельшчыны. Тамара з вёскі Хутаранка, а Уладзімір з пасёлка Леніна. Крыніцай многіх мастацкіх сюжэтаў, асабліва гэта заўважна ў творчасці Тамары, стала іх малая радзіма, уся Беларусь, яе гістарычнае мінулае, таленавітыя людзі, прыгожыя краявіды.

Духоўнае сумоўе невыпадкова склалася ў сям'і Васюкоў. Яшчэ падчас вучобы ў інстытуце Тамара і Уладзімір разам з іншымі студэнтамі выязджалі ў летнія этнаграфічныя экспедыцыі, на чале з вядомым навукоўцам Міхасём Раманюком вывучалі народнае мастацтва. Адна з першых самастойных работ Тамары так і называлася "Мінскія строі". Маладая мастачка мела магчымасць азнаёміцца з унікальнымі выданнямі па гісторыі Бацькаўшчыны, калі падчас вучобы ў інстытуце паралельна працавала некалькі год мастаком-афарміцелем у Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна.

А вынікам сталі яе творы: керамічная серыя па матывах паэзіі М.Багдановіча; медалі, прысвечаныя М. Гусоўскаму, В. Дуніну-Марцінкевічу, Я. Драздовічу. Да юбілею Дуніна-Марцінкевіча Тамара Васюк выканала серыю масак паводле яго "Пінскай шляхты". Для яе гэта было вяртаннем у дзяцінства да каларытных і характарных вобразаў палешукоў. Колькі гумару і шчырай прыхільнасці да вяскоўцаў знаходзіш у керамічных кампазіцыях мастачкі "Дзяды", "Свята", "Раніца", "Дабрыня" і іншых. Асабліва ўразіла адна з нядаўніх яе серый "Слынным асобам маёй Радзімы", прысвечаная вобразам Барбары Радзівіл, Вітаўта, Рагнеды, Еўфрасінні Полацкай, Усяслава Чарадзея, Цёткі... Гэта была ўдалая спроба адыходу мастачкі ад чыстага этнаграфізму да скульптурнай пластыкі. Самае цікавае, каб увасобіць сваю партрэтную галерэю ў такім жорсткім матэрыяле, як шамот, Тамара распрацавала ўласны склад гэтага матэрыялу, больш мяккі, прыдатны для стварэння рэльефу, які дае магчымасць мадэляваць дробныя пластычныя дэталі — павекі, вусны, нос, арнаменты на адзенні. Яе скульптурныя партрэты ў нечым нагадваюць наіўныя, статычныя вобразы народных разьбяроў, але ў гэтай наіўнасці ёсць сапраўдная мудрасць і шчырасць успрымання свету і прыгажосці. Сёння мастачка прадстаўляе на выставах і свае дэкаратыўныя кампазіцыі, дзе імкнецца спалучыць традыцыйныя беларускія ганчарныя формы і іх сучаснае гучанне і аздабленне. Дарэчы, гэта Тамары ўдаецца. Такое пераўвасабленне традыцыйнай керамікі перадае Тамара Васюк і сваім студэнтам на кафедры народных рамёстваў Універсітэта культуры. Там Тамара працуе ўжо каля дзесяці год. Па сутнасці, яна распачынала на гэтай кафедры ганчарную справу, аддаючы студэнтам уласны творчы час і часцінку душы. Тамара дамаглася, каб у ганчарных майстэрнях збудавалі спецыяльную печ для абпальвання керамікі. І сёння выпускі ганчароў ва Універсітэце культуры могуць пасупернічаць па майстэрству з керамістамі Акадэміі мастацтваў.

Уладзімір Васюк такі ж вялікі працаўнік, як і яго жонка. Больш вядомы ён на Беларусі як плакатыст, шмат займаўся кніжнай, рэкламнай і афішнай графікай. Многія яго творы гісторыка-культурнай тэматыкі сталі хрэстаматыйнымі: "Еўфрасіння Полацкая", "Мікола Гусоўскі", "Пётр Мсціславец", "Кірыла Тураўскі" і іншыя. Гэта ён адзін з першых намаляваў магутнага зубра, а не кволы кляновы лісток, як сімвал абрысаў Беларусі на геаграфічнай карце ("Усведамленне").

У 1995 годзе мастак нечакана наноў раскрыўся ў серыі аркушаў "Прывіды маёй малой радзімы", дзе прапанаваў сваё графічнае бачанне тэмы Чарнобыля. Пазней жахлівых чарнобыльскіх мутантаў змянілі сімвалічна-філасофскія малюнкі, вытанчаныя і дасканалыя па выкананню ("Восень — прадчуванне вясны", "Здань", "Стоды", "Цішыня", "Ладдзя роспачы"...). Малюнкі, выкананыя чорным алоўкам, вельмі тонка перадаюць нюансы пераходаў ад белага да светла-шэрага, ад шэрага да цёмна-шэрага і гэтак далей. Мастак віртуозна валодае тэхнікай малюнка алоўкам, па сутнасці, яго работы сталі чорна-белым алоўкавым жывапісам. Сёння Уладзімір раскрыўся як лірык, які шукае і знаходзіць глыбокі сэнс у звычайных рэчах і звыклых рэаліях нашай Беларусі.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К.ДРОБАВА*



*Ул. Васюк, "Мелодыя зімы", 2002г.*



*Ул. Васюк, "Стажкі", 2001г.*

# Місія музыканта

***Сапраўдны талент — гэта алмаз, які лёгка прапускае святло скрозь свае грані і разам з тым рэжа цвёрдую паверхню шкла ці металу.***

***Ні абставіны жыцця, ні выпады Лёсу, ні ўнутраныя крызісы не здатныя зламаць волю творчага чалавека. Часам ён дзёрзкі і фанабэрысты, няраздка ж — просты і дабрадушны. Жадаючы адгарадзіць сябе ад надакучлівай увагі людзей, ён часцяком іранізуе з іх, але гумар ягоны не злосны. Мастаку і творцу па прызнанні ўсё роўна, дзе і як жыць: у сталіцы альбо ў правінцыйнай глухамані, у арэоле славы або ў цішы невядомасці.***

***Такім я бачу Аляксандра Патапейку, выкладчыка Лідскага музычнага вучылішча. За ім я назіраў здалёк, баючыся патрывожыць яго мудрае адасабленне, — і кожны раз пераконваўся, што гэта значная, самабытная асоба.***

### СУСТРЭЧА ПЕРШАЯ

У пачатку 90-х гадоў мы, гродзенцы, прыехалі ў Ліду на конкурс аркестравых калектываў музычных школ і вучылішчаў вобласці. Мяне здзівіла, што ў райцэнтры, якім быў і дагэтуль застаецца гэты горад, столькі першакласных аркестраў: цымбальны, духавы, струнны, джазавы... А як яны гралі! Нічога падобнага мне не даводзілася чуць у нашых краях. Асабліва ўразіў аркестр народных інструментаў Лідскага музвучылішча пад кіраўніцтвам Аляксандра Патапейкі. Яго выкананне вызначалася гнуткім, мяккім гучаннем, бліскучай віртуознай ігрой, раптоўнымі кантрастамі дынамічных адценняў, выразнай, выверанай да найдробных дэталяў, формай, уменнем глыбока пранікнуць у задуму кампазітара. Словам, у мяне надоўга захавалася ўражанне ад канцэрта гадаванцаў Аляксандра Патапейкі. Тады падумалася, што поспех не выпадковы, што ён падрыхтаваны гадамі ўпартай працы.

Гэтак і атрымалася.

Патапейка ўзначаліў аркестр у 1984 годзе. Чатыры разы запар калектыў станавіўся лаўрэатам рэспубліканскага агляду-конкурсу аркестравых і харавых калектываў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Быў ганараваны лаўрэацкімі званнямі на рэспубліканскім конкурсе "Студэнцкая вясна-98", рэспубліканскім фестывалі народнага мастацтва "Беларусь — мая песня", на некалькіх абласных фестывалях "Свята народнай музыкі". І, нарэшце, атрымаў ганаровае званне народнага!

Аркестр неаднаразова выязджаў з канцэртамі ў Вільню, Гродна, Мінск, запісаў праграму на Беларускім тэлебачанні. З маладымі артыстамі выступалі лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў — цымбалісткі Наталля Кавалеўская і Вераніка Дабрыніна, вядучыя салісты Нацыянальнага тэатра оперы Наталля Руднева і Алег Мельнікаў.

### СУСТРЭЧА ДРУГАЯ

Гадоў дзесяць таму на конкурс народных інструментаў імя Жыновіча, які праходзіў у Пінску, я прывёз даравітага вясковага хлопчыка з Індурскай музычнай школы (дарэчы, сёлета ён, мой былы выхаванец, заканчвае Беларускую акадэмію музыкі па класе баяна).

Колькі хвалявання было і ў мяне, і ў 12-гадовага Валеры Жвяржэвіча! Мы насцярожана глядзелі на масцітае журы. Мяне крыху здзівіла, што ў яго складзе быў Аляксандр Патапейка. Чаму менавіта ён, лідчук, а не гродзенец?

Тады я проста не ведаў гэтага незвычайнага чалавека. Цяпер, параўноўваючы яго дасягненні ў педагогіцы са сваімі, пераконваюся, што спіс ягоных вучняў, якія паступілі ў Акадэмію музыкі, большы, чым мой.

Аляксандр Патапейка працуе ў Лідскім музычным вучылішчы з дня яго заснавання, г. зн. з 1973 года. Ён выпусціў са свайго класа больш за 50 баяністаў, з іх 30 паступілі ў музычныя ВНУ Мінска, Пецярбурга, Масквы і нават Гановера (Германія). Некаторыя — ужо лаўрэаты абласных конкурсаў "Новыя імёны" (Надзея Ткач, Дзмітрый Жураўскі), нацыянальнага конкурсу імя Жыновіча (Іосіф Гойдзь). Нельга не прыгадаць лаўрэата міжнароднага конкурсу ў Кастэльфедарда (Італія) Таццяну Саўрас і лаўрэата міжнародных конкурсаў у Германіі, Італіі, Іспаніі, Англіі Уладзіміра Нехвядовіча.

Ды і сам Патапейка — лаўрэат рэспубліканскага агляду-конкурсу метадычных і творчых работ сярод выкладчыкаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Ім інструментавана каля 200 твораў і песень. Асобныя пераладжэнні ўвайшлі ў рэпертуар прафесійных аркестраў.

### СУСТРЭЧА ТРЭЦЯЯ

Зусім нядаўна я выправіўся ў Ліду як адміністратар філармоніі, каб арганізаваць там выступленне ансамбля "Белыя Росы".



Т. Васюк, "Вербніца", 2002г.



Т. Васюк, "Стажок", 2001г.

Прыйшоў на абутковую фабрыку, маючы намер запрасіць на канцэрт у якасці гледачоў артыстаў народнага ансамбля песні і танца "Чаравічкі". Яны расказалі мне пра свайго цудоўнага кіраўніка аркестра, добрага і бескарыслівага чалавека. Ці трэба здзіўляцца, што гаворка ішла ўсё пра таго ж Аляксандра Мацвеевіча Патапейку!

З 1965 года ён працуе ў мастацкай самадзейнасці, дапамагае тым людзям, што імкнуцца да мастацтва воляю сэрца. Розныя калектывы, над якімі шэфстваваў Патапейка, тройчы ўдастойваліся звання лаўрэатаў Усесаюзнага агляду самадзейнай мастацкай творчасці. Сам ён узнагароджаны медалём лаўрэата ВДНГ (Масква).

Доўгія гады Аляксандр Мацвеевіч аказвае метадычную дапамогу дзіцячым музычным школам і самадзейным аркестравым калектывам Гродзеншчыны. У Лідскім раёне наўрад ці адшукаецца куток, дзе не ведалі б гэтага музыканта-падзвіжніка, усюды яму радыя. Не дзіва: гэта ж сумленны чалавек, незаменны спецыяліст. І унікальная творчая індывідуальнасць з такой, здаецца, звычайнай біяграфіяй. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Асіповічах, закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе баяна ў Г. Мандруса і па класе дырыжыравання ў І. Абраміса і В. Катаева. Працаваў салістам камерна-інструментальнага ансамбля Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам Леаніда Смялкоўскага. Пазней асталяваўся ў Лідзе...

Шматгранны музыкант: выканаўца, дырыжор, аранжыроўшчык, педагог, аўтар метадычных распрацовак, кіраўнік самадзейных калектываў, — А. Патапейка аддае свой шчодры талент прафесійнаму навучанню падрастаючага пакалення, выхаванню эстэтычных навыкаў у аматараў народнага мастацтва і ўсіх простых людзей.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ**

**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

ЮБІЛЕІ

# Дабравесце ад "Вестуноў"

Нядаўна самадзейны тэатр "Вестуны" Столінскага раённага Дома культуры адзначыў свой юбілей — 40 гадоў творчай дзейнасці. Гэта значны ўзрост не толькі па раённых маштабах.

Калектыў быў створаны ў 1962 г. 29 гадоў ім кіруе таленавіты рэжысёр Валянцін Іўковіч.

...Валянцін Аляксандравіч нарадзіўся ў гады вайны ў Казахстане, куды была эвакуіравана сям'я хлопчыка. Пасля вайны Іўковічы вярнуліся на родную Гомельшчыну.

Для дзяцей, якія нарадзіліся ў ваенны час, заўжды будуць прыкладам іх дзяды, бацькі, браты і сёстры, што прайшлі праз цяжкія выпрабаванні, але захавалі дабрыню і любоў да жыцця, да людзей і асабліва да мастацтва. Такім прыкладам для хлопчыка былі бацькі. Яны самі з'яўляліся актыўнымі арганізатарамі і ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці і сыну перадалі сваё захапленне. З дзяцінства хлопчык займаўся ў розных гуртках мастацкай самадзейнасці: спяваў, выконваў ролі ў школьным тэатры, чытаў вершы і г.д. На ўсё жыццё Валянціну запомніўся першы спектакль "Казка аб праўдзе", у якім ён выканаў эпізадычную ролю. Юнак закахаўся ў тэатральнае мастацтва, марыў стаць рэжысёрам.

З цягам часу Валянцін Іўковіч стаў працаваць кіраўніком драматычнага гуртка ў Давыд-Гарадку на Століншчыне і завочна вучыцца на тэатральным факультэце Усесаюзнага Дома творчасці.

У той час кожнае лета ў Давыд-Гарадку гастраляваў Брэсцкі драматычны тэатр. Акрамя спектакляў рэжысёры і акцёры праводзілі семінарскія заняткі па тэатральнаму мастацтву з кіраўнікамі драматычных гурткоў. На творчыя здольнасці і прафесійнае майстэрства Іўковіча звярнуў увагу народны арыст РБ Аляксей Самараў, з яго дапамогай малады чалавек пачаў інсцэніраваць апавяданні А. Чэхава, ставіць аднаактовыя п'есы. Часта В. Іўковіч ездзіў у Маскву, у госці да шматлікіх сваякоў. Усе яны былі заўзятыя тэатралы. Хадзілі ў драматычныя, музычныя і оперныя тэатры, мелі стасункі з рэжысёрамі і акцёрамі. Вядомая кінаактрыса Людміла Марчанка, якая прыходзілася Валянціну Іўковічу стрыечнай сястрой, была яго гідам па "культурніцкіх" мясцінах Масквы. Дзякуючы ёй Валянцін меў магчымасць прысутнічаць на акдрыцці першага Міжнароднага кінафестываля з удзелам Сафі Ларэн, Марчэла Мастраяні, Раджа Капура.

Да сябе на Палессе рэжысёр вяртаўся акрыленым. Пад вялікім уплывам ад усяго пабачанага ў Маскве ставіў спектаклі. "Іркуцкая гісторыя" А. Арбузава, "Кухарка" А. Сафронава мелі вялікі поспех у жыхароў Давыд-Гарадка, Століна і Столінскага раёна.

У 1961 г. Іўковіч пазнаёміўся з канцэртнай брыгадай Столінскага РДК, яго першымі выканаўцамі-музыкантамі: М. Мельнікам і Р. Кахно, салісткай А. Аўсянік, выканаўцай танцаў Р. Дзенішчэц. Праз год Валянцін пераехаў жыць у Столін. Пачаў актыўна ўдзельнічаць у стварэнні агітбрыгады РДК. Да выступлення ў першым абласным аглядзе самадзейнай творчасці ўсе ўдзельнікі агітбрыгады рыхтаваліся разам: пісалі маналогі, вершы, прыпеўкі, сюжэты да сцэнак. З першым агітпрадстаўленнем калектыў і стаў пераможцам агляду.

Назва "Вестуны" нарадзілася ад слова "вестка". На эмблеме калектыву на фоне ўзыходзячага сонца намаляваны певень — вястун новага дня. У 1974 г. за высокае выканаўчае майстэрства "Вестунам" было прысвоена ганаровае званне "народны".

Валянцін Іўковіч пісаў сцэнарыі, ажыццяўляў пастаноўкі агіт-прадстаўленняў, займаўся канферансам, спяваў куплеты, выконваў ролі ў сцэнках, але ўвесь час яго цягнула да пастаноўкі спектакляў. У 1976 г. ён паступіў у Мінскі інстытут культуры. Разам з сынам займаліся ў цудоўнага настаўніка, таленавітага рэжысёра Г. Баравіка (сын — Яўген Іўковіч пасля заканчэння інстытута па сённяшні час працуе ў Мінскім абласным драмтэатры акцёрам).

У апошнія гады агітбрыгады зніклі. Многія з іхператварыліся ў эстрадныя тэатры мініяцюр, сатырычныя тэатры і групы КВЗ. "Вестуны" таксама зрабіліся тэатрам эстрадных мініяцюр. Сёння яны ўдзельнічаюць ва ўсіх значных мерапрыемствах горада і раёна з праграмамі "Сатырычнае кола", "Па марах, па хвалях", "Пад знакам Задыяка". Але час ад часу Валянцін Аляксандравіч ставіць з калектывам драматычныя спектаклі (вадэвілі) па п'есах беларускіх драматургаў: Аляхновіча "Пільнуй сваю хату", Бялецкага "Маладыя людзі" і іншыя.

У жніўні 2001 г. у тэатры адбылася прэм'ера палескай казкі "Буслік супраць кадука" паводле казкі беларускага пісьменніка-драматурга і земляка Георгія Марчука. Спектакль паставіў сын Валянціна Аляксандравіча — Яўген Іўковіч.

За 40 гадоў у калектыве былі розныя людзі, у асноўным творчыя, закаханыя ў сцэну, апантаныя тэатрам. Калектыў народнага тэатра "Вестуны" жыве, як вялікае дрэва, у якога ёсць корань — гэта рэжысёр, і крона — яго ўдзельнікі, якія толькі радуюць сваёй творчасцю. Як рэжысёр, В. Іўковіч валодае выдатнымі здольнасцямі мастацкай апрацоўкі матэрыялу. Да ўдзельнікаў калектыву падыходзіць чула і патрабавальна, многа ўвагі надае заняткам па мастацтву акцёра, сцэнічнай мове, пластыцы, музыцы. Іўковіч радуеца кожнай праяве таленту.

За час працы Валянцін Іўковіч атрымаў шмат узнагарод. 40 гадоў — гэта этап творчай біяграфіі як калектыву, так і самога кіраўніка, у якім той пачынаў удзельнікам, а потым стаў рэжысёрам — кіраўніком.

Многа ёсць праблем у В. Іўковіча і як у рэжысёра народнага калектыву, і як у дырэктара раённага метадычнага цэнтра. Гэта слабая матэрыяльная база ўстаноў культуры раёна, недахоп сродкаў для набыцця музычных інструментаў, тэатральнага асвятлення і шмат іншых. Але ён заўжды знаходзіцца ў пошуку новых тэм, новых накірункаў у развіцці самадзейнага мастацтва. І няма такіх перашкод, якія маглі б задушыць у гэтым чалавеку жаданне творчага самавыяўлення.

**Вольга ЗІНОВІЧ,**

**вядучы метадыст па тэатральнаму мастацтву АГКЦ**

ВЫСТАВЫ

# Белыя кудзеры Марлен

У Музеі сучаснага мастацтва адбылося адкрыццё выставы "Марлен Дзітрых — легенда ў фотаздымках", якую прадаставіў музею Інстытут Гётэ ў Мінску. У рамках выставы, што інсталявана ў кінатэатры "Перамога", дэманстраваліся фільмы з удзелам М. Дзітрых, сярод якіх быў паказаны і фільм "Блакітны анёл" (1930). Стужка гэтая прынесла Марлен сусветную вядомасць і нарадзіла "міф Дзітрых" — вобраз фатальнай жанчыны без комплексаў, увасабленне граху і страсці.

Марлен Дзітрых стала легендай яшчэ пры жыцці. Яна была жанчынай, якая хвалявала мужчынскія фантазіі. Яна сама была творам мастацтва, багіняй кіно, сцэны і эратычнай вытанчанасці. Марлен Дзітрых стала часткай палітычнай і культурнай гісторыі Германіі.

Знакамітая актрыса пражыла 91 год, з іх больш за паўсотні была грамадзянкаю ЗША. Марлен Дзітрых нарадзілася ў Берліне, але ў 1930 г. пераехала ў Амерыку, у 1975 г. — у Парыж, дзе і памерла ў 1992 г. Пасля смерці Марлен зноў "вяртаецца" на радзіму. Яна не толькі пахавана ў Берліне, яе спадчыну дачка передае зямлі Берлін і Фонду нямецкай кінематаграфіі.

Марлен Дзітрых за жыццё сабрала 15000 сваіх фотаздымкаў. Амаль усе яны ў выдатным стане і зроблены былі пад яе наглядам. Марлен сама дыктавала фатографу, якім павінна было быць асвятленне (абавязкова зверху), сама выдумляла свае знакамітыя позы, выразы твару, прыплюшчаныя вочы, таямнічыя пагляды. Вядомы амерыканскі фатограф Джордж Харэл, які ў сярэдзіне 1930-х здымаў амерыканскіх "зорак" кіно і зрабіў большасць лепшых здымкаў Марлен Дзітрых, згадваў, што актрыса заўжды патрабавала люстэрка ў поўны рост, каб кантраляваць сябе ў ім.

Такі вялікі збор фотаздымкаў адной "зоркі" не мае аналагаў у свеце. Але гэта — не выбрыкі эгацэнтрычнай асобы, а творчы архіў, якасная дакументацыя, цікавы жыццяпіс. Пра гэта сведчыць нават тая невялікая частка фотаархіва, якая склала выставу "Марлен Дзітрых" — легенда ў фотаздымках". Можна заўважыць, як з тыповай паўнаватай нямецкай дзяўчыны фарміравалася прыгажуня-актрыса, як гэта актрыса сама мадэлявала сябе як сімвал таямнічасці, жаночай сексуальнасці і прыгажосці. Нездарма менавіта Марлен Дзітрых належаць крылатыя словы: мастацтву нельга навучыць, мастацтву можна толькі навучыцца.

Выстава ў Музеі сучаснага мастацтва працягнецца да 21 жніўня.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**



*На здымку: на выставе "Марлен Дзітрых — легенда ў фотаздымках".*
*Фота К. ДРОБАВА*

## Сустрэча з юбілярам

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася літаратурная сустрэча, прымеркаваная да 80-годдзя Івана Кудраўцава. Павіншаваць юбіляра прыйшлі родныя, сябры, пісьменнікі, навукоўцы, музейныя работнікі.**

**Адкрыў вечарыну Іван Курбека. Ён пазнаёміў прысутных з асноўнымі этапамі жыцця і творчасці юбіляра.**

**Пра яго прафесійныя вартасці распавёў калега, літаратуразнаўца Міхась Кенька. Іван Кудраўцаў вядомы як першы даследчык творчасці Кузьмы Чорнага. Яго шматлікія крытычныя артыкулы вылучаюцца сваёй дасканаласцю, глыбінёй, змястоўнасцю.**



**Маргарыта Яфімава , дацэнт БДУ, пажадала яму творчага натхнення, новых кніг, даследаванняў, так патрэбных у выкладчыцкай рабоце.**

**Пра юнацкія гады Івана Фёдаравіча гаварыла яго былая аднакурсніца, заслужаны работнік вышэйшай школы Вольга Казлова. У сваім выступленні яна прыгадала і малую радзіму юбіляра — Старобіншчыну, якая зрабіла вялікі ўплыў на станаўленне будучага літаратара. Яна выказала спадзяванне, што наступнай яго кнігай будзе кніга пра любімую Старобіншчыну.**

**Іван Кудраўцаў — даўні сябар музея Якуба Коласа. Цяжка прыгадаць мерапрыемства, у якім ён не прымаў актыўны ўдзел. Ад імя супрацоўнікаў музея з прывітальным словам выступіла намеснік дырэктара Галіна Зайцава.**

**Юбіляру прыемна было прыняць шчырае віншаванне ад малодшага сына песняра, доктара тэхнічных навук Міхася Міцкевіча.**

**Сябар сям'і Кудраўцавых Людміла Васілеўская гаварыла пра Івана Фёдаравіча як пра надзвычай добрага чалавека, гасціннага гаспадара, чулага і клапатлівага бацьку і дзеда.**

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

**На здымку: Міхась МІЦКЕВІЧ, Іван КУДРАЎЦАЎ і Іван КУРБЕКА.**

**Фота Алеся ФЕДАРЭНЧЫКА**

## Мікалай Чэпік: літаратурны вобраз сучасніка

**Лета не стала перашкодай для пашырэння асветніцкай, краязнаўчай работы на Пухаўшчыне. Як сведчанне — сустрэча ў Блужскай сярэдняй школе грамадскасці раёна, журналістаў розных выданняў з кіраўнікамі дабрачыннага фонду дапамогі воінам-інтэрнацыяналістам "Памяць Афгана" Аляксандрам Мятла (прэзідэнт фонду) і Сяргеем Князем (віцэ-прэзідэнт арганізацыі). Варта нагадаць: сярод колішніх вучняў Блужскай СШ — Герой Савецкага Саюза воін-інтэрнацыяналіст Мікалай Чэпік.**

**У свой час да літаратурнага ўшанавання вобраза малодага сучасніка спрычыніліся маскоўскі пібліцыст Генадзь Бачароў, беларускія паэты Яўген Хвалей, Алесь Пісарык, краязнаўцы Анатоль Ярохін і Браніслаў Зубкоўскі. А сёння... Музей Мікалая Чэпіка, які зараз стаў, між іншым, філіялам Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея, патрабуе новага, больш сучаснага насычэння. Пра гэта на сустрэчы ў Блужы гаварылі і кіраўнікі фонду "Памяць Афгана", і дырэктар раённага музея Аляксандр Прановіч, і пісьменнік Барыс Налівайка.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

## ПАЭЗІЯ

Анатоль МАЙСЕЕНКА



●

*І Сонца тут — на ўсіх адно,*
*І снег — адзін на ўсіх.*
*І вецер просіцца ў акно —*
*Адзін на ўсіх жывых.*

*Хто б дзе ні жыў: сярод палёў*
*Або ля горых скал, —*
*І ў халуёў,*
*І ў каралёў —*
*Аднолькавы фінал.*

*Адзін сышоў, прыйшоў другі...*
*Які б ні бліснуў дзень, —*
*Як і раней — жыцця кругі,*
*А толькі розны цень.*

### На Маскоўскай вуліцы

*Зноў цыганка прыставала,*
*Так хацела расказаць:*
*Колькі жыць мне — многа, мала? —*
*Не хачу пра тое знаць.*

*Ведаю сваю трывогу,*
*Век жыву пад крумкачом.*
*Знаў далёкую дарогу*
*І глухі казённы дом.*

*Не адна была вандроўка*
*Па зямлі і на вадзе.*
*А жыццё, нібы шыфроўка,*
*Шыфравальшчык толькі дзе?*

*Мне гадаць няма рэзону,*
*Покуль мой жаўрук звініць.*
*Мне б яшчэ глыток азону.*
*Каб унучку падрасціць.*

*На, цыганка, вось дзесятку,*
*Больш язык свой не тупі.*
*А мурзатаму дзіцятку*
*Хоць паўяблычка купі.*

*...Міма зззяюць лімузіны,*
*А насустрач зноў пацёк —*
*Курткі, клункі, віскат псіны —*
*Мурашыны ручаёк.*

●

*Шануй чалавека,*
*А злыдня не трэба.*
*Расце небяспека*
*З зямлі і пад неба.*

*Планета старая*
*Нагадвае плаху.*
*Паўсюль нарастае*
*Канвульсія страху.*

*На небе святыя.*
*Няма іх між бруду,*
*Былі б тут такія*
*Падобны да цуду.*

*Душу не ачысціў*
*Ад брудных заглушак, —*
*Ты — дрэва без лісцяў,*
*Ты — пушча без птушак.*

*Ні шчасця палёту,*
*Ні жаху падзення,*
*Дабра ні на ёту,*
*Адно азлабленне.*

*Хоць злу быў дарадцам,*
*Жаданне акрэпла:*
*У рай — пастаяльцам,*
*Турыстам — у пекла.*

*Жыццё хуткацечна,*
*Падведзена рыска:*
*У пекла — навечна,*
*А ў рай — ані блізка.*

●

*Туды з калыскі накірунак,*
*Дзе ў нас не будзе болей спраў.*
*З маленства праўды я чакаў,*
*А мне мана была ў дарунак.*

*Гады схаваліся ў маршчынах,*
*Няўгрэўным цёплы промень стаў.*
*Дзе я радзіўся, падрастаў,*
*Там вёска курчыцца ў руінах.*

*Як не зрасціць ізноў з каленам*
*Ампутаваную нагу, —*
*Назад вярнуцца не магу.*
*Хоць і не здрадзіў родным генам.*

*Дажыў да рангу ветэрана,*
*Што ж, рызыкну: або — або?..*
*Нам пра сучаснае — слабо,*
*Клянём памерлага тырана.*

*Плячом да зор не дакранешся,*
*Бо пад нагой зямля дрыжыць...*
*Ці так хацеў жыццё пражыць? —*
*Пры адыходзе схамянешся.*

### Арытмія

*Растуць дубы, як і заўжды, —*
*І клён, і грыб паганы.*
*З зямлі знікаюць гарады,*
*Бушуюць ураганы.*

*Няма сумнення: быць, не быць?*
*Няхай кусае подласць,*
*Няхай паклёп спяшыць дабіць, —*
*Ты знаеш першароднасць!*

*Вясною і ў гарачыню*
*Цябе трасе дрыготка:*
*У сэрца біў не ўпершыню*
*Твой шэф — прамой наводкай.*

*Любы начальнікаў наказ*
*Спаўняў ты — (mamma mia!)*
*А ён душыў цябе ў адказ,*
*І ў сэрцы — арытмія.*

*Каб дым ілюзій не патух,*
*Табе дасць костку ў крупнік.*
*Як з шэрага ваўка пастух, —*
*Такі ён твой заступнік.*

*Мы днём кладземся на начлег —*
*Так хуліганіць вірус,*
*Бо на дварэ то дождж, то снег,*
*То плюс, то толькі мінус.*

*Вунь там гарыць, пыліць сухмень,*
*А тут бурліць паводка.*
*Ёсць прыгажуня, як агмень,*
*Але ж — свая малодка...*

*Красуня клікала ў лугі.*
*А ты, не меўшы клёку,*
*Таленавіта быў глухі*
*Да ўсіх яе намёкаў.*

*Хачу прыстойнага быцця,*
*Ды беды заштарміл і.*
*Ці дачакаюся жыцця*
*Без клятай арытміі?*



# ЗАКАЦІ, ЗАКАЦІ...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.9)*

—Паехалі.

Праводзіў іх сын бабулі – трымаючы сябрука за гузік танненькай брызентавай курткі, у якой той гойсаў па замежжы, па сваіх справах, па сходах і з'ездах, пільна глядзячы сябруку ў вочы, чырванатвары мацак пасвойску выгаворваў, каб той кідаў сваё матлянне ды пры жэньваўся на жанчыне талковай, сябе ў прыклад стаўі...

Сябрук адводзіў вочы, згодна ківаў галавою – як і звычайна, калі задумваў штосьці сваё, нявыказанае...

На ноч усхадзіўся дождж. Даваліся ўключаць фары і дворнікі – яны шасталі па шкле, размазваючы дарожны бруд. Седзячы ў машыне, сябрук нечакана ўсміхнуўся і сказаў:

—Яна ў маладосці спяваць любіла. І яшчэ, калі чаго не ведала, гаварыла: аго-онь яго ведае...

І тут тое нявырашанае і пакутлівае, што дагэтуль трывожыла Лашкевіча, нечакана пераплавілася ў далёкі-далёкі чысты ранак — калі ва ўсе вочы глядзеў на агромністы малінавы дыск, што з-за лесу паказваўся. І як падымаўся ўгору той дыск, змяншаўся, белым жарам напітваючыся, чаканым цяплом усяго яго саграючы, зганяючы халодную расу з травы зялёнай...

І яшчэ ўспомніў, чым быў на рабоце заняты, што навукаю спасцігнуць хацеў – тое вогненнае свяцілa паспрабаваў уявіць, і як яно, то сціскаючыся, то разбухаючы, пыхкае знутры, выплёскваючы тысячавёрстныя вогненныя языкі, і іншыя свяцілы паспрабаваў ён уявіць, то большыя, то меншыя, і як яны, паяднаныя сілаю нябачнай, кружацца адно ля аднаго, сплятаючыся то ў спіралі, то ў шары...

І сціхана-разгублена сказаў ён:

— А мо і праўду бабуля казала. Бо што мы ўрэшце – піск камарыны...

А сябрук тут жа напыжыўся, хмель у яго як рукою зняло, скасавурыўся:

—Дык ты – атэіст, ці, можа, як цяпер кажуць, праваслаўны атэіст?

Яны не аднойчы пра гэта спрачаліся – так спрачаюцца блізкія сямейныя людзі : з падрабязнасцямі сваёй праўды, спасылаючыся на кнігі, на памяць, на гісторыю, на горкую рэальнасць, у якой жывое жывым харчуецца і тут жа знікае бясследна.

Але на гэты раз Лашкевіч змаўчаў – усе думаў пра словы бабулі , якая некалі была маладой, прыгожай і часта, як і многія вясковыя жанчыны ў тыя даўнія часы, спяваць любіла. Як некалі любіла спяваць яго маці вячэрняй парою – галасна, расцягваючы словы, не то молячыся, не то просячы ў сіняга неба, што купалам ахінала вёску:

***—Закаці, закаці,***
***Ты за лес, за гару.***
***Закаці, закаці...***

Як за ракою на чужым далёкім беразе, асвечанае белым святлом, мільганула перад Лашкевічам штосьці чыстае, зразумелае і яснае, што, здавалася, струменіла ад працяжных, напеўных слоў:

***—Закаці, закаці...***
***Ды яснае сонейка...***

Нечакана дрыжыкі працялі Лашкевіча – аж скаланула . Ён мацней узяўся за руль.

Дарога амаль не праглядалася, святло фар прабівалася на пару дзесяткаў метраў і тут жа размывалася ў цемры. І толькі па агнях стрэчных машын можна было здагадацца, дзе канчаецца асфальт і пачынаецца абочына – вязкая гэтай парою, трапіўшы на якую машыну тут жа крутане і панясе так, што і апамятацца не паспееш, як скалечышся, ці – нявінных людзей пакалечыш.

# Лонданскі сшытак

ПАДАРОЖНАЯ ПРОЗА

Адам ГЛОБУС

## ФЬЮ-Ю-ЮЦЬ

Калі пішаш падарожныя занатоўкі, вельмі хутка мяняюцца ўражанні і думкі. Фью-ю-юць — і няма. І не ўспомніш, і не згадаеш, а напружваешся. Вось жа была-была, калі стаяў у метро, чакаючы цягніка, і ў таксоўцы зноў вярнулася, а не занатаваў, нязручна было... Ёсць! Пра бадзягаў... Углядаюся ў твары лонданскіх жабракоў, каб убачыць свайго, сваіх, тых хто з'ехаў у пошуках *лепшае долі і апусціўся-праваліўся*. Шмат іх, усе на адзін барадата-кудлата-сіняносы твар. Яны пабойваюцца занадта цікаўнага пагляду і ўцякаюць, знікаюць у натоўпе, як мае думкі. Нашто было вяртаць? Фью-ю-юць... Хай нікнуць і расплываюцца ў вялікім нішто.

## АНГЛАМАНІЯ

Можна так дагуляцца па Лондане, што не заўважыш, як захварэў на англаманію. Калі што не ангельскае трапіцца на вочы, то ўжо яно не нармальнае, кепскае, чужое. Як ангельцы перамагаюць у сабе патрыятызм, расізм і нацыяналізм — не ведаю. Можа, *астатнія паціху-патроху робяцца* англаманамі, як я на трэці дзень пасля прыезду. Брытанцы глядзяць на такіх, пасміхаюцца і ганарацца, што ведаюць больш ангельскіх слоў.

## ПАРК

Парк для мяне быў заўсёды лепшы за лес, асабліва калі гэта Грынг парк, дзе вялікія платаны стаяць велічнымі алеямі, а пасярод ідэальных газонаў напрыканцы лютага красуюць пяшчотна-жоўтыя і сціпла-зеленкаватыя нарцысы. Над паркам у бясконцым блакіце ляцяць і ляцяць бела-белыя аблачынкі.

## ГОРБ

Гарбатая жанчынка ў лімонна-флуарысцэнтным шаломе каціла праз станцыю Вікторыя дзіцячы ровар. За гарбом вісеў заплечнік. Выйшаўшы з вакзала, яна гарэзліва ўскочыла на сядло і паімчалася ў бок Бекінгемскага палаца. На выхадзе са станцыі ўзвышаліся два велічэзныя кані з паліцыянткамі. Жанчыны-ахоўніцы былі ў зялёна-флуарысцэнтных плашчах. Поруч з імі гарбуха *выглядала ліліпуткаю. Выродства карліцы* ўразіла і закранула. Яна ніколі не будзе звычайным чалавекам, так і пройдзе праз жыццё з гарбом. Ці змагу я стаць іншым, чым ёсць? Не.

## УЗРОСТ

Шмат ангельцаў працуе да глыбокай старасці. Глядзіш на швейцара ў зялёным цыліндры — яму пад 80, і галава трасецца, а ён ганарыста стаіць каля галерэі дарагіх крамаў. Побач дзед, гадоў 90, прадае жывыя кветкі на расаду для клумбы. Канешне, яны зусім нядаўна святкавалі стогоддзе Каралевы Маці. Як не запаважаць такое нязломнае жаданне жыць, такую дысцыпліну і *самапавагу. Большасць старых працуюць* не за грошы, а дзеля смаку жыцця, гэта не радуе вока, а цешыць розум.

## ХОЛАД

Тры градусы цяпла, а яшчэ вецер з дажджом і снегам. Не так, каб надвор'е шаптала мне пяшчотныя і ветлівыя словы. На мне і палітон, і пальчаткі, і шалік, і кепка кашыміравая. Іду сабе, важны, па Олд Бон-стрыт, паперадзе цокае абцасамі галапятая англічанка. Яна ў футры, а басаножкі на голых нагах. Іх тут шмат з голымі нагамі ў снежным Лондане. Закалка іншая. Ведаюць модніцы, што саракаградусны мароз не прыходзіць на іх выспу.

## ЧАС

Брытанія — часаўтваральная дзяржава. Час, яго адчуванне разлілося ў ангельскім паветры. Кожны ангелец чакае ўдару гадзінніка на Біг-Бэне, бо ў яго замест сэрца б'ецца гадзіннікавы механізм. Да адкрыцця сваёй крамы ён рыхтуецца з такім жа ж імпэтам, як і да пачатку службы ў царкве. Бог часу спыніўся ў Лондане.

## ТВАРЫ

Свет пастаўляе ў Лондан найлепшыя твары. Хто з нас не хацеў, каб дзеці вучыліся ў брытанскіх школах. Але толькі заможны, у нечым не найгоршы чалавек, можа сабе дазволіць вучобу нашчадкаў у Лондане. Менавіта тут і відаць, які шматаблічны свет, якая розная ў людзей прыгажосць і выразнасць. Ніколі не сальецца яна ў адзін найпрыгажэйшы твар. Захад — ёсць Захад. Усход — ёсць Усход. Яны сыходзяцца і разыходзяца ў Лондане.

## ВАКЗАЛ

На паспакайнелым вечаровым вакзале замаўляю ў бары эспрэса па-італійску, сядаю за столік на высокі табурэт, прыпальваю цыгарэту і сам у сябе пытаю: "Ты прыехаў у Лондан, каб сядзець на вакзале, піць каву, курыць тытунь і глядзець на мінакоў?" Адказваю: "Так, я быў створаны для таго, каб прыехаць у Лондан, прыйсці на вакзал, замовіць моцную горкую каву, зацягнуцца салодкім дымам і назіраць за пасажырамі, што едуць з нішто ў нікуды.

## КАЦЯЛОК

Прымераў кацялок. Пасуе. Пашкадаваў: нельга хадзіць па горадзе ў кацялку. Каб жа толькі ў кацялку?! Нельга хадзіць у цыліндры, бо ў іх праходжваюцца швейцары каля гатэляў ды выступаюць фокуснікі ў цырку. Нельга хадзіць у фуражцы, бо яна стала амуніцыяй сексменшасцяў, а я — большасць. Нельга — у кацялку, бо не танцую канкан і стрыптыз. А мне так пасуе чорны кацялок.

## ДЗІВАК

Дзіўных мужчын у Лондане хапае. Да прыкладу, лысы барадач. Заплёў сваю бараду ў касічку, а касічку ўпрыгожыў стужкаю з бантам. Сюрэалістычнае мастацтва ў выкананні аднаго аўтацырульніка.

## ГАРБАТА

Крамы з гарбатай у Лондане на кожным кроку. Ангельцы любяць і ўмеюць піць гарбату. Тое, што ёсць выраз "ангельская гарбата", цалкам справядліва, хоць яна ў Англіі не расце. Але менавіта ангельцы нейкія там лісточкі ператварылі ў напой водарны і тонкі, які каланізаваў свет.

## ВЫВЕРНУТАСЦЬ

Што ні казалі пра англасаксонскую дэмакратыю і плюралізм, а ёсць выразны ангельскі снабізм. Хай ён схаваны за вясёлымі настроямі, за гучным гумарам, за знешняй праставатасцю, але ён ёсць і будзе. Як ёсць ангельская дакладнасць, выверанасць, праверанасць і перапраўверанасць, педантычнасць і якаснасць. Менавіта яны гарантуюць устойлівасць ангельскай вывернутасці, левабаковасці ў руху і шмат іншых дзівацтваў, такіх, як міля і фунт.



## ПАРАДАК

Кансерватыўнасць напісана на штандарах *Брытаніі. Гэта не коснасць і не затхласць, а* парадак, які здатны быць авангардам, экстрэмальным мастацтвам і заканадаўствам у стыльнай модзе.

## ПРАСУНУТАСЦЬ

Падабаецца мне ангельская прасунутасць, як падабаюцца чырвоныя тэлефонныя будкі і двухпавярховыя аўтобусы. У Лондане добра відаць, наколькі ангельцы апярэджваюць французаў і расейцаў. У Расеі толькі адмянілі прыгоннае права (чытай — "рабства"), а яны ў 1861 годзе пусцілі метро. Што ўжо пра нас, беларусаў, казаць.

## ВЕЖЫ

Англасаксы зразумелі, што Вавілонскую вежу трэба будаваць ушыркі, а не ўгору. Яны ўзвялі сталіцу свету — Лондан. Атрымаўся надзіва ўстойлівы праект, у адрозненне ад Нью-Ёрка, які зрабіў вертыкальны выклік Богу і быў пакараны камікадзе. Шкло і жалезабетон слабейшыя, за чырвоную ангельскую цэглу.

## ВЁСКА

Які чысты і спакойны Лондан раніцаю, нават на сябе не падобны. Вёска вёскаю. Калі кажуць, што з прыходам Інтэрнэту свет ператварыўся ў глабальную вёску, дык гэта пра Лондан.

## ЖЫВАПІС

Карціна, *калі трапляе ў Лондан*, набывае падвоеную матэрыяльнасць, мэблевасць, ці што. Жывапіс у Брытаніі выглядае дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам.

## CASH

У прыбіральні, на скрынцы з папераю, жартаўнік-графітыст накрэсліў Cash. Наяўныя грошы збольшага папяровыя, а найлепшая папера калі не ў кнізе, дык у прібіральні. Цешыць мяне, калі нехта разумее хуткаплыннасць быцця... Хай сабе ў прыбіральні, месца не з горшых. Не парламент, канешне, хоць і ў ім ёсць прыбіральні, але надпісаў Cash там не знойдзеш.

## ЦАРКВА

Нядзельнай раніцай у англіканскай царкве светла і бадзёра. Выдаюцца спеўнікі. Прыхаджане спяваюць гучна і весела. Шмат моладзі і дзяцей. Для зусім маленькіх ёсць дзіцячы куток з цацкамі, кніжкамі, алоўкамі. У такіх цэрквах і ляжыць выток поспехаў ангельскай біт-музыкі. Яе лёгкасць, празрыстасць, сонечнасць пачыналася ў чыстых саборах.

*24.02—03.03.2002*

# Пытанні без адказаў

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4)

Так, праца ў СБП сапраўды нялёгкая — не толькі білеты прынятым у саюз уручаць (давялося нагадваць Віктару Аляксандравічу, што гэта якраз мой абавязак, а не ягоны), але і рабіць мноства нябачнай звонку арганізатарскай працы.

І апошняе: калі гэты Міжнародны сімпозіум, на якім выступаў Генеральны дырэктар ЮНЭСКА і прыехалі пісьменнікі 19 краін, каб падтрымаць нас, сваіх калег, калі канферэнцыя "Купала і незалежнасць", якія былі праведзеныя разам з іншымі арганізацыямі ў Доме літаратара толькі за апошні месяц, не праца — то што тады праца?

Калі выкуп канфіскаваных кампутараў ( якія, дарэчы, усе былі набытыя менавіта ў час маёй працы) — не заслуга старшыні і не яе сапраўды катаржныя намаганні — то што тады намаганні?

Рыхтуецца зараз семінар маладых — аб чым, дарэчы, мы напісалі ў рубрыцы "У Саюзе беларускіх пісьменнікаў" і якую ў апошнім нумары знялі, замяніўшы чарказянаўскім сцверджаннем, што я імітую працу СБП.

Чаму я дасюль не сышла , не збегла ў тую эміграцыю, пра якую так актыўна вось ужо паўгода сігналізуе беларускай грамадскасці В. Праўдзін і якую я "сапраўдным віхорам" сваіх заяў і артыкулаў, відаць, даўно заслужыла? Нягледзячы на бесперапынныя пагрозы па тэлефоне, пастаяннае знікненне розных дакументаў, вірусы ў кампутары, якія раз за разам здымаюць высокакласныя спецыялісты, а тыя з"яўляюцца зноў, хаця няма ў нас Інтэрнета і працуюць на ім толькі літкансультант і я?

І нягледзячы на розныя, часам проста наўмысна-нахабныя правакацыі, апошняя з якіх—скліканне Рады патаемна ад старшыні. Што, няма чаго нам разам абмяркоўваць? Што, я адмаўлялася прыйсці на паседжанне? Не, я гатовая з усімі разам шукаць выйсце. Але для чаго рабіць вось так—гвалтам, ашукваючы членаў рэвізійнай камісіі, нібыта мне ўсё дакладуць, скажуць, запросяць? Для таго каб ва ўсім гэтым штучна створаным крыку, як у мутнай вадзе, схаваць сапраўднае — даць магчымасць "пакутніку" У. Мачульскаму атрымаць сваю працоўную кніжку без здачы камісіі Саюза пісьменнікаў выдавецтва Беллітфонда і "Іслачы" і пакінуць іх за сабой?

У мяне часта пытаюцца — навошта табе ўсё гэта трэба? Ад СБП і правыя, і левыя хочуць прама супрацьлеглага, раздзіраючы яго з нейкай звярынай заўзятасцю.

Хай ламае над гэтым пытаннем галаву той, хто сам бы даўно збег ад барацьбы і адказнасці, ад даручэння пісьменнікаў зберагчы і арганізацыю, і яе маёмасць.

І я зусім не ўпэўненая, што, калі б я і страціла цярпенне, сышла, чаго ад мяне так дабіваюцца — што ЯНЫ, хто так лементуе зараз, сапраўды знойдуць выйсце і захаваюць Саюз пісьменнікаў, які многія нават паважаныя пісьменнікі так рана і так раўнадушна хаваюць. Ці ёсць у нашых шчыроўцаў упэўненасць у тым, што ІМ дадуць фінансаванне? Што ЯНЫ здолеюць авалодаць сітуацыяй?

Ці гатовыя тыя, хто зноў і зноў спрабуе бурыць няўстойлівую раўнавагу і спробы ўстаць на ногі пасля накаута беларускім пісьменнікам — ці гатовыя яны пасля адказваць за сённяшняе? Якія ў іх рэцэпты выратавання?

У мяне ёсць на гэта адказ — шукаць выйсце ў "вольным плаванні", сваімі ўнёскамі ўтрымліваць маленькі аппарат СБП і плошчу, якую мы здольныя аплаціць. Крок за крокам рэарганізавацца, улічваючы патрабаванні часу. Нам трэба рабіцца моцнымі, каб умець вытрымліваць удар за ударам, нам трэба усім—усім!—гучней заяўляць пра сябе, беларускіх пісьменнікаў, а не толькі аддаваць гэтае права кіраўніцтву ці запісным аратарам, якія ўзялі на сябе фунцыі суддзяў і праведнікаў, не жадаючы браць на сябе чорную, няўдзячную працу. У палітызаваным грамадстве, на жаль, сапраўды нікуды не ўцячы ад палітыкі.

*Другі варыянт — стварыць новы саюз.* Хто за гэта возьмецца ў сённяшніх варунках? Калі такія арганізатары ёсць — давайце абмяркуем прапановы і кандыдатуру. Тады можна ісці на з'езд, не спадзеючыся, што нешта вымалюецца само сабой, у мітусні і крыках. Без пэўнага плана дзеянняў мы адно пакажам, што не можам вырашыць нават пытанняў уласнага жыцця, не тое што народнага.

На з'езд можна спакойна ісці і тады, калі ёсць пэўныя рэцэпты новай рэарганізацыі СБП (якія пакуль што ніхто не прапаноўвае).З радасцю аддам лейцы ў рукі маладым, энергічным пісьменнікам — хай прыходзяць. Думаецца, што адзін гэты год майго старшынёўства калегі — пісьменнікі залічаць мне за чатыры — як на фронце...

Яшчэ варыянт — паўзці, плакаць і каяцца. За пастаянныя выступленні пісьменнікаў ў друку, вершы і паэмы ў абарону свабоды, за самаадданую *працу ў нядаўна лепшым* беларускім часопісе "Полымя" Сяргея Законнікава, за верш Славаміра Адамовіча...

За ўсё, што за гэтыя гады , на думку нашых непрыяцеляў , "натварылі" пісьменнікі Беларусі, трэба пакаяцца, сабраць "лепшыя сілы" і пайсці наперад пад сцягамі цэнзуры. Але ў гэтым выпадку ты перастанеш быць творцам, якому час ад часу паказваецца Неба і нешта больш высокае, чым *само жыццё...Якому без роднай мовы і* сапраўднай незалежнасці Беларусі — не жыць.

Тады, можа, нешта і дадуць, аб чым так плачацца В. Праўдзін..

Але бярыце ГЭТА ўжо вы, хлопцы...Толькі каб не прыйшлося вам пасля выразаць свае артыкулы з газет. Выразаць ўсю гэтую хлусню, якою сябе ўпершыню за апошнія гады запляміла газета беларускіх пісьменнікаў...

**Вольга ІПАТАВА,**
**Старшыня Саюза**
**беларускіх пісьменнікаў**

## *Успаміны Мар'яна Пецюкевіча*




**Першая кніга ўспамінаў беларускага грамадскага дзеяча, этнографа і літаратара Мар'яна Пецюкевіча выйшла чатыры гады назад у Вільні. Яна называлася "У пошуках зачараваных скарбаў". Каб гэтыя ўспаміны пабачылі свет, парупілася літоўскае таварыства беларускай культуры "Рунь". Успаміны, якія напісаў і пакінуў для нашчадкаў Мар'ян Пецюкевіч, вельмі каштоўныя і цікавыя. Найперш тым, што аўтар згадвае пра многіх дзеячаў беларускай культуры, з якімі быў добра знаёмы і якія ў 20-х гадах жылі ў Вільні, ці працавалі ў беларускай гімназіі. З успамінаў можна даведацца пра Адама Станкевіча, які прывозіў і ўсіх частаваў хлебам, што пякла яго маці ў Арлянятах на Ашмяншчыне. Пра Максіма Гарэцкага, якога моцна любіла ўся Віленская беларуская гімназія. Пра Хведара Ільяшэвіча, які "напісаў магістэрскую працу аб друкарні Мамонічаў у Вільні" і які "набіраў разгону на літаратурнай ніве". Далей Мар'ян Пецюкевіч піша, што Ільяшэвіч загінуў у аўтамабільнай катастрофе ў Англіі. На самай справе Хведар Ільяшэвіч загінуў у Германіі.**

**Успамінае аўтар і пра Франука Грышкевіча — "круглага сірату з Беласточчыны", здольнага паэта, публіцыста і таленавітага прамоўцу. Асобны раздзел кнігі М. Пецюкевіча прысвечаны дырэктарам і інспектарам Віленскай беларускай гімназіі. Ён піша: "За гады маёй навукі ў Віленскай беларускай гімназіі змянілася ажно чатыры дырэктары. Калі я прыехаў на ўступныя экзамены (1922), застаў яшчэ дырэктарам М. Кахановіча, які ўжо перадаваў абавязкі дырэктару Браніславу Тарашкевічу. У сувязі з выбраннем яго ў паслы польскага Сойму, Тарашкевіч коратка быў дырэктарам. На ягонае месца прыйшоў настаўнік фізікі і матэматыкі інжынер Антон Нэканда-Трэпка". Пасля Трэпкі, як вядома, гімназію ўзначальваў Радаслаў Астроўскі, якога ўсе, як піша аўтар, баяліся: "Быў гэта вельмі энергічны, быстры чалавек, дасканалы арганізатар і адміністратар. Дысцыпліну паставіў у гімназіі амаль вайсковую і для педагагічнага персаналу, і для вучняў. Выгляд меў суровы, але часам прасвечваліся і ўсмешка і відаць былі белыя зубы праз рыжыя вусы. Крочыў па калідорах гімназіі, як камандзір на парадзе. Не ведаю, ці хто яго любіў, але баяліся ўсе. Як настаўнік, ён быў выдатны. Вельмі цікава праводзіў урокі матэматыкі і астраноміі...".**

**Мар'ян Пецюкевіч у свой час быў рэдактарам часопіса "Шлях Моладзі". Лепш, вядома, за рэдактара ніхто не раскажа, як ствараўся і выдаваўся часопіс, тыраж і папулярнасць якога ў Заходняй Беларусі раслі з кожным месяцам. Часопіс праіснаваў з 1930 года да пачатку другой сусветнай вайны. Апошнія старонкі кнігі "У пошуках зачараваных скарбаў" прысвечаныя сібірскай ссылцы і Варкуцінскай катарзе.**

**Менавіта сібірскай ссылцы прысвечана другая кніга ўспамінаў Мар'яна Пецюкевіча, якая называецца "Кара за службу народу". Яна нядаўна пабачыла свет у Беластоку, дзякуючы Беларускаму Гістарычнаму Таварыству. За сваю нацыянальна-грамадскую дзейнасць аўтар з сям'ёй быў сасланы ў Сібір у пасёлак Ужур Краснаярскага краю. Як жылося яму там, якія людзі яго акружалі, якія адзначаліся святы і абрады — пра ўсё вельмі дасканала і цікава напісаў Мар'ян Пецюкевіч.**

**Напрыканцы гэтага невялікага матэрыялу хочацца трохі нагадаць біяграфію аўтара ўспамінаў. Нарадзіўся ён у вёсцы Цяцеркі на Браслаўшчыне ў 1904 годзе. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і Віленскі універсітэт. Быў дырэктарам Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні, рэдактарам часопіса "Шлях Моладзі". Двойчы рэпрэсіраваны. Пасля ссылкі і катаргі жыў у Польшчы ў горадзе Торунь. Працаваў у мясцовым этнаграфічным музеі. Даследаваў і вывучаў народную культуру беларусаў Беласточчыны. Памёр у 1983 годзе.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

АДГАЛОСКІ

# Што можа мова спеваў?

Ніводны чалавек не застрахаваны ад памылкі. Зыходзячы з гэтага, адважуся сказаць наступнае: з усіх сёлетніх артыкулаў вельмі паважанай мною газеты "Літаратура і мастацтва" найбольш глыбока пранікае ў сутнасць беларускай нацыянальнай ідэі, найпаўней адпавядае ёй публікацыя кампазітара Алеся Рашчынскага "Паміж паланезам і "Камарынскай" (22 лютага 2002 г.). Даўно чакаў такога артыкула, прычым ад саміх музыкантаў-спецыялістаў, а не ад журналістаў. І добра, што ён з'явіўся, хаця і са спазненнем не менш як на добры дзесятак гадоў.

Не сакрэт, што страшэнна дэфармаваны прыродны духоўны патэнцыял беларускага народа, крайне нізкі — а для многіх проста нулявы — узровень нацыянальнай самасвядомасці — гэта не толькі вынік шматгадовай дзяржаўнай палітыкі дыскрымінацыі беларускай мовы, мэтанакіраванага выцяснення яе рускай мовай з усіх сфер грамадскай дзейнасці чалавека. Нечуваная страта беларускім народам сваёй этнакультурнай самабытнасці, амаль поўная размытасць нацыянальнай самасвядомасці — гэта яшчэ і вынік навязанага яму пэўнымі дзяржаўнымі, ідэалагічнымі структурамі жыцця паводле рускіх музычна-песенных традыцый. Хаця яны і блізкія адпаведным беларускім традыцыям, але ўсё-такі гэта не тое, што трэба для нармальнага самабытнага этнакультурнага развіцця беларусаў. Шкада, што гэтага не хацелі разумець і не разумеюць па сённяшні дзень многія палітыкі, чыноўнікі розных органаў кіравання культурным працэсам на такой важнай яго дзялянцы, як музычна-песеннае мастацтва. Асабліва зайздросную заўзятасць у сваёй антыбеларускай дзейнасці яны пачалі выяўляць з другой паловы 20-га стагоддзя, калі КПСС на ўвесь рост узняла пытанне пра стварэнне самай перадавой у свеце культуры будучага камуністычнага грамадства, якая, меркавалася бальшавіцкімі ідэолагамі, павінна была вырасці з рускай культуры, як самай развітай і найбольш распаўсюджанай на прасторах СССР.

Афіцыйная Беларусь цалкам падтрымала такую палітыку. Развязванню "лёсавызначальнай" праблемы была падпарадкавана дзейнасць усіх сфер культуры. Вядучая роля надавалася радыё і тэлебачанню, якія зрабіліся асноўнымі распаўсюджвальнікамі рускага музычна-песеннага мастацтва. З іх дапамогай апошняе заняло ледзь не ўсю беларускую ніву, на якой толькі дзе-нідзе раслі кволенькія нацыянальныя музычна-песенныя кветачкі. У вялікі рост яны не пайшлі, бо гэтага ім не давалі. Беларусы фарміраваліся пераважна на рускіх культурна-моўных каштоўнасцях, якія тады было прынята называць савецкімі. Добра, калі ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя хаця б адзін чалавек з дзесяці мог ад пачатку да канца праспяваць беларускую песню, выканаць свой нацыянальны танец. Беларусы амаль пагалоўна жылі ў рускай музычна-песеннай стыхіі, якую асабліва не пахіснула на нашай зямлі нават з'яўленне такіх папулярных вакальна-інструментальных ансамбляў, як "Песняры" (спачатку называліся "Лявоны"), "Верасы", "Сябры", бо часта і яны займаліся прапагандай рускага меласу. Звяртацца ж да прысутных у музычнай зале маглі толькі па-руску, таму іх беларускасць часам выглядала штучнаю.

Найвялікшай жа трагедыяй нашага духоўнага жыцця сталася адсутнасць належнай беларускасці ў самых прэстыжных пластах музычна-песеннага мастацтва. А быў жа час, калі ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі заходнееўрапейская і руская класіка ішла на беларускай мове. Потым гэтая традыцыя перарвалася. Не было яе ў жанры аперэты. І расчыніліся дзверы для ўезду ў наш край на сталую працу вялікай колькасці артыстаў оперы і аперэты, якія ўнеслі і ўносяць (ужо разам з дзецьмі і ўнукамі) каласальны ўклад ва ўмацаванне рускамоўных пазіцый у названых жанрах музычна-тэатральнага мастацтва. Толькі адзінкі з артыстаў немясцовага паходжання пажадалі развіваць сваё мастацтва на беларускамоўнай аснове, г.зн. пазбавіць яго функцыі магутнага сродка русіфікацыі беларусаў (прычым, найбольш культурна выхаваных). Каб у нас класічныя жанры вакальна-сцэнічнага мастацтва існавалі на беларускамоўнай аснове, не было б праблемы і са стварэннем музычнага выдавецтва, пра што з такім болем у сэрцы піша шаноўны спадар Рашчынскі.

Словам, куды ні скіруй позірк, на ўсіх дзялянках культурнай нівы Бацькаўшчыны рускі фактар падмінае пад сябе беларускі. У нашым дзяржаўным сектары культуры цяжка знайсці адмысловага спевака ці спявачку, для якіх служэнне беларускамоўнай песні зрабілася б жыццёвай патрэбай. Здавалася, такія асобы пачалі ўжо з'яўляцца, але апошнімі гадамі і яны заспявалі: "Хороши весной в саду цветочки", "Ой, цветет калина в поле у ручья" і г.д. А ва ўсіх жа народаў ёсць выканаўцы менавіта нацыянальнай эстраднай песні, і нікога свая дзяржава так не шануе, як іх.

Мова і песня — гэта сёстры-блізняты. Кампазітару быць актыўным носьбітам роднай мовы карэннага народа краіны, дзе ён жыве і творыць, гэтаксама важна, як і пісаць годную музыку. Супрацьстаяць развалу нацыянальнага, культурна-моўнага патэнцыялу беларускага народа кампазітары павінны не з меншай упартасцю, чым пісьменнікі. Не трэба забывацца, што ў захаванні, узбагачэнні этнакультурнай самабытнасці кожнага народа, у т. л. і беларускага, роля кампазітараў ніколькі не ніжэй. Таму ім трэба супольна, у тандэме з майстрамі прыгожага пісьменства весці змаганне за выратаванне беларусаў ад смяротна небяспечных вынікаў культурна-моўнай асіміляцыі. Прамаруджванне можа каштаваць зусім рэальнага і вельмі хуткага знікнення з этнічнай карты нашага, колісь адмысловага, самабытнага славянскага народа.

Нашыя ж грамадска-палітычныя колы, навуковая, мастацкая, педагагічная інтэлігенцыя страшэнна марудзяць з выпрацоўкай і ажыццяўленнем дзейсных захадаў па стварэнні нармальных варункаў для прыстойнага самабытнага этнакультурнага развіцця тытульнай нацыі Бацькаўшчыны. Цалкам падзяляю трывогу А. Рашчынскага з нагоды таго, што

ВАРУНКІ

# Аптэка для душы

Дом жыцця, прытулак мудрасці, аптэка для душы — такія незвычайныя назвы насілі першыя старажытныя бібліятэкі, створаныя на тэрыторыі сучаснай Грэцыі на пачатку нашай цывілізацыі. Гэта сведчыць аб тым, што іх заснавальнікі добра ўсведамлялі вялікае значэнне бібліятэк і ў такіх вобразных назвах імкнуліся адлюстраваць сэнс іх існавання.

Назапашаныя ў бібліятэках веды зараз разглядаюцца як адзін з важнейшых стратэгічных рэсурсаў развіцця эканомікі, культуры, адукацыі, духоўнасці. Таму сёння, калі заходзіць гаворка пра сучасныя бібліятэкі, часцей за ўсё адзначаецца ўзмацненне іх інфармацыйных функцый, а адным з дасягненняў лічыцца камп'ютэрызацыя і з'яўленне новых электронных носьбітаў інфармацыі. І гэта не даніна модзе, а патрабаванне часу, бо прымяненне новых тэхналогій дазваляе эфектыўней выкарыстоўваць багацці бібліятэк на карысць грамадству.

Разам з тым сярод разнастайных карыстальнікаў бібліятэк ёсць шмат такіх, для каго яны па-ранейшаму застаюцца сапраўднай аптэкай для душы. Да іх ліку адносяцца, перш за ўсё, пажылыя і адзінокія людзі, інваліды, дзеці-сіроты, беспрацоўныя і іншыя, каго сёння прынята называць сацыяльна неабароненымі катэгорыямі насельніцтва. Іх абслугоўваннем, як правіла, займаюцца публічныя бібліятэкі. З улікам сённяшніх рэалій нашага няпростага жыцця, работа з такімі чытачамі набыла для іх асаблівы сэнс і напоўнілася новым зместам. Адным з праяўленняў гэтага стала распрацоўка бібліятэкамі мэтавых комплексных праграм, разлічаных на некалькі гадоў. Іх назвы гавораць самі за сябе: "Міласэрнасць", "Мы разам. Мы патрэбны адзін аднаму", "Дабрыня", "Вера. Надзея. Любоў" і інш. У розных рэгіёнах краіны пачалася рэалізацыя рэспубліканскай дабрачыннай праграмы "Жыццё патрабуе міласэрнасці", распрацаванай Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. У бібліятэках праводзяцца конкурсы "Спяшайцеся рабіць дабро", арганізоўваюцца акцыі дабрачыннасці, месячнікі міласэрнасці і інш. Яны прадугледжваюць прыярытэтнае абслугоўванне названых груп чытачоў у бібліятэках, дастаўку кніг дамоў тым, хто па стане здароўя не можа наведваць іх сам, а таксама ў бальніцы, дамы-інтэрнаты, дзіцячыя дамы.

Вырашаць гэтыя задачы часта дапамагаюць валанцёры, якія групуюцца вакол бібліятэк у розныя аб'яднанні. Так, пры Слуцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы створаны цэнтр сацыяльнай дапамогі інвалідам "Інвасервіс". Праходзяць спецыяльную падрыхтоўку слухачы "Школы міласэрнасці", створанай на базе бібліятэкі № 11 г. Гомеля. Працуюць гурткі юных валанцёраў у Задубенскай і Восаўскай сельскіх бібліятэках Мядзельскага раёна. Днямі добрых паслуг называюць наведванне пажылых і хворых людзей у Акцябрскай цэнтралізаванай сістэме, у якіх актыўна ўдзельнічаюць падлеткі. З іх дапамогай у раёне абслугоўваецца каля тысячы чытачоў.

У цэнтры павышанай увагі знаходзяцца дзеці-інваліды. Бібліятэкі імкнуцца не толькі задаволіць іх чытацкія інтарэсы, але і далучыць да розных відаў творчай дзейнасці, чым спрыяюць іх сацыяльнай рэабілітацыі. Вывучэнне патрэб і інтарэсаў дзяцей-інвалідаў, прыярытэтнае абслугоўванне іх бацькоў, настаўнікаў, выхавальнікаў стала галоўнай мэтай рэгіянальнай праграмы "Дапамога бліжняму", распрацаванай некалькі гадоў таму назад Асіповіцкай раённай дзіцячай бібліятэкай. У яе рамках арганізаваны пастаянна дзеючы рух "Дзеці Гіпакрата". Для бацькоў, дзяцей-інвалідаў створаны клуб "Чулае сэрца", дзе яны сустракаюцца з псіхолагамі, медыцынскімі работнікамі і іншымі спецыялістамі, якія даюць ім неабходныя кансультацыі. На прынцыпах гульні і творчасці распрацавана развіваючая праграма для дзяцей. Для іх праводзяцца конкурсы на лепшы малюнак, арганізуюцца вернісажы іх твораў. Па спецыяльна распрацаванай творчай праграме працуе з дзецьмі праблемных сем'яў Рэчыцкая дзіцячая бібліятэка.

Наладзіла сувязь з нядаўна створаным у горадзе прытулкам для дзяцей-сірот Буда-Кашалёўская дзіцячая бібліятэка, арганізавала на яго базе бібліятэчны пункт, запрасіла дзяцей на экскурсію да сябе.

Шырокае распаўсюджанне атрымалі клубы па інтарэсах для пажылых людзей з прыгожымі і аптымістычнымі назвамі "Залаты ўзрост", "Клуб добрага настрою", "Задушэўная размова" і інш., у якіх яны з задавальненнем праводзяць свой вольны час. Літаратурна-музычная гасцёўня "Сузор'е талентаў" у Скідзельскай бібліятэцы аб'яднала таленавітых жанчын-інвалідаў.

Сапраўднай аптэкай для душы для жыхароў дома ветэранаў № 1 г. Мінска з'яўляецца сталічная бібліятэка № 16, дзе яны адзначаюць святы і дні нараджэння, удзельнічаюць у разнастайных мерапрыемствах, дэманструюць на выстаўках створаныя сваімі рукамі творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Усё большую папулярнасць набываюць бібліятэрапеўтычныя формы работы. У бібліятэках з дапамогай спецыялістаў ствараюцца цэнтры псіхалагічнай дапамогі, школы здароўя, лекторыі, праводзяцца псіхалагічныя практыкумы, вечары сямейнай тэрапіі. З мэтай сацыяльна-псіхалагічнай падтрымкі падлеткаў арганізаваны клуб "Выратавальны круг" у Нясвіжскай раённай і цэнтр "САМ" (сацыяльнай адаптацыі моладзі) у Слуцкай цэнтральнай гарадской бібліятэках. Бібліятэрапія стала адным з асноўным напрамкаў работы ў Чэрыкаўскай цэнтралізаванай сістэме, дзе распрацавана адпаведная мэтавая праграма.

Работа бібліятэк з сацыяльна неабароненымі групамі насельніцтва сёння выйшла далёка за рамкі бібліятэчнага абслугоўвання. Многія бібліятэкі сталі стварацца для іх спецыялізаваных базы дадзеных сацыяльнай накіраванасці. Зараз у іх можна атрымаць інфармацыю аб

беларускі саюз кампазітараў "за апошнія паўтара дзесяцігоддзі не правёў ніводнай акцыі агульнанацыянальнага гучання. Не сказаў слова ў абарону роднай мовы..." А каб сказаў, думаю, многія з асіміляваных беларусаў маглі б задумацца адносна лагічнасці, слушнасці свайго адыходу ад роднага слова, тым больш, што гэта адбылося ў выніку пэўнай дзяржаўнай палітыкі, а не па волі прыродных носьбітаў беларускага слова.

Не збаюся крайне адмоўнай рэакцыі з боку зрусіфікаванай часткі грамадства заявіць: усё, што ствараецца і выконваецца ў нашай краіне не на яе прыроднай мове, незалежна ад таго, айчыннымі ці замежнымі прадстаўнікамі мастацкай інтэлігенцыі, належыць не да беларускай нацыянальнай культуры, а да культуры Беларусі ўвогуле, што зусім не адно і тое ж. На Беларусі, як і ў кожнай іншай краіне, можна ўсё жыццё запаланіць чужой культурай, прычым вельмі развітай, але такое жыццё не будзе нацыянальным. Каб, напрыклад, музычна-песеннаму мастацтву быць нацыянальным, яно павінна ствараецца ў нацыянальнай мове. А яна ў кожнага народа, у т. л. і ў беларусаў, адна. Бытаванне ў сучасным афіцыйным эфіры крайне заганнай практыкі: на дзевяць рускамоўных песень адказвадць адною беларускамоўнаю, — нясе велізарную шкоду нашай нацыянальнай культуры. Беларускамоўнае музычна-песеннае мастацтва павінна быць не дэсертам ці прыправай у нашым духоўным жыцці, а шчодрай насычанай вітамінамі пажыўнай стравай. Але ўжо дзесяцігоддзямі ў такой ролі ў дзяржаўных электронных СМІ, на сцэнах тэатраў і канцэртных залаў выступае ў нас рускамоўная песня, да стварэння якой усё больш актыўна далучаюцца і мясцовыя аўтары.

Разлічваць, што ў такіх варунках можна ўзбагаціць нацыянальна-духоўнае жыццё беларусаў, захаваць яго этнакультурную самабытнасць, засцерагчы ад канчатковай асіміляцыі, няма ніякіх падстаў. Месца беларускай мовы ў сучасным музычна-песенным мастацтве Бацькаўшчыны зусім не адпавядае яе карэнным нацыянальным інтарэсам, з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай на шляху духоўнага адраджэння і развіцця беларускага народа.

**Леанід ЛЫЧ,**

**доктар гістарычных навук, прафесар**

# Дом, у якім жывуць музы

Як рака на перакаце, шуміць Першамайская вуліца, а ў двары, каля магазіна "Тэатральны", ціха. Тут пад засенню векавых таполяў і ліп стаіць двухпавярховы дом. Помню, як мой спадарожнік, вядомы кампазітар Эдуард Калманоўскі, які прыехаў на 30-годдзе вызвалення Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і якога я, тады запрасіў на запіс у студыю, праходзячы міма гэтага дома, радасна заўважыў:

— У ім я вучыўся музыцы. Успамінаю гэты дом часта. Бо менавіта тут упершыню сустрэў сваю музу...

Так, непрыкметны на выгляд будынак яшчэ дарэвалюцыйнай цаглянай кладкі, што ў завулку Камуністычны, даўно служыць мастацтву. У ім доўгі час займаліся студэнты аддзялення духавой музыкі музычнага вучылішча імя Рымскага-Корсакава.

Цяпер у гэтым будынку працуе абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культсветработы, штодня далучаны да самадзейнага мастацтва Магілёўшчыны, яго музычных, спеўных і танцавальных калектываў, аматарскіх тэатраў, мастацкіх студый, фестываляў і народных святаў, да працы Дамоў культуры і сельскіх клубаў.

Адным з самых адораных дырэктараў цэнтра быў Уладзімір Бараноўскі, заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Ён кіраваў калектывам абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культсветработы 23 гады. І сёння Уладзімір Дзмітрыевіч працягвае працаваць тут галоўным рэжысёрам.

Зараз у абласным навукова-метадычным цэнтры малады дырэктар — Ігар Кузняцоў. У свой час ён скончыў Магілёўскае музычнае вучылішча па класе баяна і Беларускую акадэмію культуры, дзе займаўся на аддзяленні народнай творчасці.

— Малады не толькі па ўзросце, але і па сваёй заўзятасці, — сказаў пра Кузняцова начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Міхаіл Дарашкоў. — Мае добры вопыт. У Горках працаваў дырэктарам дзіцячай школы мастацтваў, потым узначальваў там жа раённы аддзел культуры. Выявіў сябе кіраўніком, які ўмее бачыць перспектыву...

Кузняцоў кіруе цэнтрам другі год. Але і за гэты кароткі час, як кажуць, здолеў уліць у старыя мяхі маладое віно. На новым, больш глыбокім, чым раней, дыханні ў вобласці прайшлі традыцыйныя фестывалі: у Клімавічах — дзіцячы "Залатая пчолка", у Глуску — творчых сямей "Сузор'е талентаў", у Магілёве — духавой музыкі "Па галоўнай вуліцы з аркестрам" і нацыянальных культур. Яркім адвовішчам стала рэспубліканскае свята пісьменства на радзіме аднаго з першых славянскіх друкароў Пятра Мсціслаўца — у горадзе Мсціславе.

У абласным навукова-метадычным цэнтры на добрай аснове ўсталявана выдавецкая дзейнасць, што спрыяе выданню сцэнарна-метадычнай літаратуры, збору і захаванню скарбаў народнай творчасці. За час існавання аддзел падрыхтаваў і выпусціў больш за 20 выданняў. Гэта сцэнарыі вядомых народных святаў. Гэта і зборнікі аўтэнтычных беларускіх песень, творы літаратараў і кампазітараў Магілёўшчыны.

Пры цэнтры працуе клуб самадзейных кампазітараў, творы многіх таксама пабачылі свет. Першай ластаўкай стаўся агульны зборнік "Песні пачынаюцца з сэрцаў". Потым былі кніжкі старэйшага кампазітара вобласці, заслужанага дзеяча культуры Беларусі з Клімавіч Леаніда Ячнева "Мая Беларусь" і "Звіні, песня беларуская!", зборнік кіраўніка клуба кампазітараў магілёўчаніна Яўгена Маланкова "Возвращение в юность", асіпаўчаніна, кіраўніка народнага цымбальнага аркестра Віктара Шышкаўца "Журавінка" і "Вечар над Свіслаччу", а таксама выкладчыкаў дзіцячай школы мастацтваў з Горак Валянціны Макеевай "Ах, гармонь!" і іншыя.

Аднаўляецца выхад часопіса "Клуб і творчасць", які перастаў існаваць па віне былога дырэктара. А між тым, гэта адзіны такі часопіс на ўсю Беларусь. У ім друкаваліся цікавыя сцэнарыі, нізкі народных і аўтарскіх песень, нарысы пра лепшыя творчыя калектывы, пра падзвіжнікаў беларускай нацыянальнай культуры, праблемныя артыкулы, даведачныя матэрыялы.

У Магілёўскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці працуюць людзі, улюбёныя ў сваю справу. Гэта галоўны хормайстар, арганізатар фальклорных экспедыцый, куратар клуба самадзейных кампазітараў Валянціна Пруднікава, аўтар адной з самых папулярных серый выдання "Жывая спадчына" Валянціна Бондарава, загадчык інфармацыйна-выдавецкага аддзела Святлана Бухель, намеснік дырэктара цэнтра па культасветрабоце Святлана Сарока, кіраўнік танцавальнай групы народнага ансамбля "Магілёўцы", які працуе пры цэнтры як творчая лабараторыя, Мікалай Рубцоў і іншыя.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

сацыяльных і медыцынскіх установах, наяўнасці працоўных месц у арганізацыях і на прадпрыемствах, раскладзе прыгараднага і маршрутах гарадскога транспарту і інш. У сельскай мясцовасці ў апошні час можна нават убачыць своеасаблівыя бібліятэкі-аптэкі, якія не толькі фарміруюць базы дадзеных аб розных аздараўленчых методыках і лекавых раслінах, але з дапамогай аматараў вядуць нарыхтоўку траў. І гэта не выпадкова, чытачамі сельскіх бібліятэк з'яўляюцца пераважна людзі пажылога ўзросту, у якіх, як вядома, шмат праблем са здароўем. Бібліятэка для іх часта не толькі адзіны культурны цэнтр, але і месца зносін па ўсіх узроўнях. А бібліятэкар пры неабходнасці можа прынесці дамоў не толькі кнігі і часопісы, але прадукты харчавання, і нават лекавыя травы, бо аптэк у сельскай мясцовасці амаль няма. На жаль, усё менш у ёй становіцца і бібліятэк. За апошнія 10 гадоў мінулага тысячагоддзя іх колькасць паменшылася на 818 адзінак. Назіраецца гэты працэс і зараз, будзе працягвацца і ў далейшым, бо скарачэнне колькасці сельскага насельніцтва спыніцца не хутка. Сёння на 1 сельскую бібліятэку, у сярэднім, прыходзіцца 6 населеных пунктаў. У Гродзенскай вобласці —- 7, у Віцебскай — 9. Дайсці да кожнай вёскі, сярод якіх нямала аддаленых, практычна немагчыма. А гэта значыць, што даволі значная частка сельскіх жыхароў пазбаўлена магчымасці карыстацца паслугамі бібліятэк.

Каб не пакінуць іх зусім без увагі, даводзіцца адкрываць бібліятэчныя пункты, утрымліваць якія таксама даволі складана, выкарыстоўваць кнігаНош, хоць зрэдку праводзіць выязныя масавыя мерапрыемствы. Практыкуюцца наведванні аддаленых вёсак сумесна з сацыяльнымі і медыцынскімі работнікамі.

Такім чынам, бібліятэкі імкнуцца выконваць побач з іншымі ўстановамі адну з самых галоўных сваіх задач — клапаціцца пра чалавека, быць аптэкай для яго душы.

**Марыя СОКАЛ,**

**бібліятэкар Нацыянальнай**

**бібліятэкі Беларусі**

# Прыемная памылка

Неяк на практычных занятках рабіўся стылістычны аналіз тэксту. Зразумела, тэксты, падабраныя дома студэнтамі, былі рознай вартасці. Але адзін з іх звярнуў асаблівую ўвагу. Найперш, мабыць, выразна беларускім ладам і складам мовы. Я пазнаў аўтара — чытаў раней гэты артыкул.

А цяпер, пры чытанні студэнткаю, нязвыкла загучалі словы *памяншэлы людскі паток*. Першае з гэтых слоў, здаецца, дасюль не чутае, але нібыта і знаёмае. Падумалася: няўжо я не заўважыў і не выпісаў калісь яго? Папрасіў: "Прачытайце, калі ласка, яшчэ раз мясціну пра памяншэлы людскі паток". Студэнтка хутка знайшла патрэбны сказ: "Пасля рэвалюцыі, заканчэння польска-савецкай вайны, праз пяць гадоў тулянна па чужыне, у 1921 годзе людскі паток, **памялчэлы**, губляючы па дарозе ад мору і голаду жывыя душы, ізноў павярнуў на Захад, каб пабачыць родныя папялішчы..."

— Дык як жа ў тэксце: людскі паток **памялчэлы** ці **памяншэлы**? — здзіўлена пытаюся.

— Выбачайце, я напісала **памялчэлы**, а была прачытала **памяншэлы**.

Так міжволі, сама сабою ўзнікла навучальная сітуацыя, зручная, каб закрануць праблему дзеепрыметніка.

Гэты эпізод яшчэ раз прадэманстраваў актуальнасць тэндэнцыі да пашырэння ў беларускай мове дзеепрыметнікаў з суфіксам *-л-*. І не толькі ў тэкстах пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў.

Што да слова *памялчэлы*, то яно агульнаўжывальнае, стылістычна нейтральнае. З апорай на яго семантыку і прадукцыйную мадэль студэнткаю быў прамоўлены аказіяналізм *памяншэлы*. У літаратурнай мове ўжываецца сінонім *паменшаны*. Да гэтага раду далучаецца магчымы (патэнцыйны) вытвор *паменшалы*.

Калі праз колькі дзён пасля заняткаў я звярнуўся да першакрыніцы (артыкула А. Ліса) (Полымя. 1998. № 11), каб праверыць аналізаваны вышэй урывак, на вочы трапілі яшчэ аналагічныя дзеепрыметнікі: **запанавалая** на заходнебеларускіх землях, згодна з Рыжскім мірам, польская ўлада; толькі што **паўсталы** да самастойнага жыцця народ.

Звычайна ў падручніках для школ і ВНУ дзеепрыметнікі з суфіксам *—л-* ілюструюцца збітымі, зацяганымі прыкладамі тыпу *зазелянелая трава, павесялелая дзяўчынка*. Калі ж выйсці на шырокі палетак беларускай літаратурнай мовы, то спіс такіх формаў дзеяслова істотна абнаўляецца і папаўняецца, набываючы тым самым большую тэарэтычную і практычную значнасць. Падамо некалькі нетрадыцыйных ужыванняў:

Адшапацелы лісток (К. Камейша), загінулы брат (Роднае слова. 2000. № 10), загінулыя ў вайну (Беларускае радыё. 30.06. 2002.), у заглядзелым гурце (Я. Брыль), запуставалая хатка (Полымя. 1997. № 5), заспалае возера (М. Танк), гадаваныя і мужнелыя на беларускай зямлі (пісьменнікі) (А. Васілевіч), у напаткалай злой прыгодзе (С. Явар), у насталай цішы (А. Русецкі), падгулялыя падлеткі (В. Іпатава), падпалы ружовату туману (пісьменнік) ("ЛіМ". 9.12.1998), пазараслыя канцы магілак (В. Адамчык), прагучалыя выступленні (У. Мехаў), спазнелая воля (В. Быкаў), уздужалая дзяржава (С. Панізнік).

Напэўна не трэба тлумачыць дасведчанаму чытачу гэтага выдання, што прыведзеныя формы дзеяслова адпавядаюць рускім дзеепрыметнікам з суфіксамі *—вш-, -ш-*: отшелестевший, погибший, подгулявший і г.д.

Думаю, тут будзе дарэчы згадаць яшчэ адзін выпадак з педагагічнай працы (пра яго ўжо я недзе пісаў). Студэнтка-вячэрніца, адказваючы на пытанне з граматыкі ці арфаграфіі, некалькі разоў ужывала словы-тэрміны *нацысковы склад, ненацысковы склад*. У гутарцы высветлілася, што гэтыя мілагучныя варыянты кадыфікаваных тэрмінаў *націскны, ненаціскны* студэнтка вымаўляла, нават не падазраючы, што іх няма ў падручніку.

Адхіленні ад літаратурнай нормы... Ці заўсёды яны памылкі? Відаць, адказ у кожным разе будзе розны. А вось прыгаданыя факты з маўленчай практыкі падаюць нейкую надзею, спараджаючы аптымізм: студэнт не толькі носьбіт невыводных моўных памылак, з якімі нястомна змагаецца выкладчык, найперш філолаг, але і творца роднага слова, яго ахоўнік. То, мабыць, варта даследаваць і мову студэнтаў, а не толькі "майстроў".

**Алесь КАЎРУС**

# Часопісы рэдакцыйна-выдвецкай установы “Літаратура і мастацтва”

## “Полымя” № 7-8

*...Падымайся з нізін,*
*сакаліна сям’я.*
*Над крыжамі бацькоў,*
*над нягодамі;*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад*
*між народамі!..*

Верш Янкі Купалы “Маладая Беларусь” адкрывае 7-8 нумар часопіса “Полымя”. І адразу ў працяг запавету народнага песняра: “Курс на пабудову моцнай і квітнеючай Беларусі застаецца нязменны” — Пасланне парламенту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

Патрыярх беларускай літаратуры Іван Шамякін у “Начных успамінах” узгадвае мінулае, цяжкія гады ваеннага ліхалецця і шчыра дзеліцца жыццёвай мудрасцю.

Янка Сіпакоў сваім класічным апавяданнем “Дажджом” кранае, здаецца, непадуладнае часу — змаганне беларускага народа за волю і незалежнасць. Але і ў гады паўстанняў было вечнае — каханне...

Парадаваў сваімі “Прыкметамі” і Сяргей Рублеўскі. З задавальненнем чытаюцца “Чыстая літаратура”, “Жвысь”, “Два каты і два сабакі” і іншыя замалёўкі. Адным словам, як сказаў сам аўтар: “Кот — “рэч у сабе”. А гэта інтрыгуе...

Фелікс Шкірманкоў зноў вяртае чытача ў падзеі красавіка 1945 года. “За восем дзён да перамогі” — так назваў аўтар сваю быль.

Парадавалі новымі вершамі Віктар Шніп, Мікола Мятліцкі, Пятро Прыходзька.

У рубрыцы “Спадчына” — лісты Ларысы Геніюш да Максіма Танка.

“Каб гучаў набат памяці” — Аляксандр Колін і Уладзімір Правасуд пра жудасць канцлагера Трасцянец...

Пра перамены і будучыню часопіса “Полымя” гаворыць галоўны рэдактар Мікола Мятліцкі:

“Дарагія сябры!

Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь створана рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і мастацтва”, у якую ўвайшоў і часопіс “Полымя”. Першачарговым клопатам новай дзяржаўнай установы з’яўляецца належная падтрымка выдання айчыннай літаратуры і твораў сусветнай класікі, знаёмства чытача з арыгінальнымі творамі беларускіх пісьменнікаў на старонках перыядычных выданняў.

Рэдакцыя часопіса сардэчна дзякуе нашым падпісчыкам за разуменне і падтрымку ў складаны эканамічны час і прыносіць сваё прабачэнне за тое, што падчас рэарганізацыі і станаўлення новай рэдакцыйна-выдавецкай структуры Міністэрства інфармацыі не мела магчымасці прафінансаваць выданне 5-га і 6-га нумароў часопіса “Полымя”. Скажам шчыра, што ўсе цяжкасці яшчэ не пераадолены, але гарантуем, што з 2003 года часопіс “Полымя” будзе выходзіць у свет штомесяц.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх таленавітых аўтараў. Будзем друкаваць творы, якія, не абражаючы годнасць беларускага народа, закрануць многія праблемы сучаснага жыцця, стануць духоўным арыенцірам для ўсяго грамадства. Будзем памятаць і пра тое, што ў кожнага народа глыбокія гістарычныя карані. Мы ўпэўнены, што айчынную літаратуру чакаюць новыя мастацкія адкрыцці, якія, стаўшы ўпоравень з лепшымі дасягненнямі сусветнай літаратуры, скажуць адметна і годна пра наш час — час пабудовы незалежнай суверэннай Беларусі”.

## “Маладосць”, № 7-8

Выйшаў з друку пасля працяглай паўзы ў шэсць месяцаў адноўлены часопіс “Маладосць” пад нумарам 7-8. Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў выдання, а найперш у падпісчыкаў, за гэтую “паўзу”, выкліканую пэўнымі фінансавымі цяжкасцямі. Мяркуем, што надалей часопіс будзе выдавацца рэгулярна і спадзяемся на падтрымку падпісчыкаў.




Надта ж хочацца, каб “Маладосць” вярнула свой ранейшы статус высокадухоўнага, любімага, ува ўсіх адносінах запатрабаванага выдання. У гэтым спадзаёмся на падтрымку і чытачоў, і пісьменнікаў, ад якіх “Маладосць” чакае яркіх, таленавітых, адметных твораў.

Спрабуючы надаваць часопісу новае, сугучнае часу аблічча, рэдакцыя будзе абапірацца на ўсё лепшае, што было напрацавана папярэднімі пакаленнямі.

У гэтым жа нумары чытач знойдзе пачатак прыгодніцкай аповесці вядомага пісьменніка Андрэя Федарэнкі “Афганская шкатулка”, містычнае апавяданне Генадзя Аўласенкі “І, нахіліўшыся, ён затушыў свечку”, вершы Соф’і Шах і Леаніда Пранчака, а таксама маладых паэтаў Міншчыны.

Рубрыка “У дапамогу школе. Пазакласнае чытанне” прапануе аповесць Уладзіміра Караткевіча “Ладдзя роспачы”.

Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы надрукаваны артыкул Уладзіміра Саламахі “Да Купалы ў Вязынку”, а пра творчасць знакамітага паэта Алеся Пісьмянкова разважае Васіль Макарэвіч.

Артыкулы журналісткі Ірыны Гарошка — пра беларускі хакей і кінарэжысёра Юрыя Цвяткова — пра здабыткі і перспектывы маладога айчыннага кіно.

*Даводзім да ведама чытачоў, што рэдакцыя “Маладосці” пераехала ў іншае памяшканне. Цяпер наш адрас: 220005, Мінск, Захарава. 19. Тэл. 284-79-85, 284-44-04.*

КНІГАРНЯ

# Будзе памяць вечнай

Двухтомнік “Памяць. Слуцкі раён. Слуцк”, выдадзены Беларускім тэлеграфным агенцтвам, папоўніў нядаўна серыю гісторыка-дакуметальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі. Калі прачытаў кнігу, на памяць прыйшлі радкі з верша народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі:

***Душой каб зналі чулаю***
***Пра пэўнае адно:***
***Чым далей ад мінулага,***
***Тым памятней яно.***

А яшчэ мінулае тым больш памятнае, чым больш мы ведаем пра яго. І вельмі важна, каб гэтыя веды пастаянна паглыбляліся, каб яны падсілкоўваліся самымі разнастайнымі звесткамі. “Памяць”, прысвечаная Слуцкаму раёну і гораду Слуцку, і стала выдатнай крыніцай такіх звестак пра мінулае і сучаснасць нашага краю. Больш чым на тысячы старонках выдання паўстае наш край ад сённяшняга дня аж да мезаліту — сярэднекаменнага веку, калі на берагах Случы і яе прытокаў з’явіліся першыя пасяленні людзей. А гэта ні многа ні мала, а дзесяць і больш тысяч гадоў таму. Уяўляеце, якая даўніна? Каменны век завяршыўся эпохай неаліту. Сляды дзейнасці чалавека гэтага перыяду знойдзены ў ваколіцах вёскі Агароднікі Казловіцкага сельсавета, на тэрыторыі сучаснага Слуцка і калгаса імя Энгельса.

Матэрыялы кнігі “Памяць” размешчаны ў храналагічным парадку ў чатырох раздзелах: “Ад часоў першабытных — 1917”, “1917—1941”, “1941—1945”, “1945 — да нашых дзён”. І ў кожным раздзеле — тэксты самага разнастайнага кшталту: і архіўныя дакументы, і гісторыка-эканамічныя нарысы, і аглядныя артыкулы, і ўспаміны відавочцаў падзей, і біяграфіі слынных землякоў, і цікавыя матэрыялы з кніг і перыядычных выданняў. Нямала ў кнізе фотаздымкаў, рэпрадукцый карцін, іншых ілюстрацый. Напэўна, не памылюся, калі скажу, што колькасць і якасць прадстаўленых у выданні матэрыялаў (а ў яго ўвайшло далёка не ўсё сабранае) сведчыць аб багатай гісторыі нашага краю, яго адметнасці. І ў той жа час падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Случчыны, арганічна ўпісваюцца ў гісторыю Беларусі, дадаюць да яе нямала цікавых і змястоўных старонак.

У гэтым лёгка пераканацца, калі прачытаць, напрыклад, у першым раздзеле кнігі матэрыялы “Набегі крымскіх татар на Случчыну”, “Тэатр Радзівілаў у Слуцку”, “Старэйшая школа Беларусі”, “Слуцк у гады Паўночнай вайны” і многія іншыя. Дарэчы, сёлета спаўняецца 885 гадоў з часу першага летапіснага ўпамінання пра Слуцк. У “Повести временных лет” чытаем: “В лето 6624 (1116). Приходи Володимер на Глеба; Глеб бо бяше воевал Дреговичи и Случеск пожек...” Аб былой значнасці Слуцка сведчыць тое, што ён — трэці горад Беларусі, пасля Брэста і Гродна, які ў 1441 годзе атрымаў магдэбургскае права. У 1433 годзе цэнтр Беларусі і Палессе былі ахоплены паўстаннем супраць вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. Гараджане Слуцка ў гэтым паўстанні выступалі за незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага ад Польшчы. Або такі факт. У пачатку XVI стагоддзя ўдзельныя княствы на тэрыторыі Беларусі былі паступова ліквідаваны, а вось Слуцкае княства як адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка існавала аж да 1791 года. Аб нечым жа гэта гаворыць.

А хіба можна выкрасліць з нацыянальнай гісторыі слуцкія старонкі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны? Дапытлівы чытач шмат цікавага, а то і новага для сябе даведаецца з раздзела “1917—1941”, які названы вельмі красамоўна — “На крутым павароце гісторыі”. На жаль, паварот аказаўся настолькі крутым, што раскруціў махавік масавых палітычных рэпрэсій, у якіх загінула нямала бязвінных людзей. У кнізе прыведзены прозвішчы ураджэнцаў і жыхароў Слуцка і Слуцкага раёна, якія былі рэпрэсіраваны і пазней рэабілітаваны. І хоць гэты спіс нельга назваць поўным, ён усё ж дае магчымасць вярнуць з нябыту імёны многіх нашых землякоў.

Нельга без хвалявання чытаць матэрыялы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне: “Подзвіг двух салдат”, “Змагаліся ў тыле ворага”, “Ямпальскія патрыёты”, “Як вызвалялі Случчыну”... Са старонак кнігі паўстае ўвесь трагізм часу, калі нашу зямлю тапталі нямецка-фашысцкія захопнікі, некаторыя дакументы, можна сказаць, “дыхаюць” вайной. За час акупацыі фашысты спалілі і знішчылі ў Слуцку 80 працэнтаў грамадскіх, адміністрацыйных і жылых будынкаў. Агульны ўрон у цэнах таго часу склаў 200 мільёнаў рублёў. Гітлераўцы расстралялі і замучылі 26307 чалавек, у тым ліку 11150 жыхароў горада і раёна. Да Вялікай Айчыннай вайны ў Слуцку было 21947 жыхароў, пасля вызвалення засталося толькі 6829. І адначасова з кнігі мы даведваемся пра мужнасць нашых землякоў у барацьбе з ворагам за свабоду і незалежнасць Радзімы. Многія з іх загінулі, і кніга “Памяць” — своеасаблівы помнік усім, хто паклаў сваё жыццё на алтар Перамогі.

Спадзяюся, чытачы не пакінуць без увагі старонкі, дзе расказваецца пра багатую матэрыяльную і духоўную спадчыну нашага краю. “Адным з лепшых помнікаў архітэктуры класіцызму з’яўляецца ўзведзены ў 1829—-1838 гадах па праекце архітэктара Падчашынскага будынак мужчынскай гімназіі. Ён мураваны, прамавугольны ў плане, двухпавярховы, накрыты вальмавым дахам, фасады дэкарыраваны стрымана. Па перыметры праходзіць карніз з сухарыкамі і міжпавярховы паясок...” Гэта ўрывак з апісання будынка, у якім цяпер месціцца слуцкая гімназія № 1. А яшчэ можна даведацца, як выглядалі раней і іншыя гарадскія пабудовы, у тым ліку і тыя, ад якіх да нашага часу не засталося і следу. А некага, напэўна, могуць зацікавіць тапанімічныя паданні ці звесткі па гісторыі сваёй роднай вёскі, узоры каляндарна-абрадавага фальклору Случчыны або расказ пра народныя і ўзорныя самадзейныя калектывы.

Гісторыя і сучаснасць Случчыны — гэта, у першую чаргу, яе людзі. Тутэйшая зямля з веку ў век шчодра нараджала і пісьменнікаў, і музыкантаў, і хлебаробаў, і воінаў, і навукоўцаў. Сярод ураджэнцаў Случчыны — вучоныя А. Вечар, С. Косберг, В. Мохарт, Р. Платонаў, А. Сержпутоўскі, генералы П. Корзун, К. Герчык, В. Шахновіч, знатныя хлебаробы — Героі Сацыялістычнай Працы А. Вашкевіч, В. Козел, С. Паляшчук, І. Сінягуб, А. Хацько. З працаўнікоў пісьменніцкага цэха назаву імёны Антона Алешкі,Васіля Віткі, Алены Васілевіч, Алеся Жука, Паўла Місько, Галіны Каржанеўскай, Віктара Дайліды, Міколы Лобана...

Упэўнены, што чытачы слуцкай “Памяці” не раз успомняць добрым словам тых, хто працаваў над кнігай. І асабліва — укладальніка хронікі В. С. Відлога. Добры знаўца гісторыі Случчыны, Валянціна Сцяпанаўна парупілася, каб багатая спадчына нашага краю была прадстаўлена як мага паўней і аб’ектыўней. Актыўна працавалі над падрыхтоўкай рукапісу аб’яднаная гарадская і раённая камісія па стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі, прадстаўнікі грамадскасці горада і раёна. Намаганні случчан былі дапоўнены прафесійнай работай супрацоўнікаў арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь і выдавецкага цэнтра БЕЛТА. У выніку маем цудоўную кнігу “Памяць”, якая з карысцю паслужыць не аднаму пакаленню тых, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

**Анатоль ЖУК**

*г. Слуцк*




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Намеснік галоўнага рэдактара**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Алесь ГАЎРОН —** ***адказны сакратар,***
**Яўген РАПІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** ***намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525,**
**адказны сакратар — 284-82-04**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва Беларускі Дом друку"

(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1561

Нумар падпісаны ў друк 25.07.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1721

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12